# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



**BELARUSIAN DIGEST**

**ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 120 | March 2005 Сакавік | Год выд. 13.


# Станіслаў Шушкевіч пра Беларусь

Сталічная штодзёнка "Życie Warszawy" друкуе на цэлую старонку інтэрвію з былым спікерам беларускага парлямэнту Станіславам Шушкевічам на тэму сытуацыі ў сёньняшняй Беларусі. На ягоную думку, гэта апошняя дыктатура ў Эўропе, паколькі ўсе былыя савецкія рэспублікі прайшлі складаны шлях трансфармацыі ад савецкай сыстэмы да дэмакратыі. Апошнім часам ва Ўкраіне адбылася аранжавая рэвалюцыя. Засталася толькі Беларусь. Праўда, дадае Шушкевіч, перад Украінай цяжкія часы, паколькі сілы рэакцыі будуць старацца перашкаджаць у будаваньні свабоднай дзяржавы, а Расея будзе іх падтрымліваць.

У Беларусі няма моцных палітычных элітаў, якія павялі б за сабою народ, паколькі на працягу гісторыі найлепшыя прадстаўнікі беларускай нацыі вынішчаліся. У савецкія часы людзі прыстасаваліся да цяжкіх умоваў, казалася нават, што яны былі больш расейскія, чым самі расейцы. Пасьля атрыманьня незалежнасьці ў 1991 годзе ўзровень жыцьця выразна пагоршыўся. Людзі гэтага не разумелі, а не было палітычнай сілы, якая змагла б растлумачыць народу, чаму так адбываецца. Камуністычныя сілы ізалявалі людзей ад інфармацыі пра дэмакратычныя рэформы ў Польшчы, Летуве, іншых краінах. Незадавальненьне народу й адсутнасьць рэформаў дазволілі Лукашэнку прыйсьці да ўлады. А ён пачаў уводзіць новы парадак. У ягонай камандзе не было прафэсіяналаў, затое хапала калегаў па пляцы, ды было некалькі афіцэраў КДБ. З часам многія адмовіліся ад супрацоўніцтва. Даўжэй застаўся пры ім Віктар Шэйман, якога апазыцыя абвінавачвае ў наладжаньні палітычных забойстваў, ды Ўрал Латыпаў, які лічыцца рэзыдэнтам расейскай разьведкі. Не засталося ніводнага міністра, якіх Лукашэнка на пачатку хваліў. Некаторыя з іх проста зьнікалі бязь вестак. Лукашэнка казаў, што зьнікаюць тысячы людзей, і нічога дзіўнага ў гэтым няма. Сёньня ў Беларусі няма палітыка, які б крытыкаваў прэзыдэнта, і не адсядзеў за свае словы ад 15 дзён да некалькіх гадоў. Непакорных б'юць, шантажуюць, кідаюць у вязьніцы, альбо яны проста зьнікаюць. Лукашэнка ўзяўся таксама за прыватны бізнэс, дзяржава кантралюе практычна ўсе сфэры жыцьця, у тым ліку сродкі масавай інфармацыі. Такім чынам апазыцыя ўвогуле ня мае доступу да тэлевізіі, радыё ды газэтаў. Партыі ня могуць працаваць у прыватных кватэрах, а ўлады не згаджаюцца здаваць ім офісы. Апазыцыя ня мае ніводнага прадстаўніка ў парлямэнце, у спонсараў няма адвагі, каб фінансамі падтрымліваць апазыцыянераў. Няма лідэра падобнага да Юшчанкі, няма вялікай дыяспары на сьвеце, якая б падтрымлівала рэформы ў краіне. Гэта адрозьнівае Беларусь ад Украіны.

Аляксандар Лукашэнка падаўляе бунты сілаю – дадае Станіслаў Шушкевіч, – ды перамагае на ўсіх рэфэрэндумах, паколькі беларускі народ пазбаўлены магчымасьці выбіраць. Дарэчы, Гітлер таксама перамагаў на рэфэрэндумах, а менавіта правадыра Трэцяга Рэйху беларускі прэзыдэнт лічыць аўтарытэтам. У інтэрвію для нямецкай штодзёнкі ён сказаў, што Нямеччына расквітнела, дзякуючы цьвёрдай уладзе, і што ня ўсё тады было дрэнна. Лукашэнка, так як Сталін, усюды бачыць загавар. Беларусь стала рэзэрвовым лётнішчам для расейскіх алігархаў ды палітычных партыяў. Не за "дзякуй" спікер расейскай Думы Генадзь Селязнёў падтрымліваў Лукашэнку. Прэзыдэнт фінансуе выбарчыя кампаніі расейскіх камуністаў. Сам Лукашэнка стаў вельмі багатым чалавекам. Калісьці ў яго не было парадачнага пінжака, цяпер ён ходзіць у вельмі дарагіх рэчах. Пасьля распаду СССР у дзяржаве засталіся агромныя вайсковыя арсэналы. Усе яны былі прададзеныя. Дзе сёньня мільярды даляраў за ўзбраеньне, прададзенае за мяжу? – пытаецца Станіслаў Шушкевіч.

. Захад не асабліва цікавіцца Беларусяй, паколькі ў яго няма там стратэгічных інтарэсаў. Найбольш яго цікавіла тое, каб вывесьці з краіны ядзерную зброю. Цяпер у Беларусі атамных бомбаў няма, а дэмакратычныя краіны забылі пра гэтую невялікую дзяржаву. З Беларусяй можа здарыцца гісторыя, як у Біблії – дзе Майсей так доўга вадзіў габрэяў па пустыні, што наступныя пакаленьні проста павымералі – сумна падсумоўвае сваё інтэрвію для сталічнай штодзёнкі "Życie Warszawy" Станіслаў Шушкевіч.

# *Са сьвятам – Днём Незалежнасьці, 25-га Сакавіка!*



Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі у здагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?!

Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

## Беларусізацыя «Euronews»

Найбуйнейшы эўрапейскі тэлеканал навін пляное экспансію на ўсход. Намер «Euronews» распачаць вяшчаньне па-беларуску — самы рэалістычны праект з усіх, якія дагэтуль прапаноўвалі беларусам.

Украінская рэвалюцыя паказала: для таго каб дамагчыся зьмен, кроў з носу патрэбны незалежныя электронныя мэдыі. У кіраўнічых структурах ЭЗ ды заходніх фондах распачалася дыскусія на тэму адкрыцьця замежнага вяшчаньня на Беларусь. Чаго толькі ні прапануюць: і вэб-парталы, і новыя радыёстанцыі, і нават спадарожнікавы тэлеканал накшталт такога, які маюць курды. Аднак дагэтуль усе пляны загразаюць у абмеркаваньні каштарысу, нібы воз у балоце. Таму намер «Euronews» распачаць вяшчаньне па-беларуску — сапраўдная сэнсацыя. Гэта самы рэалістычны праект з тых, якія дагэтуль прапаноўвалі беларусам...

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108;
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ЗВОН СВАБОДЫ

Зь першае хвіліны зьяўленьня на сьвет дзіця акунаецца ў стыхію колераў і гукаў... Што зь іх мацней уплывае й кшталтуе душу чалавека? Колер, форма, гук, музыка. Гэта найбольш эмацыйныя чалавечыя пачуцьці. Мы бачылі, як колер ружы – знак любові й міласьці – яднаў нацыю, абуджаў народ на рашучыя дзеяньні – зьмяніць звыклы, накінуты палітычнымі пярэваратнямі непрымальны для большыні лад жыцьця. І ўрэшце зрабіцца гаспадарамі ў сваёй хаце. Памаранчавы колер вядзе людзей на Майдан Незалежнасьці, каб паказаць усяму сьвету: "ми є нація, ми є народ.. "

Нашыя колеры, што павінны лучыць нас, – глыбока сакральныя. Бел-чырвона-белае – як пакутлівая Плашчаніца Хрыста. Наш гук – поліфанічны гулкі звон -- з даўніх часоў зваў нас на веча вяршыць сваю гісторыю, свой лёс. У час, калі нашыя душы засьмечаныя хлусьнёй і крывадушшам, калі няма свабоды, якая б давала асобе магчымасьць рэалізаваць свае здольнасьці, калі палітычныя інтрыгі, сумнеўныя дамовы пагражаюць поўнаю стратаю незалежнасьці, калі наша родная спрадвечная мова, як тая падчарка, гнаная ў родным краі – пара біць у званы!

Наступае час нашага беларускага Звана Свабоды. Хай ён страсяне паветра, і розгалас ягоны магутнай хваляй пачуецца ад Сьвятой Сафіі ў Полацку да Калоскай царквы й Катэдры ў Горадні, ад Буга да Дняпра, ад Усходу да Захаду. Гэты звон будзе несьці накрэсьленыя на ім духоўныя сымбалі нашых прашчураў, словы ад Бібліі Францішка Скарыны да прарочых выказваньняў Васіля Быкава. На ім будзе красавацца выява імклівай Пагоні – адзнака незалежнасьці, моцы й адвагі.

З найдаўніх часоў ідуць пагалоскі пра званы. Мяркуюць, што радзімай званоў у звыклым нам выглядзе быў горад Ноля, што ў Італіі. Вынайшаў іх, кажуць, Понтыюс Мэраніюс Паўлін, які жыў у 353-431 гг. У паданьні расказваецца, як сьвяты Паўлін абыходзіў сваю эпархію, хадзіў зь вёскі ў вёску, падбадзёрваў сваю паству ў Хрыстовую веру – ды сустрэў халодную абыякавасьць, няверу, адчай. І цяжкія думкі адолелі сьвятога япіскапа.

Зьвярнуўся сьвяты Паўлін з малітваю да Бога: "Божа, падай свой голас да гэтай беднай цёмнай зямлі... Злучы нашыя сэрцы пры нашай разьяднанасьці, зьбяры разам усіх, хто заблудзіў, каб сэрцы нашыя, адданыя Табе, не блукалі ў бязьмежнай цямрэчы". Паводле ўзораў кветак-званочкаў ён з суседам-меднікам з расплаўленага мэталю – медзі, волава й бісмуту – пачаў адліваць свой звон. І калі справа была скончаная, стукнуў малатком па адлітым звоне, і слых ягоны крануў срабрысты гук Боскага голасу.

Божа, зьвяртаемся мы да Цябе: дай нам сілы, моцы й веры зьдзейсьніць задуманае, спраўдзіць наш беларускі Звон Свабоды, які б абуджаў нашых людзей ад летаргічнага сну, каб адолелі яны абыякавасьць і бязьвер'е. А пляцы нашыя каб гудзелі, зьвінелі срэбнай хваляй Звана Свабоды, гналі з нашага дому ліхадзеяў, ілгуноў, далакопаў і забойцаў. Зь верай у гэта разам зьдзейсьнім запавет нашых слаўных продкаў.

Станьма дружна разам за нашую Вольнасьць, як калісь заклікаў Кастусь Каліноўскі!

Аляксей **Марачкін**

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# 25 Сакавіка загучыць Звон Свабоды

Сёлетні Дзень Незалежнасьці 25 Сакавіка павінен даць беларускаму народу, які зачакаўся свабоды, каліва надзеі й натхненьня. У краінах эўраатлянтычнай цывілізацыі людзі традыцыйна шануюць і душою адчуваюць покліч звону. Скульптар Алесь Шатэрнік і мастак Аляксей Марачкін прапанавалі адліць Звон Свабоды, узьвіжаньне якога ўчыніць менавіта ў Дзень Незалежнасьці. На Зване Свабоды, адлітым з адмыслова-сымбалічнага мэталю, будуць выяўленыя нашыя нацыянальныя сьвятыні, біблійныя словы пра Свабоду, пасланьні нашых вялікіх продкаў.

Разам з спсп. Шатэрнікам і Марачкіным у Арганізацыйны камітэт на гэты момант увайшлі Ўладзімер Арлоў, Вацлаў Арэшка, Лявон Баршчэўскі, Алесь Бяляцкі, Пётра Васілеўскі, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч, Вольга Іпатава, Артур Клінаў, Валеры Мазынскі, Валянціна Трыгубовіч, Міхась Чарняўскі. Наступным разам Арганізацыйны камітэт "Звон Свабоды" зьбярэцца ў пятніцу, 11 лютага, а 17 гадзіне ў Сядзібе БНФ на вул. Варвашэні, 8. Тамсама ж пастаянна адбываецца збор сродкаў на адліў Звону. Запрашаем далучацца да супольнае працы ўсіх неабыякавых да задумы ўзьняць над Беларусьсю Звон Свабоды.

Арганізацыйны камітэт "Звон Свабоды"

************************************

# Інтэрвію са Станіславам Шушкевічам

Спадар старшыня, завершыўся візыт прадстаўнікоў Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ ў Менск. Яны заявілі, што сытуацыя ў краіне пагаршаецца, а апошнія парлямэнцкія выбары нельга назваць дэмакратычнымі. Як Вы пракамэнтуеце вынікі візыту?

**Шушкевіч:** "Калі казаць пра выбары, то дзіўным было б, калі б яны заявілі нешта іншае. Яны канстатавалі такія парушэньні, якіх у цывілізаваным сьвеце не бывае. Мяне аднак хвалюе іншая пазыцыя. Я сустракаўся з Утай Цапф і дэлегацыяй. Яны шукаюць падставаў для шырокага дыялёгу, лічачы парлямэнт нелегітымным. Аб якім шырокім дыялёгу йдзе гаворка? Дыялёг можа быць толькі з адным чалавекам, таму што парлямэнт зьяўляецца толькі гэтак званым буферам, які нічога не вырашае. Дыялёг з парлямэнтам да нічога не давядзе. Я патлумачыў гэта Уце Цапф. Думаю, што яны зробяць пэўныя высновы, калі вярнуцца дадому. Дыялёг можа быць толькі паміж апазыцыяй і тымі, хто мае рэальную ўладу. Парлямэнт такой улады ня мае.

Міжнародную грамадзкую думку занепакоіў новы дэкрэт Аляксандра Лукашэнкі, на аснове якога ў адносінах да пратэстоўцаў цяпер будзе можна выкарыстаць зброю. Шмат публікацыяў таксама было і ў Польшчы на гэтую тэму. Аднак няма афіцыйнай рэакцыі з боку міжнародных арганізацыяў.

**Шушкевіч:** "Лукашэнка знаходзіцца ў злачынным асяродзьдзі, якое падзяляе зь ім уладу. Абсалютна ясна, што гэтае асяродзьдзе баіцца справядлівага суду. У іх руках цяпер АМОН, зброя й суд. Міжнародная супольнасьць аказвае нам маральную падтрымку. Замест сказаць дакладна й ясна Расеі – перастаньце падтрымліваць гэты рэжым – паважаны Пуцін і расейскія кіраўнікі. Толькі расейскія кіраўнікі ды іх сатрапы ў краінах СНД прызнаюць выбары ў Беларусі.

Верагодна, два гады засталіся да прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі. Ёсьць патэнцыял, які далі падзеі ў Грузіі ў мінулым годзе ды ва Ўкраіне. Вы – так як і астатнія беларускія палітыкі – кажаце пра "маральную падтрымку" з боку Захаду. Ці яна дастатковая?

**Шушкевіч:** "Крышку ўжо абрыдла. Давайце ўдакладнім. Мы можам час ад часу выехаць недзе й расказаць, што ў нас адбываецца. Нам паспачуваюць. Усё! Уся падтрымка заключаецца ў тым, што мы маем месца, дзе прыехаць і маем дзе вяртацца. Мне здаецца, што склаўся такі тып працы ў эўрапейскай супольнасьці: яны вельмі спачуваюць, яны на розных узроўнях разглядаюць, а калі казаць, для прыкладу, пра мандат АБСЭ ў Беларусі, то на аснове яго можна толькі дапамагаць нашаму рэжыму жудасна ставіцца да апазыцыі. Амбасадар Хайкэн ня мае ніякіх правоў у Беларусі.

Размаўляў **Тамаш Саевіч, Варшава**

************************************

# Закону "Аб мовах" -- 15 гадоў. Згортванне беларусізацыі прывяло да таго, што руская мова заціснула беларускую

Кірыла ПАЗНЯК

15 гадоў таму, 26 студзеня 1990 года, у нашай краіне быў прыняты закон аб мовах, паводле якога беларуская мова прызнавалася адзінай дзяржаўнай. Пачалася павольная беларусізацыя.

Натуральна, на беларускую мову тады ў побыц пераходзілі тыя, хто хацеў. А вось на працы багата каму гэта даводзілася рабіць не толькі паводле жадання, а таму што трэба — справаводства было ж беларускамоўным. Зрэшты, асаблівых народных енкаў чуваць не было. Гвалт час ад часу ўсчыналі, бэсцячы клятых нацыяналістаў, рознага кшталту баявыя апалагеты славянскай ідэі.

Добры прыклад народу падавалі чыноўнікі: бралі ў сваіх дзяцей і ўнукаў падручнікі — і вучыліся ці дасканаліліся ў моўных ведах, патнелі, але праводзілі па-беларуску планёркі. На радыё і па тэлебачанні таксама стараліся прамаўляць ці даваць інтэрв'ю на беларускай мове. Хай почасту і каравата. Але ж і цяпер па-руску многія з чынавенства выказваюць свае думкі так, што хоць ты ў школах на уроках дзецям расказвай, як не трэба мовіць.

"Трасянка" жыла, жыве і будзе жыць!

Паводле старшыні Таварыства беларускай мовы Алега Трусава менавіта яна выратуе беларускую мову. У інтэрв'ю БелаПАН ён выказаў думку, што ў Беларусі назіраецца працэс трансфармацыі праз "трасянку" рускай літаратурнай мовы ў беларускую. "Гэты працэс выкліканы набыццём незалежнасці і спыненнем прытоку ў краіну маладых спецыялістаў з Расіі — новых носьбітаў рускай літаратурнай мовы. А рускамоўнае насельніцтва, якое жыве ў Беларусі, паступова асімілюецца ў асяроддзі, большасць прадстаўнікоў якой, у тым ліку і айчынныя чыноўнікі, у асноўным, выхадцы з вёскі, гавораць на "трасянцы", — лічыць Алег Трусаў. Старшыня ТБМ мяркуе, што прыкладна праз 20-25 гадоў усё насельніцтва Беларусі загаворыць на "трасянцы", а потым — і на літаратурнай беларускай мове. Даеш іспыты ў ВНУ па "трасянцы"! Цэніць "трасянку" як моўны здабытак нацыі і прэзідэнт: "Нас некаторыя папракаюць за рускую мову. Ну якая ж яна руская! Чаго мы адмаўляемся ад таго, што мы стварылі за гады савецкай улады? Чыста руская мова адрозніваецца ад мовы, на якой гаворым мы. Нехта называе гэта "трасянка", ну што ж, хай будзе і "трасянка". Мы стварылі гэтую мову".

Беларусізацыя ў першай палове 1990-х гадоў была менавіта павольнай — ніхто нікога беларускай мовы вучыць не прымушаў, на рускамоўных пальцам не тыцкаў і на чамаданы не саджаў. Так званых перагінаў не было. Хаця гэта як каму. Але моўная палітыка ў Беларусі была ў дзясяткі разоў лагаднейшая, чымсьці, скажам, у краінах Балтыі. У выніку ў 1995 годзе ў нашай краіне па-ранейшаму ва ўсіх сферах пераважала руская мова. Дый калі б у тым годзе не адбыўся рэферэндум, усталяваўшы руска-беларускі білінгвізм, беларуская мова наўрад ці б і сёння ўжывалася нароўніцу з рускай. Але згортванне беларусізацыі прывяло да таго, што руская заціснула беларускую. Усім прэтэнзіям з боку нацдэмаўскай публікі улады даюць такі адлуп: народу дадзены моўны выбар, людзі гавораць на той мове, на якой хочуць. Збольшага па-руску. Але чаму дзяржава не займаецца папулярызацыяй беларускай мовы? Чаму ідэалогіяй, патрыятычным выхаваннем займаецца, а мовай — не? Прычым ідэалогія распаўсюджваецца, уганяецца ў галовы без усялякага выбару.

Прэзідэнт з ягоным агромністым паводле афіцыйных вынікаў апошняга рэферэндума крэдытам даверу ад насельніцтва мог бы багата зрабіць для беларусізацыі. Магчыма, ён даэвалюцыянуе разам з народам у часе якога-небудзь эннага прэзідэнцкага тэрміну і да гэтага. Прыйшоў жа ён да здаровага эканамічнага нацыяналізму!

Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, Аляксандр Рыгоравіч!

Запусціць працэс беларусізацыі можна, прыкладам, з усталявання эфірнага нарматыву беларускамоўных песень на радыё. Скажам, каб з 75 працэнтаў беларускай музыкі 30-40 займалі беларускамоўныя кампазіцыі. Потым — унясенне зменаў у закон аб мовах. Тым больш што адпаведны законапраект ужо падтрыханы. На грунце прапаноў ТБМ аб зменах у моўны закон яго распрацавалі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Здановіч і Ігар Катляроў. Нават Канстытуцыйны суд зрабіў зварот да парламентарыяў, каб тыя ўдасканалілі закон аб мовах дзеля ўраўнаважання пазіцый рускай і беларускай моў. То бок суд прызнаў, што беларуская мова ў занядпадзе.

Але гэта законапраект закінуты ў шуфляду. У гэтым годзе, як і летась, у парламенце ён разглядацца не будзе. Як распавёў у інтэрв'ю "Белорусским новостям" Уладзімір Здановіч, "па тэхнічных прычынах"...

**********************************************

# Звод клясычнага правапісу гатовы

«Каб правапіс быў ня рэбусам, а інструментам, простым для карыстальніка».

Група мовазнаўцаў практычна завяршыла сваю працу над новым Зводам правілаў клясычнага правапісу. Праект дасланы на апошнія рэцэнзіі. Мяркуецца, што пасьля надрукаваньня ім будуць кіравацца незалежныя выданьні і скончыцца разнабой. На пытаньні «НН» адказвае *Зьміцер Саўка*.

**«НН»: Клясычны правапіс вярнуўся ў беларускі друк 15 гадоў таму. Ён прыстасаваўся да сучасных моўных рэаліяў. Але нават нязначныя адрозьненьні між яго варыянтамі, практыкаванымі ў розных выданьнях, блытаюць яго карыстальнікаў. Да якога этапу прасунулася справа кадыфікацыі клясычнага правапісу?**

**Зьміцер Саўка:** Маем праект, вынік нашай дзейнасьці за пяць гадоў. Перад заканчэньнем працы мы зьвярнуліся з анкетаю, якую друкавала таксама «НН». І атрымалі водгукі, якія былі ўлічаны пры падрыхтоўцы праекту. Цяпер мы разаслалі праект на рэцэнзію ў 25 выданьняў і інстытуцыяў, у тым ліку Беларускую асацыяцыю журналістаў, Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук, газэты «Звязда», «Наша Ніва», часопісы «Роднае слова», «Arche», «Дзеяслоў», асобным людзям накшталт а.Аляксандра Надсана, Уладзімера Арлова, Аляксея Рагулі й інш. з просьбай даслаць водгукі да 1 лютага.

Па выніках рэцэнзій працоўная група выпрацуе канчатковае рашэньне. Яно будзе рэалізавана ў выданьні, якое выйдзе вялікім накладам. Таксама яно будзе выстаўлена ў Інтэрнэце і адкрыта для карыстаньня. Спа¬дзяемся, што цалкам надрукуюць гэты Звод незалежныя пэрыядычныя выданьні, — «Наша Ніва» і «Наша слова» абяцалі.

**«НН»: Цягам якога часу можна будзе чакаць апублікаваньня?**

Калі рэцэнзэнты не затрымаюць (мы прадугледжваем, што нехта можа напісаць вельмі шырокі грунтоўны водгук, зь якім нам прыйдзецца доўга разьбірацца), да 1 сакавіка будзе прынята канчатковае рашэньне. Плюс нейкі час на выданьне. Такім чынам, можна лічыць, што кніжка будзе прымеркаваная да 25 Сакавіка.

У выданьні будзе таксама паказьнік слоў, правапіс якіх рэгулюецца Зводам, і адваротны слоўнік, які будзе паказваць правапіс фіналяў. Ён дасьць магчымасьць чалавеку, які не знаходзіць правапісу канкрэтнага сло¬ва ў кніжцы, зазірнуць у слоўнік і паглядзець, як пішуцца падобныя словы.

**«НН»: Ці будзе гэты Звод уве¬дзены ў праграму праверкі арта¬графіі «Літара»?**

На ўзроўні падыходаў тое, што мы падалі год таму ў «Літару», і тое, што трапіць у канчатковы Звод, практычна не адрозьніваецца. Зьмяніліся хіба што нейкія ілюстрацыі, напісаньні канкрэтных слоў. Іншая рэч, што лю¬дзі, якія працавалі зь «Літарай», ня ўсё ўлічылі з таго, што мы падавалі. Разьбежнасьць не фатальная, але што датычыць правапісу пазычаньняў — заўважная, і прый¬дзецца «Літару» падправіць. Я перадаў праект каардынатару «Літары» Сяргею Кручкову, перашлю таксама каардынатару праекту з боку фундатараў — Сяргею Шупу.

##############################################

# Якія нацыянальныя сымбалі могуць быць сымбалямі прэзыдэнцкай улады? Якой можа быць працэдура перадачы найвышэйшай улады ў Беларусі?

Удзельнічаюць палітык Вінцук Вячорка і пісьменьнік Уладзімер Арлоў. /Радыё Свабода/

(Вячаслаў Ракіцкі:) "Нядаўна новы кіраўнік украінскай дзяржавы Віктар Юшчанка прыняў прысягу прэзыдэнта Украіны. Словы клятвы ён прамаўляў, паклаўшы руку на старажытнае рукапіснае Перасопніцкае Эвангельле і Канстытуцыю. У залі парлямэнту Віктару Юшчанку былі ўручаныя знак прэзыдэнта ў выглядзе нагруднага ланцугу, эталён прэзыдэнцкай пячаткі і булава Багдана Хмяльніцкага — знак вярхоўнага галоўнакамандуючага. Уся цырымонія адбывалася пад "Прэзыдэнцкім штандарам". Была прамоўленая і малітва за Украіну. Нашы слухачы, якія глядзелі тэлетрансьляцыю інаўгурацыі, задаюць пытаньне: а якой можа быць працэдура інаўгурацыі беларускага дэмакратычнага прэзыдэнта, калі такі будзе абраны народам?

Зазначу, што нашыя экспэрты — і Уладзімер Арлоў, і Вінцук Вячорка — былі непасрэднымі відавочцамі аранжавай рэвалюцыі. Пад бел-чырвона-белымі сьцягамі яны прадэманстравалі сваю падтрымку украінскім калегам і сябрам. А Вінцук Вячорка як старшыня Партыі БНФ у якасьці госьця прысутнічаў на інаўгурацыйных мерапрыемствах. І вось вам першае пытаньне: ці магчымае перайманьне ў Беларусі новага досьведу суседняй дзяржавы?"

(Вінцук Вячорка:) "Для таго, каб пераняць менавіта гэты, студзеньскі досьвед Украіны, трэба, каб Беларусь стала іншаю дзяржаваю. Рэч у тым, што ўведзены ў інаўгурацыйную ўрачыстасьць вельмі істотны, ключавы кампанэнт — прысяга ўкраінскага прэзыдэнта непасрэдна ўкраінскаму народу: прысяга на Майдане, прысяга з новымі, раней ня бачанымі ў іншых эўрапейскіх сталіцах, рытуаламі, прысяга ў прысутнасьці ўсёй сваёй сям'і. Цікава, што Юшчанка выпусьціў белых галубоў у неба. Гэта былі крымскія галубы, і яны паляцелі ў Крым. І я адразу прыгадаў першаснае значэньне слова "інаўгурацыя": гэта наданьне ў старажытным Рыме статусу аўгура — сьвятара, які паводле крыку і руху птушак адгадвае волю багоў. То бок, прадэманстраваная еднасьць абноўленага Кіева з эўрапейскай, рымскай цывілізацыяй".

(Уладзімер Арлоў:) "Украінскі досьвед заслугоўвае пераймаыньня ў тым сэнсе, што інаўгурацыя не павінна нагадваць паседжаньне гаспадарчага актыву, адбывацца кулюарна, а павінна быць актам агульнадзяржаўнага гучаньня".

(Ракіцкі:) "З вашага гледзішча, ці ёсьць гэта важным у 21 стагодзьдзі далучэньне да нацыянальнай традыцыі на такім высокім палітычным узроўні? Сымбалі прэзыдэнцкай улады ва Украіне былі дастаўленыя з нацыянальных і замежных сховішчаў. Ці варта выцягваць з музэяў і архіваў экспанаты і рабіць іх сымбалямі прэзыдэнцкай улады?"

(Арлоў:) "Менавіта нацыянальная ідэя аб'яднанала бальшыню ўкраінскіх выбаршчыкаў і прывяла да перамогі Віктара Юшчанку. Я ня бачу іншай ідэі, якая магла б задзіночыць беларусаў дзеля зьмены сытуацыі ў нашай краіне. Таму нацыянальныя традыцыі ў той ці іншай ступені павінны прысутнічаць у такой надзвычай важнай дзяржаўнай падзеі, як уступленьне прэзыдэнта на сваю пасаду. Гэта будзе падкрэсьліваць адданасьць найвышэйшай дзяржаўнай асобы найперш інтарэсам сваёй нацыі, сваёй дзяржавы".

(Вячорка:) "Інаўгурацыя — гэта цырымонія, якая мае адно функцыянальнае значэньне: абазначыць момант перадачы ўлады ад папярэдняга кіраўніка наступнаму. Абазначыць гэтую сэкунду, ахінуўшы яе цэлай нізкай рытуалаў, момантаў, дэталяў, якія сьведчаць пра падмурак дзяржавы, пра яе далейшую арыентацыю і выбар, пра яе цывілізацыйную прыналежнасьць, а таксама задаць моду на каштоўнасьці, арыентацыі вялікім сацыяльным групам — перадусім элітам. Вось чаму украінцы вельмі дакладна прадумалі кожную дэталь інаўгурацыі. Віктар Юшчанка зьвярнуўся да дзяржаўных сымбаляў казацтва — таго гістарычнага фэномэну, што адназначна трактуецца як украінскі. Але былі іншыя моманты. Прыкладам, Кацярына Юшчанка ў аздабленьні вопраткі скарыстала (ясна, што часова) херсанэскае ўпрыгожаньне, што павінна было падкрэсьліць, што ўкраінская дзяржава ўзьнікла не ў 1991 годзе і нават не ў 1918 годзе, хоць гімн "Ще не вмерла Украïна" — гэта менавіта гімн Украінскай Народнай Рэспублікі".

(Ракіцкі:) "Сёньня атрыбутам улады прэзыдэнта Беларусі зьяўляецца па сутнасьці толькі прэзыдэнцкі штандар — дзяржаўны сьцяг з упісаным у яго поле дзяржаўным гербам. Яшчэ ў часе інаўгурацыі Лукашэнкі яму ўручылі прэзыдэнцкае пасьведчаньне. А якія сымбалі найвышэйшай улады існавалі ў старажытнай беларускай дзяржаве? Ці існавалі ў старажытнай беларускай дзяржаве традыцыі перадачы найвышэйшай улады? Што зь іх можа быць выкарыстана ў выпадку прыходу да ўлады ў Беларусі дэмакратычнага прэзыдэнта? Давайце тут абмяжуемся пераважна пэрыядам поўнай дзяржаўнай самастойнасьці беларускіх земляў — гэта значыць, часамі Вялікага Княства Літоўскага".

(Арлоў:) "Атрыбутамі найвышэйшай дзяржаўнай улады ў пэрыядзе Вялікага Княства Літоўскага скіпэтар ці бэрла (паводле слоўніка Вацлава Ластоўскага), залаты яблык з крыжам наверсе як яшчэ адзін сымбаль улады, а таксама вялікакняскі меч. З тым альбо іншым атрыбутам улады мы бачым нашых манархаў на гравюрах славутай хронікі эўрапейскай Сарматыі Аляксандра Ваніні: Міндоўг зь мячом, Віцень Гедымін таксама зь мячом, Альгерд са скіпэтрам, Ягайла трымае скіпэтар і яблык у руках, у Вітаўта ў руках таксама скіпэтар. У часе дзяржаўных і вайсковых урачыстасьцяў у тыя часы абавязкова прысутнічалі герб і сьцяг дзяржавы. Гербам была, як вядома, "Пагоня".

Дзяржаўны сьцяг да 16 стагодзьдзя ўяўляў сабой пурпуровае (чырвонае) палотнішча з вышытай на ім з аднаго боку "Пагоняй", а з другога — Багародзіцай з Ісусам-немаўляткам. У часе ўрачыстасьцяў гучаў гімн. Скажам так, што гімна ў клясычным разуменьні слова ў ВКЛ, як і ў іншых эўрапейскіх дзяржавах, не існавала. Але нашым старажытным гімнам мы можам лічыць "Багародзіцу" — старажытную малітву, словы якой і музыку стварылі нашыя продкі яшчэ ў 13 стагодзьдзі. Гістарычныя хронікі сьведчаць, што "Багародзіцу" сьпявала ўсё нашае войска напярэдадні "Грунвальдзкай бітвы". "Багародзіца" гучала і напярэдадні іншых бітваў, і агульнадзяржаўных урачыстасьцяў".

(Ракіцкі:) "Ведама, што людзі звычайна прысягаюць на тым, што ім дорага. Якія нацыянальныя сьвятыні Беларусі могуць стаць сымбалямі прэзыдэнцкай улады? На якіх нацыянальных сьвятынях, з вашага гледзішча, можа прысягнуць Айчыне і сваійму народу будучы прэзыдэнт будучай дэмакратычнай дзяржавы?"

(Вячорка:) "Мне здаецца, што мы павінны падкрэсьліваць шматэтапнасьць узьнікненьня і існаваньня нашае дзяржаўнасьці. У прадмове да Канстытуцыі напісана, што грунтуецца Канстытуцыя на шматвекавой гісторыі разьвіцьця беларускай дзяржаўнасьці. Відавочна, што і сымбалі, на якіх прысягаць (і, магчыма, мясьціны, дзе прысягаць), павінны быць зьвязаныя з гэтымі вяхамі — Полацак, Наваградак, можа быць, Нясьвіж. Трэба таксама прадумаць, якая мясьціна ў Менску павінна была б быць такім пляцам — нашым Майданам Незалежнасьці. Зрэшты, у нас ёсьць Плошча Незалежнасьці, дзе прысяга магла б адбыцца.

Што да музычнага складніка інаўгурацыі, мне здаецца, што шматстайнасьць рытуалу дазволіла б знайсьці месца і "Багародзіцы", і "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" — гімну барацьбітоў за ідэалы БНР, і духоўнаму гімну "Магутны Божа". Пры гэтым я цяпер не чапаю дыскусіі, якім павінен быць наш дзяржаўны гімн, хаця асабіста лічу, што тут павінна быць традыцыя БНР. Дарэчы, урачысты інаўгурацыйны канцэрт у Кіеве, дзе былі прадстаўленыя проста раскошна выкананыя ўзоры украінскай клясыкі і народнае музыкі, быў завершаны не абы-чым, а 9-й сымфоніяй Бэтховэна — "Одай да радасьці" на нямецкай мове, гімнам аб'яднанай Эўропы".

(Арлоў:) "Што тычыцца нацыянальных сьвятыняў, якія маглі б стаць сымбалямі найвышэйшай дзяржаўнай улады... Калі б на радзіму вярнулася галоўная нацыянальная сьвятыня — Крыж Эўфрасіньні Полацкай, то прэзыдэнт абавязкова павінен быў бы прысягаць на гэтым крыжы — сымбалі нашай старажытнай далучанасьці да хрысьціянскай цывілізацыі і адначасна сымбалі нашай старажытнай дзяржаўнасьці. Яшчэ я думаю пра тое, што варта было б выкарыстаць у інаўгурацыйным рытуале Скарынаву Біблію. Гэта нагадала б сьвету пра нашу эўрапейскую гісторыю і культуру, пра тое, што беларусы атрымалі друкаванае Сьвятое Пісьмо на сваёй мове раней за большасьць эўрапейскіх народаў, у тым ліку раней за французаў, ангельцаў.

Я згодны са спадаром Вячоркам, што нейкая частка інаўгурацыйных урачыстасьцяў павінна была б адбыцца ў Полацку, там, дзе калыска нашай дзяржаўнасьці, дзе пачатак тысячагадовай традыцыі нашай дзяржаўнасьці. І я лічу, што гэта магло б адбыцца ў Сафійскім саборы, альбо на Верхнім замку ў Полацку, дзе, я спадзяюся, у бліжэйшы час паўстане конны помнік Усяславу Чарадзею — аднаму з будаўнікоў і абаронцаў нашай старажытнай дзяржавы. Сафію можна ўмоўна лічыць экумэнічным храмам, бо сабор, на шчасьце, ня быў перададзены ніводнай з канфэсіяў, якія заяўлялі на яго свае правы, дарэчы, гістарычна абгрунтаваныя. Яшчэ я нагадаю, што Сафія была сымбалем нашай дзяржаўнасьці, якая сымбалізавала роўнасьць Полацку з Кіевам і Ноўгарадам у тыя часы".

(Вячорка:) "Я дадаў бы да тых важных зьяваў культуры, апрадмечаных сымбаляў, на пераемнасьць зь якімі мусіць абапірацца лідэр беларускай дзяржавы, таксама Статут Вялікага Княства, які быў адной зь першых у Эўропе адначасна і Канстытуцыяў, і прававых кодэксаў, і сьведчыў пра дэмакратычную сьпеласьць беларускага грамадзтва. Яшчэ дадаў бы Слуцкі пояс, які мог бы быць складовай часткай пасьвячэньня лідэра дзяржавы ў культурна-эстэтычную традыцыю Беларусі. Я таксама падумаў бы пра такі сучасны знак адраджэньня Беларусі, як той самы сьцяг, які лунаў над найвышэйшым уладным будынкам да 1994 году і які быў ганебна парваны на кавалкі. Вось гэтыя кавалкі павінны быць знойдзеныя, сабраныя і асьвячоныя. І,магчыма, новы лідэр беларускай дзяржавы меў бы ўдарыць у звон Свабоды, ідэя стварыць які цяпер узьнікла ідэя ў нашых мастакоў, і ўзьвіжаньне якога мае адбыцца сёлета 25 сакавіка".

(Ракіцкі:) "Ва Украіне працэдура інаўгурацыі была адмыслова распацаваная на дзяржаўным узроўні, і нашыя экспэрты сёньня таксама прыходзяць да высновы, што нягледзячы на тое, як будуць разьвівацца палітычныя працэсы ў Беларусі, але ўжо сёньня гісторыкі і палітыкі маюць працаваць у кірунку дасьледаваньня і далейшай распрацоўкі нацыянальнай традыцыі перадачы найвышэйшай улады. Пры гэтым, перадусім мець на ўвазе дзяржавапераемнасьць".

*************************************************

# СЛУХАЙЦЕ БЕЛАРУСКАЕ, НАВАТ КАЛІ МАЕЦЕ ДОБРЫ ГУСТ!

**Колькі год таму ў Беларусі прайшла шырокая інфармацыйная кампанія: "Купляйце беларускае!". Тады беларускія тавары прапаноўваліся на добраахвотных пачатках: хочаце — купляйце, не — дык не.**

Прайшоў час, і ўсё змянілася. Сёння беларусаў не проста вучаць быць патрыётамі, іх ставяць перад фактам: вы павінны рабіць так, як патрабуе дзяржава, альбо... Дыяпазон "альбо" розны, у залежнасці ад таго, які "антыграмадскі" ўчынак зрабіў грамадзянін.

"Антыграмадскай" з некаторых часоў лічыцца нават музыка: усе FM-станцыі краіны з 1 студзеня вымушаны ставіць 75% беларускай музыкі.

І ўсё было б нават добра, калі б не некалькі "але". Па-першае, дзе ўзяць гэтыя тры чвэрці беларускай музыкі — і не абы-якой, а добрай? На жаль, наш айчынны шоу-бізнес больш падобны на ансамбль народнай творчасці,

які выступае ў сельскім клубе. Нават больш-менш "раскручаныя" "зоркі" беларускай эстрады спяваюць такое, што валасы на галаве варушацца.

Па-другое, які сэнс ва ўсіх гэтых абмежаваннях, калі большая частка кампазіцый рускамоўная? Дзе ж наш патрыятызм? Сёння нават рэкламу вялікія карпарацыі, якія працуюць у нашай краіне, робяць на беларускай мове, бо лічаць яе "элітарнай". А вось музыка запісваецца ўсё больш на мове суседзяў.

Па-трэцяе, па прызнанні саміх ды-джэяў радыё, якасць запісаў беларускіх выканаўцаў пакідае жадаць лепшага. Добра яшчэ, што канец мінулага года "падарыў" беларускім FM-станцыям нядрэнныя запісы Руслана Аляхно, Наталлі Падольскай. Але гэта — заслуга расійскага шоу-бізнесу, які знайшоў таленавітых спевакоў. Наўрад ці нехта з іх захоча вярнуцца ў Беларусь, каб тут рабіць музычную кар'еру. Гэта пытанне прэстыжу і грошай, якіх у нашай краіне не заробіш. Таму, напэўна, той жа Сярога з яго "Чорным бумерам" успрымаецца больш расійскім ці нават украінскім спеваком, чым беларускім. Хоць спеваком яго назваць можна вельмі ўмоўна.

А вось такія нядрэнныя беларускія групы, як «Палац», Drum Ecstasy, «Нейра Дзюбель», N.R.M., — пасля выступу на плошчы Бангалор у Мінску летам мінулага года — у эфіры не гучаць, бо страцілі ласку з-за свайго "антыграмадскага" ўчынку — падтрымалі не таго, каго след.

Пакуль што радыёстанцыі знайшлі выйсце: "запісалі ў свае" нават тых выканаўцаў і кампазітараў, якія маюць беларускія карані. "Сваімі" сталі Барыс Маісееў, Юрый Антонаў, "Бі-2" і іншыя. Рэанімавалі нават Ядвігу Паплаўскую і Аляксандра Ціхановіча.

Акрамя таго, круцяць беларускую музыку ўсё больш па начах, калі пераважная частка радыёаўдыторыі спіць. А раніцай і ўвечары суадносіны беларускай музыкі і замежнай выглядаюць нават як адзін да пяці. Але ўжо сёння Міністэрства інфармацыі разглядае пытанне пра тое, каб абавязаць кіраўніцтва радыёстанцый пароўну размяркоўваць беларускую і замежную музыку.

Не выканаеш гэты загад — атрымаеш папярэджанне. Калі FM-станцыя будзе мець два такія папярэджанні, яе могуць увогуле закрыць. На цяперашні час ужо тры станцыі — "Хіт-FM", "Юністар" і "Новае радыё" — "папаліся" на тым, што ставілі больш "не нашай", чым "нашай" музыкі.

Такая практыка існуе і ў іншых краінах свету. Напрыклад, у Францыі FM-станцыі не павінны ставіць больш за 40% замежнай музыкі.

Гэты закон існуе ўжо некалькі дзесяцігоддзяў. Але французская эстрада існуе значна больш. Таму французам ёсць што "круціць". Акрамя таго, максімум, што пагражае французскім станцыям, — гэта штраф. Беларускія рызыкуюць самім сваім існаваннем. Таму штодзень цяпер кожная беларуская радыёстанцыя падае ў Міністэрства плэй-лісты, каб высокія чыноўнікі маглі вырашыць, што слухаць можна, а што — не. Варта адзначыць, што сам па сабе гэты закон вельмі нядрэнны, бо забяспечвае падтрымку беларускіх выканаўцаў, але ўсё гэта не павінна наносіць страты слухачам.

Калі абсалютная большасць сённяшняй беларускай музыкі, на жаль, няякасная, трэба спачатку давесці яе да неабходнага ўзроўню, а ўжо потым пускаць па музычнай "радыёхвалі". А пакуль песняй Беларусі 2004 года стаў той жа "Чорны бумер", безгустоўны і бессэнсоўны...

**************************************************

# У Калінінградзе адкрылі помнік Скарыну

У Калінінградзе падчас паседжання беларуска-расейскай Рады супрацоўніцтва з Калінінградскай вобласцю адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Францішку Скарыну, які ў 1530 годзе езьдзіў у Кёнігсбэрг па справах кнігадрукаваньня на запрашэньне герцага Альбрэхта. Калінінградзкія беларусы зьбіраюцца адкрываць гэты ж помнік 25 сакавіка, на Дзень Волі.

Удзел у адкрыцьці помніка ўзяў паўнамоцны прадстаўнік Аляксандра Лукашэнкі ў Расеі — віцэ-прэм'ер Васіль Даўгалёў. Паводле афіцыйнай інфармацыі беларускага МЗС, помнік Францішку Скарыну адліты з бронзы на Менскім заводзе манумэнтальнага мастацтва і важыць больш за 3 тоны, скульптар — Анатоль Арцімовіч. Аплата і дастаўка ажыцьцяўляліся "Беларуска-балтыйскім гандлёвым домам" і сузаснавальнікам гэтага прадпрыемства — фірмай "Кёнігсбэрг трэйдынг". Месца для помніка ўпарадкавалі за кошт мэрыі ды абласнога Елізавецінскага фонду. Манумэнт Скарыну стаіць на вуліцы Аляксандра Неўскага, каля аднаго з карпусоў Калінінградзкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, дзе працуюць фізычны й матэматычны факультэты, распавёў старшыня Беларускага культурнага таварыства "Каралявец" Ігар Шаховіч.

Ён жа дадаў, што ягоную суполку адхілілі ад усталяваньня гэтага помніка, на якім цяпер напісана па-расейску: "Вялікаму ўсходнеславянскаму асьветніку, беларускаму першадрукару". Спадар Шаховіч кажа, што калінінградзкая філія амбасады Беларусі ў Расеі нават не запрасіла яго на цяперашнюю цырымонію адкрыцьця помніка:

"Мы плянуем таксама адкрываць помнік — на 25 сакавіка. Стаіць ужо зь верасьня помнік, але ў нас тут сытуацыя такая няпростая, таму што адна справа, калі прыедзе чыноўнік і нейкую акцыю там правядзе, а другая справа, што мы гэтым помнікам займаліся вельмі доўга, шмат гадоў, хацелі б імпрэзу ўрачыстую зрабіць — каб быў прадстаўлены скульптар Арцімовіч, навукоўцы, людзі, якія стаялі ля вытокаў гэтага помніка".

Ігар Шаховіч параўноўвае калінінградзкую сытуацыю з маскоўскай, дзе тамтэйшыя беларусы таксама шмат гадоў змагаліся за ўсталяваньне помніка Янку Купалу, а цяпер праект манумэнту зацьвердзіў Аляксандар Лукашэнка, які назваў сябе ініцыятарам гэтай ідэі. Помнік Купалу ў Маскве адкрыюць у трэцім квартале сёлета.

Чакаецца, што спадар Лукашэнка будзе адкрываць помнік Францішку Скарыну ў Менску. Акадэмія навук не захацела ўсталяваць манумэнт каля свайго будынку на праспэкце Скарыны, таму ўлады абяцаюць, што помнік Скарыну будзе стаяць на гэтым жа праспэкце ягонага імя, але далей ад цэнтру — каля новага будынку Нацыянальнае бібліятэкі, якую дабудуюць сёлета і створаць вакол парк.

Што да помнікаў Францішку Скарыну ў замежжы, дык у Празе ён быў адкрыты 31 кастрычніка 1996 году каля замку на Градчанах. Таксама ёсьць мэмарыяльныя шыльды ў памяць Скарыны ў двары Нацыянальнай бібліятэкі Чэхіі, у польскім горадзе Кракаве ды італійскім Падуі.

Якія яшчэ помнікі беларускім клясыкам ёсьць у замежжы? Пакуль на тэрыторыі Расеі стаіць толькі помнік Максіму Багдановічу ў Яраслаўлі. Гэтая копія менскага помніка Багдановічу была ўсталяваная ў тамтэйшым дзяржунівэрсытэце ў 1994 годзе. Раней у Яраслаўлі быў пабудаваны помнік ягонаму бацьку Адаму Багдановічу.

У крымскім Місхоры помнік Максіму Багдановічу ў парку санаторыю "Беларусь" усталявалі яшчэ ў 1957 годзе. Пазалетась у Ялце быў адкрыты і надмагільны помнік Багдановічу.

У Нью-Ёрку ў Арроў парку стаіць бюст Янкі Купалы. У Кіеве плянуюць сёлета ўсталяваць помнік Якубу Коласу як адказ на адкрыцьцё манумэнту Тарасу Шаўчэнку ў Менску.

Дзеячы польскае інтэлігенцыі прапануюць паставіць у Варшаве помнік Янку Купалу і Якубу Коласу. Беларуская амбасада ладзіць наконт гэтага кансультацыі зь дзяржустановамі і варшаўскімі ўладамі. Яшчэ адзін манумэнт Францішку Скарыну мусіць зьявіцца ў сталіцы Казахстану Астане. /Радыё Свабода/

**************************************************

# «Беларуская энцыклапедыя»: усё толькі пачынаецца?

**Алена ЛЯЎКОВІЧ** /Звязда/

Шануй сваё!

Нарэшце заўзятыя бібліяфілы дачакаліся: пабачыў свет апошні, 18-ы том «Беларускай энцыклапедыі». Цяпер тыя, каму пашчасціла сабраць усе 18 кніг (а пачалося выданне універсальнай энцыклапедыі ў 1996 годзе), могуць з упэўненасцю сказаць: я ведаю пра гэты свет амаль усё, а калі не ведаю — магу ў любы момант разгарнуць кнігу і паглядзець. А пра апошні том яго ўладальнік можа сказаць так: я валодаю максімальна вядомай на сёння інфармацыяй пра краіну, у якой жыву. Бо васемнаццатая кніга універсальнага збору прысвечана менавіта і толькі Беларусі.

— 18-ы том атрымаўся вельмі важкі, амаль у паўтара раза большы па аб'ёму за іншыя тамы, — з гордасцю гаворыць галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» Генадзь ПАШКОЎ. — У ім — амаль 800 старонак. Гэта кніга хоць і з'яўляецца заключнай часткай агульнай універсальнай энцыклапедыі, але яе можна лічыць і асобным выданнем. З васьмідзесяці тысяч артыкулаў у папярэдніх тамах толькі трыццаць пяць працэнтаў прысвечана Беларусі — энцыклапедыя ж сусветная, універсальная. А вось у апошнім томе нашай краіне прысвечаны ўсе сто працэнтаў інфармацыі. Ён і па будове ад астатніх адрозніваецца: папярэднія тамы выдаваліся па алфавітнаму прынцыпу — ад «А» да «Я». 18-ы ж пабудаваны па прынцыпу тэматычнаму. Праўда, навуковай повязі з папярэднімі кнігамі «Энцыклапедыі» ён не страчвае: калі інфармацыя, якая датычыць Беларусі, была падрабязна апісана ў нейкім з іншых тамоў, у апошнім курсівам даецца спасылка, дзе яе можна знайсці...

18-ы том — сапраўдная падрабязная энцыклапедыя краіны Беларусь. Прырода, насельніцтва, дзяржаўны лад, заканадаўства, партыі, прафесійныя саюзы, грамадскія аб'яднанні, гісторыя (ад каменнага веку да нашых дзён), эканоміка, узброеныя сілы, ахова здароўя, фізічная культура і спорт, асвета, СМІ, навука, літаратура (ад першага фальклору да пачатку новага тысячагоддзя), мастацтва і архітэктура, рэлігія і царква, Беларусь на міжнароднай арэне, адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, храналогія важнейшых падзей... Гэта толькі тэматычныя раздзелы новай кнігі. А ёсць жа яшчэ і падраздзелы (напрыклад, у раздзеле «Прырода» асобныя часткі прысвечаны клімату краіны, рэкам, азёрам, карысным выкапням і г. д.). Карацей, вычарпальная інфармацыя аб нашай Радзіме на сённяшні дзень...

Здавалася б, зрабіўшы такі значны апошні крок і дасягнуўшы мэты, можна было б крыху і адпачыць. Але ў выдавецтве адпачываць не збіраюцца... Апошні том «Беларускай энцыклапедыі» толькі з'явіўся на свет, а першыя яе тамы ўжо колькі год значацца ў спісе бібліяграфічных рэдкасцяў і набыць іх практычна немагчыма. У некаторых краінах (напрыклад, у Літве) першы том энцыклапедыі не прадалі «з колаў» усім накладам, а выпусцілі частку ў вакуумнай упакоўцы і цяпер даюць яе ў продаж па меры запытаў, патрэбы людзей. Гэта значна прасцей, чым рабіць перавыданне. На жаль, калі выдаваліся першыя тамы ў нас, гэтага не прадугледзелі. Таму тым, хто беспаспяхова спрабуе набыць іх сёння (а жадаючых нямала), застаецца спадзявацца на дзяржаўную падтрымку ўдасканаленага, дапоўненага перавыдання. А выдавецтва, як запэўнівае яго галоўны рэдактар, з задавальненнем за яго возьмецца. Былі б сродкі...

Больш выканальная задумка — выдаць «Вялікі энцыклапедычны слоўнік», у якім у вельмі сціслым пераказе змясціць усе артыкулы з усіх 18 тамоў універсальнай энцыклапедыі. Ці больш сучасны варыянт — перавесці ўсю інфармацыю на электронныя носьбіты. У выдавецтве толькі пачынаюць асвойваць гэты спосаб. Спадзеючыся пры гэтым зноў жа на падтрымку дзяржавы. Бо тут размова не пра камерцыйнасць, не пра прыбытак, а пра імідж краіны ў вачах суседзяў па планеце і ўласных грамадзян.

**************************************************

# Беларусізацыя 1920-х гадоў

Станіслаў Станкевіч прыгадаў гісторыю пэрыяду беларусізацыі Беларусі (Ст. Станкевіч, На 50-я ўгодкі ўрадавай беларусізацыі ў БССР, у: „Беларус", № 193, Нью-Ёрк, травень 1973, с. 1). Новы курс нацыянальнае палітыкі быў абвешчаны ў сакавіку 1923 году на Ўсебеларускай партыйнай канфэрэнцыі. Беларусізацыя была адным з вынікаў пастановаў X Зьезду РКП(б) у сакавіку 1921 году, дзякуючы якім пачалася новая эканамічная палітыка (НЭП).

**„Ня маючы змогі спыніць нацыянальных імкненьняў нерасейскіх народаў, бальшавіком хадзіла пра тое, каб на нейкі час улегалізаваць гэтыя імкненьні, а ўлегалізаваўшы, ськіваваць іх у бальшавіцкае рэчышча."**

Гэтае рашэньне было выкарыстанае беларускімі патрыётамі ў працы для нацыянальных мэтаў. Беларусізацыя закранала ўсе галіны жыцьця, але найбольш поўна праявілася ў мове.

**„І гэта было цалкам заканамерна з увагі на тое, што русыфікацыйная палітыка царскай Расеі зь ейнымі забаронамі ўжываньня беларускай мовы навет у друку, зусім выціснула беларускую мову з усяго публічнага жыцьця краю, а ў гарадох – навет і з жыцьця прыватнага."**

Моўная беларусізацыя ўспрымалася як перадумова беларусізацыі ў культурнай галіне ды палітычнай. Праграма правядзеньня беларусізацыі была прынятая Пленумам ЦК кампартыі Беларусі ў ліпені 1924 году. У прынятай рэзалюцыі беларуская мова абвяшчалася ня толькі роўнай у правах з расейскай мовай, але й выбіралася як мова пераважная для зносінаў між дзяржаўнымі, прафэсійнымі й грамадзкімі арганізацыямі ды ўстановамі. Пераход на беларускую мову плянаваўся на працягу 1-3 гадоў.

**„Парадак і каляндарны плян пераходу справаводзтва на беларускую мову ў розных органах і ўстановах распрацоўвае само ведамства, аднак з такім разьлікам, каб у першую чаргу перавесьці на беларускую мову тыя свае органы, установы й арганізацыі, якія непасрэдна сутыкаюцца зь беларускім насельніцтвам.**

Станіслаў Станкевіч падкрэсьлівае, што заініцыяваная й ачоленая партыяй беларусізацыя была падхопленая цэлым грамадзтвам. Народны Камісарыят Асьветы абавязаўся ўвесьці абавязковае навучаньне беларускае мовы ва ўсіх навучальных установах Беларусі. Для перападрыхтоўкі настаўнікаў былі створаныя адмыс-

ловыя курсы беларусаведы. У кожную навучальную ўстанову рассылалася навучальная й пэдагагічная літаратура зь беларускае мовы. Інстытуту Беларускай Культуры было даручана апрацаваць беларускую навуковую тэрміналёгію з кожнай галіны веды й расейска-беларускі ды акадэмічны слоўнік жывой беларускай мовы. Выдатным практычным дасягненьнем сталася скліканая Інстытутам Беларускай Культуры ў 1926 годзе акадэмічная канфэрэнцыя дзеля рэформы беларускага правапісу. Забясьпечвалася на беларускай мове праца хатаў-чытальняў, народных дамоў, клюбаў і бібліятэкаў. Зьвярталася вялікая ўвага на разьвіцьцё на беларускай мове Беларускага Дзяржаўнага Тэатру й тэатральнай студыі ў Маскве, на базе якой зарганізаваўся пазьней Другі Беларускі Дзяржаўны Тэатр у Віцебску. Шырока разгарнулася беларуская краяведная дзейнасьць і зьбіраньне фальклёру. Разьвівалася выдавецкая дзейнасьць на беларускай мове. Пачалі выходзіць па-беларуску часопісы для дзяцей і працаўнікоў народнай асьветы.

**Плённыя вынікі беларусізацыі паявіліся вельмі хутка. Неўзабаве на беларускай мове загаварыла ня толькі вёска, але й горад.**

Гэтакі статус і стан моўнае й культурнае незалежнасьці як раптоўна пачаўся, так раптоўна й быў спынены. XIII Зьезд кампартыі Беларусі ў 1929 годзе прыняў тэзу аб тым, што беларускі нацыянал-дэмакратызм – галоўная небясьпека на дадзеным этапе. Неўзабаве пасьля гэтага пачалася дэбеларусізацыя, якая прагрэсуе па сёньняшні дзень.

Станіслаў Станкевіч адзначае, што гэтыя шэсьць гадоў беларусізацыі былі вельмі кароткім адрэзкам часу, аднак **Беларусь здабыла поўную незалежнасьць у галіне мовы й сваёй нацыянальнай культуры.**

**„І хоць ад нацыянальных дасягненьняў гэнага часу вельмі мала чаго засталося, аднак беларусізацыя ўзмоцніла нацыянальную патэнцыю беларускага народу, зрабіўшы яго больш адпорным на палітыку дэнацыяналізацыі й русыфікацыі ўсіх наступных гадоў. У гэтым вялікае гістарычнае значэньне беларусізацыі."**

Ніна Баршчэўская
Варшава, Польшча.

*******************************************************

## Уладзімір Кобец: «Давайце набліжаць перамены»

Вольга Класкоўская, "Народная воля"

*Падчас вулічных акцый яны заўсёды ў першых шэрагах. У спецпрыёмніку-размеркавальніку на вуліцы Акрэсціна яны пастаянныя "кліенты" - на рахунку маладых актывістаў больш за дзве тысячы затрыманняў і судовых разбіральніцтваў. Напрыканцы 2004 г. беларускі рух быў названы сярод 11 намінантаў на прэмію імя Андрэя Сахарава "За Свабоду думкі". Роўна чатыры гады таму некалькі дзесяткаў маладых патрыётаў сабраліся ў Белавежскай пушчы і, аддаўшы прысягу на вернасць Радзіме, апавясцілі пра стварэнне руху супраціву як адэкватнага адказу існуючай сістэме. Хто яны і чаго прагнуць? Гутарка з адным з каардынатараў руху "Зубр" Уладзімірам КОБЕЦАМ.*

- Мы дамагаемся таго, каб улада ў нашай краіне была дэмакратычнай і чэснай. Мы ўпэўнены, што ў Беларусі толькі адзін шлях - еўраінтэграцыя, - гаворыць Уладзімір.

***- Якія метады ў сваёй барацьбе вы выкарыстоўваеце?***

- З самага пачатку заснавання "Зубра" было акрэслена, што наш супраціў негвалтоўны, мірны. І ні разу за час свайго існавання мы не адказвалі гвалтам на тыя рэпрэсіі, якія ў адносінах да нас мелі месца. Хаця за чатыры гады праваабарончая служба "Зубра" зафіксавала больш за дзве тысячы фактаў рэпрэсіўных захадаў у дачыненні да нашых актывістаў.

Я перакананы, што зло параджае яшчэ большае зло. І чым больш яго будзе ў палітыцы і жыцці, тым меншых вынікаў мы даб'ёмся. Тыя рэпрэсіі, што ажыццяўляюцца ў адносінах да беларускіх грамадзян і актывістаў руху, застануцца на сумленні людзей, якія гэта робяць. Надыдзе час, калі за злачынствы ім давядзецца расплачвацца.

***- Колькі актывістаў налічваецца ў вашых шэрагах?***

- Мы не палітычная партыя і жорсткіх улікаў не вядзём. У розныя часы "Зубр" налічваў ад дзвюх да пяці тысяч актывістаў і тысячы валанцёраў. У "Зубры" няма адзінага лідэра, рух складаецца са шматлікіх маладзёжных аб'яднанняў, якія кіруюцца агульнымі для ўсіх у "Зубры" прынцыпамі. Любы малады чалавек, што да нас прыходзіць, можа знайсці сабе тую форму барацьбы, якая для яго зараз прымальная. Ен можа быць валанцёрам - раздаваць улёткі і газеты - ці стаць актывістам, які прымае ўдзел у вулічных акцыях. Мы кіруемся прынцыпамі, што павінны быць удзячныя кожнаму чалавеку, які патраціў хоць гадзіну на нашы агульныя мэты.

Сёння самая адказная частка грамадства - моладзь. І людзі, якія прайшлі праз "Зубр", - сапраўды мужныя і годныя. Кожны дзень яны рызыкуюць сваім здароўем, вучобай і нават жыццём. Таму будучыня менавіта за такімі людзьмі, я перакананы.

***- Часам у ваш бок кідаюць папрокі, маўляў, "Зубр" здольны толькі да вулічнага супраціву...***

- Ну ўжо дакладна мы не кабінетная арганізацыя! Яшчэ ў Белавежскай пушчы мы прыйшлі да агульнай высновы, што, седзячы ў офісах, сітуацыю ў Беларусі не зменіш. Паколькі ў нашай краіне немагчыма атрымаць доступ да электронных сродкаў масавай інфармацыі - усюды навязванне дзяржаўнай ідэалогіі, у нашай барацьбе мы мусім дзейнічаць усімі законнымі спосабамі. Гэта і вулічны пратэст, і інфармаванне людзей праз улёткі, газеты, буклеты.

А наконт таго, што папракаюць-не папракаюць... Няхай хтосьці паспрабуе дзейнічаць па-іншаму і пераканае нас, што гэта эфектыўна, - абы карысць была для Беларусі! Мы не супраць.

***- На кожнай акцыі апазіцыі "Зубр" - у першых шэрагах. І кожны раз вулічная акцыя пазіцыянуецца як лёсавызначальная і масавая, а насамрэч развязка заўсёды класічная - малая колькасць удзельнікаў, дзесяткі затрыманых, асуджаных, збітых... Які сэнс так падстаўляцца?***

- Наконт малой колькасці я не пагаджуся. Беларусь, у прынцыпе, невялікая краіна. І мэта нашых акцый у першую чаргу - данесці інфармацыю да грамадства і звярнуць увагу на праблему!

І сёння тая сотня людзей, што выходзіць на плошчу з партрэтамі зніклых, дэманструе ўсёй краіне і ўсяму свету, што ёсць такая праблема, і беларусаў гэта хвалюе, стварае рэзананс, прыцягвае ўвагу міжнароднай грамадскасці. А што, было б лепш, каб наогул усе маўчалі?

Паводле ўсіх сацыялагічных апытанняў, большасць беларускага насельніцтва прагне зменаў, еўраінтэграцыі і не верыць байкам прапагандысцкіх падпявалаў. Але людзі запалоханы і лічаць за лепшае выказваць свой пратэст на кухнях. Чаму ў нас не выходзіць столькі людзей, колькі ва Украіне? Адказ на пытанне трэба шукаць у самой прыродзе існуючага рэжыму і ў дзейнасці палітычнай апазіцыі. Людзі чакаюць нейкага імпульсу. І падзеі ва Украіне паказалі, што можа стаць такім імпульсам.

***- Ваша тактыка адносна будучых прэзідэнцкіх выбараў?***

- "Зубр" ніколі не быў абслугай для нейкіх палітычных сіл ці для пэўнага палітыка. Сёння мы хацелі б, каб партыі ўрэшце прыйшлі да кансенсусу і вылучылі годнага лідэра са свайго асяродку. Чалавека, які здолеў бы аб'яднаць грамадства, быў вартым нашага народа. Мы ведаем, што ў Беларусі такія людзі ёсць. "Зубр" будзе ўважліва сачыць за гэтым працэсам і па магчымасці аказваць падтрымку. Адразу скажу, што сваіх кандыдатаў мы не вылучаем, паколькі не з'яўляемся палітычнай партыяй.

Папярэднія кампаніі яскрава засведчылі "празрыстасць выбарчых працэсаў" у Беларусі, таму хацелася б, каб чалавек, які стане адзіным кандыдатам, разумеў, што напрыканцы выбарчай гонкі яму давядзецца сутыкнуцца са многімі выклікамі і ў кульмінацыйны момант браць на сябе адказнасць.

***- Улада рана ці позна зменіцца. Што будзе з "Зубрам"?***

- Рашэнне аб сваіх дзеяннях "Зубр" будзе прымаць толькі пасля інаўгурацыі новага, дэмакратычна абранага прэзідэнта Беларусі. Сёння разважаць пра тое, што будзе з рухам, несвоечасова і шкодна. Адзінае, што не можа выклікаць сумневу, - мы будзем працаваць на Беларусь і на яе будучыню. Я перакананы: вопыт, што мы назапасілі, запатрабаваны іншымі народамі, якія зараз церпяць ад дыктатуры. І задача беларусаў - падзяліцца з імі здабыткамі свабоды.

Увесь час мы адчувалі і адчуваем падтрымку ад маладзёжных рухаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, і я перакананы, што мы і самі мусім быць салідарнымі з іншымі. Рана ці позна трэба аддаваць даўгі. Але першапачаткова мы павінны вырашыць праблемы ўнутры сваёй краіны. Дык давайце ж агульнымі высілкамі набліжаць гэтыя перамены.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

## Закон аб нацыянальных меншасьцях

Прэзыдэнт Аляксандар Квасьнеўскі падпісаў Закон аб нацыянальных і этнічных меншасьцях. Закон вырашае справы, датычныя працягу й развіцьця культурнай тоеснасьці ды рэгіянальнай мовы. Апрача таго, згаданы дакумэнт павінен гарантаваць роўны статус людзей, незалежна ад іхнага этнічнага паходжаньня.

Нацыянальныя меншасьці складаюць 1,5% жыхароў Польшчы. Сярод іх ёсьць беларусы, чэхі, летувісы, немцы, армяне, расейцы, славакі, ўкраінцы й габрэі. У сваю чаргу этнічныя меншасьці ў Польшчы, гэта: караімы, лэмкі, ромы й татары.

Закон уводзіць забарону асыміляцыі нацыянальных і этнічных меншасьцяў насуперак іхнай волі, а таксама забарону іхнай дыскрымінацыі. Прадстаўнікі меншасьцяў маюць права пісаць свае прозьвішчы й імёны згодна з правіламі сваёй мовы. Яны маюць таксама права на свабоднае выказваньне на сваёй мове, як у прыватных, так і публічных кантактах. Апрача таго, традыцыйныя назвы вуліцаў і мясцовасьцяў на мове меншасьці могуць зьмяшчацца побач з польскімі назвамі. Існуе толькі адно выключэньне: згаданыя назвы ня могуць навязваць да назваў з 1939-1945 гадоў, якія надавалі ўлады гітлераўскай Нямеччыны ці Савецкага Саюзу. На падставе згаданага закону ўзьнікне Супольная Камісія Ўраду і Нацыянальных ды Этнічных Меншасьцяў.

*******************************************************

## Насельніцтва Кітаю перасягнула рубеж у адзін мільярд 300 мільёнаў чалавек.

"Мільярд трохсотмільённы грамадзянін нарадзіўся ў 0 гадзінаў дзьве хвіліны 6 студзеня 2005 году" – заявіў прадстаўнік кітайскага ўраду самай шматлюднай краіны на Зямлі ў дзень, калі Кітай пераадолеў чарговы рубеж колькасьці насельніцтва.

Шмат для якіх краінаў, прынамсі для Беларусі, праблемай зьяўляецца нізкая нараджальнасьць, скарачэньне насельніцтва. Кітай сутыкаецца з адваротнай праблемай – імклівы рост насельніцтва можа разбурыць усе посьпехі эканамічнай палітыкі. Палітыку абмежаваньня нараджальнасьці кітайскі ўрад пачаў праводзіць з 1979 году, перасьцерагаючыся, што дэмаграфічны выбух можа прывесьці да натуральнага масавага голаду.

Пра вынікі гэтай палітыкі гаворыць амэрыканскі дэмограф Карл Гоб:

"У 50-я гады кітаянка мела ў сярэднім 6 дзяцей. У 70-х гэтая лічба скарацілася да пяці. У 80-х гэтых паказчык скараціўся напалову – адна кітайская жанчына мела ў сярэднім два з паловай дзіцяці. Нарэшце зараз гэты паказчык – адзін цэлы восем дзесятых. Гэта сапраўднае скарачэньне".

Палітыка пад назвай "адно дзіця" на практыцы не азначала дакладна гэта. Напрыклад, не было абмежаваньня на нараджальнасьць сярод нацыянальных меншасьцяў Кітаю. У вёсках дазвалялася мець двух дзяцей, асабліва калі першы – дзяўчынка. Аднак адносна большасьці грамадзянаў гэтае правіла дзейнічала вельмі жорстка.

Жанчынаў, якія ўжо мелі адно дзіця, часам прымушалі перарываць наступную цяжарнасьць і нават стэрылізавацца. Не было рэдкасьцю, калі мужчыны, чые жонкі нараджалі шмат дзяцей, атрымлівалі службовыя і партыйныя пакараньні, былі нават выпадкі, калі парушальнікаў правіла "адно дзіця" саджалі ў турму.

Гэтая палітыка, што праводзіць урад з камуністычнай няўхільнасьцю, дала свой плён. Паводле паведамленьня агенцтва Сіньхуа, дзякуючы менавіта гэтай палітыцы дасягненьне рубяжу ў мільярд трыста мільёнаў грамадзянаў было адцягнутае на 4 гады.

Экспэрты адзначаюць, што на зьніжэньне тэмпаў росту кітайскага насельніцтва паўплывалі і пасьпяховыя эканамічныя рэформы, мадэрнізацыя, рост сярэдняй клясы, імклівы рост гарадоў, больш шырокае прыцягненьне да працы жанчынаў.

У пэўным сэнсе кітайскае грамадзтва робіцца падобным на заходняе і адпаведна мяняюцца матывацыі. Для вялікай колькасьці кітайцаў і кітаянак, асабліва маладых, мэтаю робіцца не вялікія сям'я, а вялікі рахунак у банку. Таму незадаволенасьць, супраціў палітыцы "адно дзіця" само па сабе зьніжаецца.

Экспэрты адзначаюць, што павольны прырост насельніцтва дазволіў кітайскім уладам засяродзіцца на фінансаваньні індустрыяльнага сэктару, перад імі не паўставала неабходнасьць рэзкага падвышэньня расходаў на адукацыю – колькасьць кітайцаў школьнага ўзросту зараз такая ж, як і ў 1982 годзе.

Сярод нэгатыўных наступстваў палітыкі "адно дзіця" – зьмена полавай структуры грамадзтва. У кітайскім грамадзтве лічыцца вельмі годным і паважаным мець менавіта сына. Таму шмат цяжарных кітаянак праходзяць дасьледаваньні па вызначэньні полу будучага дзіцяці і робяць аборты да тае пары, пакуль зачатае дзіцё ня будзе хлопчыкам .

Паводле ацэнак экспэртаў пры цяперашняй нараджальнасьці за наступныя 30 гадоў насельніцтва Кітаю вырасьце яшчэ прыкладна на 150 мільёнаў, а потым стабілізуецца і магчыма нават пачне крыху зьніжацца. Прагноз такі, што да сярэдзіны стагодзьдзя самай шматлюднай краінай сьвету стане **Індыя,** дзе будзе жыць мільярд 600 мільёнаў чалавек.

*******************************************************

## "Амэрыканскі куток" у гарадзенскай бібліятэцы імя Я. Карскага

**Амбасадар ЗША ў Беларусі Джордж Альберт Крол перадаў у дар Гарадзенскай абласной бібліятэцы імя Я.Карскага кніжак, оргтэхнікі, відэакасэт, кампакт- і відэадыскаў на суму больш чым на 25 тысяч даляраў. Свой падарунак ён назваў абавязкам амэрыканскага народа перад беларускім, які 60 гадоў таму сумесна з амэрыканцамі змагаўся супраць фашызму.**

"Шаноўнае спадарства, шаноўныя калегі, сябры! Для мяне вялікі гонар адкрыць сёньня "амэрыканскі куток" у гарадзенскай бібліятэцы імя Я.Карскага. Спадзяюся, што гэтыя матэрыялы дапамогуць стаць ёй сапраўдным цэнтрам узаемаразьвіцця паміж беларускім і амэрыканскім народамі" - пачаў сваю прамову на беларускай мове Джордж Крол.

Супрацоўнікі замежнага адзьдзелу бібліятэкі імя Я.

Карскага, які месьціцца ў доме музэі Элізы Ажэшкі, казалі мне, што такіх багатых падарункаў ім ніхто не дарыў. Гэта сучасныя выданьні па эканоміцы, паліталогіі, культуралогіі і нават знакамітая энцыклапедыя Брытаніка. А таксама відэакасэты для вывучэньня ангельскай мовы з тэлевізарам і відэамагнітафонам, кампакт-дыскі з СД-плэерам і некалькі кампутараў. Прычым, інфармацыі шмат, як для дарослых, так і для дзяцей. Асабліва амбасадар зазначыў, што гэта не падарунак беларускаму народу, а абавязак амэрыканцаў перад тымі, хто ў гэтым годзе будзе сьвяткаваць сумесную перамогу над фашызмам. Падобныя "амэрыканскія куткі" раней ужо былі адкрыты ў іншых гарадах Беларусі: Менску, Гомелі, Магілёве і будуць адкрывацца надалей.

Падчас свайго візыту ў Горадню Джордж Крол сустрэўся з кіраўніцтвам горада, прадстаўнікамі апазіцыйных партый, незалежных СМІ, грамадзкіх арганізацый, а таксама з сям'ёй асуджанага ўладамі лідэра незарэгістраванага страйкама Валерыя Леванеўскага.

Міхал КАРНЕВІЧ

*************************************************************

# «Беларусь – Латвія: дыялог культур»

**Ганна АЛЕКСАНДРОВІЧ** /Звязда/

Пад такой назвай у Рызе прайшла навукова-практычная канферэнцыя. Упершыню ў краінах Балтыі адна з нацыянальных дыяспар вырашыла на навуковай аснове акрэсліць агульныя рысы абедзвюх культур, раскрыць гісторыю іх узаемапранікнення. Прыемна, што ініцыятарам такога даследавання стала менавіта беларуская дыяспара.

На пытанні адказала арганізатар канферэнцыі, старшыня Саюза грамадскіх аб'яднанняў беларусаў Латвіі Валянціна ПІСКУНОВА.

**— Валянціна Аляксандраўна, раскажыце, калі ласка, што ўяўляе сабой беларуская супольнасць у Латвіі?**

— Наша дыяспара найбуйнейшая ў краінах Балтыі. Яна налічвае больш як 90 тысяч чалавек, гэта значыць 4 працэнты ад усяго насельніцтва краіны. Беларусы Латвіі прайшлі складаны шлях станаўлення і адраджэння. У гады так званай перабудовы, а потым пасля развалу шматнацыянальнага Савецкага Саюза парушыўся прывычны лад жыцця. Гэта перш за ўсё адчулі на сабе нацыянальныя меншасці Латвіі. Многія іх прадстаўнікі страцілі працу, засталіся без сродкаў да існавання. Хто змог — з'ехаў, астатнія спрабавалі знайсці сваё месца ў новых умовах. Людзі сталі збірацца, каб параіцца, разам вырашыць свае праблемы. Такая форма зносінаў паслужыла асновай для стварэння пастаянных нацыянальных суполак. Рыхтаваліся да згуртавання і беларусы. Не сакрэт, што нас падзялялі розныя палітычныя погляды, як і расіян, украінцаў, палякаў, яўрэяў. Але бралі верх аб'яднальныя пачаткі, бо трэба было адстойваць свае інтарэсы: зберагчы нацыянальную культуру, узнавіць традыцыі, вывучаць і захоўваць родную мову.

Сярод славянскіх дыяспар мы аб'ядналіся першыя. Заснавальнікамі Саюза грамадскіх аб'яднанняў беларусаў Латвіі ў маі 2003 года сталі таварыствы «Прамень» (г. Рыга), «Уздым» (г. Даўгаўпілс), «Мара» (г. Ліепая), «Спадчына» (г. Вентспілс). Пазней далучыліся Славянскае культурна-асветніцкае таварыства Прэйльскага краю і Краслаўскае беларускае таварыства «Вясёлка». Іх актыў — вучоныя, літаратары, настаўнікі, прадстаўнікі бізнэсу. Пры кожным таварыстве створаны ансамблі, выступленні якіх карыстаюцца вялікім поспехам на ўсіх фестывалях і святах.

Ёсць у нас і Асацыяцыя беларусаў-прадпрымальнікаў Латвіі «Беларускі шлях». Справядліва будзе адзначыць бясспрэчную ролю ў аб'яднаўчых працэсах газеты беларусаў Латвіі «Прамень». Выданне ўжо дзесяць гадоў трымае газетны радок на пульсе жыцця беларускай дыяспары. Выходзяць таксама беларускія старонкі пры гарадскіх газетах Даўгаўпілса, Вентспілса, Ліепаі. Маем 15-хвілінную перадачу на радыё.

Наша абшчына займае дастойнае месца сярод іншых нацыянальных меншасцяў. Актыўна з імі супрацоўнічаем. Да прыкладу, удзельнічалі ў падрыхтоўцы Устаноўчага кангрэса і стварылі грамадскую арганізацыю нацыянальных меншасцяў Латвіі «Садружнасць». Можна ўпэўнена канстатаваць: беларусы трывала звязалі свой лёс з незалежнай Латвіяй.

**— Ці можна сёння гаварыць аб зменах у вашай дзейнасці ў сувязі з уступленнем Латвіі ў Еўрасаюз?**

— Такія змены ёсць. І гэта вельмі добра. У нас з'явілася магчымасць рыхтаваць праекты, якія дазваляюць часткова кампенсаваць затраты на работу, якая праводзіцца. Рэальна адчуваем дапамогу міністэрства інтэграцыі. Напрыклад, дзякуючы яму і падтрымцы беларусаў-прадпрымальнікаў нам удалося ўпершыню за ўсе гады існавання дыяспары правесці Міжнародны фестываль беларускай народнай песні, на якім выступілі калектывы з Літвы, Эстоніі, нашага Саюза, вядомыя артысты з Беларусі.

**— А зараз, Валянціна Аляксандраўна, вернемся да канферэнцыі. Як ініцыятар і галоўны арганізатар вызначце, калі ласка, яе мэты і задачы.**

— Паказаць, што беларуская і латвійская культуры з'яўляюцца складовай часткай агульнаеўрапейскай культуры, паглыбіць веды латышоў і беларусаў адзін аб адным. Арганізатараў канферэнцыі і яе ўдзельнікаў цікавілі гістарычныя паралелі ў развіцці этнасу, фальклору двух народаў, падабенства іх культур па мове, рамёствах, нацыянальных касцюмах. Запрасілі тых, хто займаецца такімі праблемамі ў Латвіі і Беларусі, нават латышоў, якія жывуць зараз на нашай этнічнай Радзіме.

**— Што, на ваш погляд, было асабліва цікавым, важным, змястоўным?**

— Каля 20 рэфератаў па самых розных тэмах прачыталі прафесіяналы самага высокага кшталту — прадстаўнікі Акадэміі навук Латвіі, Латвійскага і Даўгаўпілскага універсітэтаў, Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтва, іншых навучальных устаноў і навуковых цэнтраў. Адзначу толькі некаторыя з дакладаў: «Адукацыя ў Латвіі і Беларусі: агульнае і адрознае», «Беларускі фальклор у Латвіі», «Літаратурныя сувязі Латвіі і Беларусі», «Перспектывы развіцця адукацыі на беларускай мове ў Латвіі». Дарэчы, апошняя тэма трапіла ў план мерапрыемства не выпадкова. За апошнія дзесяць гадоў значна павялічылася цікавасць да стану і развіцця беларускай адукацыі ў Латвіі. Гэта звязана з актывізацыяй культурна-нацыянальнага жыцця беларускай меншасці. Таму асаблівая ўвага на канферэнцыі была ўдзелена перспектывам адукацыі на беларускай мове ў краіне пражывання.

Асабліва вызначаўся змястоўнасцю і дасканаласцю даклад прафесара Інстытута філасофіі і сацыялогіі пры Акадэміі навук Латвіі Ілгі Апіне. У сваім выступленні яна правяла гістарычныя паралелі асаблівасцяў развіцця беларускага і латышскага этнасаў. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтва Ігар Клімаў цікава раскрыў тэму «Балтызмы ў беларускай мове і тэорыя балцкага субстрату». Яркім было выступленне вядомага латышскага паэта Андрыса Веянса, які шмат зрабіў для ўмацавання сувязяў творчай інтэлігенцыі абедзвюх краін. Ён расказаў аб літаратурных кантактах: таленавітых перакладах на латышскую і беларускую мовы вядомых твораў, сустрэчах паэтаў і пісьменнікаў. Дарэчы, на канферэнцыі прагучала слушная прапанова назваць адну з вуліц Рыгі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Ніводнага чалавека, на мой погляд, не пакінула раўнадушным выступленне дырэктара цэнтра народнага латвійскага касцюма «Sena klets» Мары Грасмане, якое суправаджалася дэманстрацыяй касцюмаў.

**— Нямала беларусаў — жыхароў Латвіі — вядомыя і паважаныя ў краіне людзі. Напрыклад, дырэктар акцыянернага таварыства «Дзінтарс» Ілья Герчыкаў, славуты ўрач-анколаг Уладзімір Янушкевіч і шмат іншых. Калі не сакрэт, як даўно вы самі ў Латвіі, наколькі трывала з ёй звязаны ваш лёс?**

— Прыехала сюды па размеркаванню пасля заканчэння факультэта прамысловага і грамадзянскага будаўніцтва Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту. Прайшла шлях ад майстра на будоўлі да намесніка начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Дзяржзабеспячэння Латвіі. Ужо больш як дзесяць гадоў узначальваю ўласную фірму Ilguciems, якая з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком будаўнічага комплексу Рэспублікі Беларусь і рэалізуе ў асноўным матэрыялы беларускіх вытворцаў. Мае дзеці тут нарадзіліся, выраслі, атрымалі выдатную адукацыю, маюць цікавую работу. Падрастаюць пяцёра ўнукаў. Пры ўсёй маёй адданасці роднай Беларусі, можна сказаць, што Латвія стала маёй другой радзімай.

**— Этнічнаму адраджэнню беларусаў Латвіі і яго перспектывам быў прысвечаны ваш даклад на канферэнцыі. Аб stationоўчым вы сказалі, а якія праблемы існуюць зараз? Што асабліва хвалюе?**

— Безумоўна, праблем хапае. Некаторыя з іх выкладзены ў рэкамендацыях, прынятых на канферэнцыі: аб арганізацыі гістарычных чытанняў для прадстаўнікоў усіх нацыянальных таварыстваў Латвіі, аказанні матэрыяльнай падтрымкі мерапрыемствам з боку дзяржаўных органаў краіны, увядзенні пастаяннай рубрыкі культурна-гістарычнай тэматыкі ў сродках масавай інфармацыі.

Нас вельмі непакоіць тое, што дагэтуль вышэйшы заканадаўчы орган краіны не прыняў Закон аб школах нацыянальных меншасцяў. Тым не менш спадзяёмся на падтрымку дзяржавы ў стварэнні лепшых умоў для вучобы на беларускай мове. Пакуль у асноўным мы клапоцімся аб нашай Рыжскай нацыянальнай школе: арганізуем розныя мерапрыемствы, дапамагаем у рамонце, дорым дзецям падарункі. Плануем аднавіць беларускую гімназію ў Даўгаўпілсе.

Нас хвалюе вырашэнне найважнейшай задачы па палягчэнню атрымання грамадзянства, асабліва тымі, хто нарадзіўся ў Латвіі. Патрэбна таксама дапамога дзяржавы, Рыжскай думы ў фінансаванні інтэграцыйных культурных мерапрыемстваў. Даўняя наша мара — стварэнне Цэнтра беларускай культуры. Памяшканне для яго магла б прадаставіць Рыжская дума шляхам абмену будынкамі з мэрыяй Мінска, як зрабілі Рыга і Масква. Дарэчы, такія цэнтры ўжо ёсць у літоўцаў, кітайцаў, палякаў, эстонцаў. З нецярплівасцю чакаем ініцыятывы ад дзяржаўных структур Беларусі…

Застаецца дадаць, што своеасаблівы каларыт і неардынарнасць прыдала мерапрыемству выстава беларускай народнай творчасці. На ёй былі прадстаўлены нацыянальныя касцюмы, творы выяўленчага мастацтва, кераміка. Кідалася ў вочы падабенства беларускіх і латышскіх вырабаў, арнаментаў, вышывак, упрыгажэнняў, галаўных убораў. Бясспрэчную цікавасць выклікала выстава арыгінальных твораў мастака Мікалая Гаўрыловіча. Адбыўся канцэрт самадзейных калектываў беларускай дыяспары і ансамбля старажытнай музыкі «Пастараль» з горада Дзяржынска Мінскай вобласці.

Можна ўпэўнена сцвярджаць, што дыялог дзвюх культур адбыўся. Ён быў не толькі шчырым, адкрытым, змястоўным, але і прыгожым.

Мінск—Рыга—Мінск.

*************************************************************

**Тацяна ТРАФІМЧЫК:**

# “МЫ НЕ СТРАЦІЛІ — МЫ НАБЫЛІ!”

**Споўнілася пятнаццаць гадоў Закону “Аб мовах”. 26 студзеня 1990 года Вярхоўны Савет XI склікання ўзаконіў беларускую мову ў якасці дзяржаўнай мовы БССР. Беларусь сталася апошняй з савецкіх рэспублік, якая прыняла гэты закон.**

Ужо праз чатыры гады, а менавіта 15 сакавіка 1994 года, прынялі Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, паводле якой адзінай дзяржаўнай мовай стала беларуская. Па закону да 2004 года ўсе дзяржаўныя інстытуты мусілі перайсці ў справаводстве на беларускую. Прайшоў час, і ўсё змянілася. Цяпер намінальна беларусы маюць дзве дзяржаўныя мовы. На самай справе адна з іх — расійская — гучыць з усіх бакоў. Другая — амаль дыхае.

Пра стан беларускай мовы і перспектывы яе існавання карэспандэнт “ГС” размаўляла са старшынёй слонімскай суполкі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Таццянай Трафімчык.

— Тацяна Уладзіміраўна, мінула 15 гадоў, як беларуская мова набыла статус дзяржаўнай. За гэты час было ўсе: і перыяд росквіту, і перыяд заняпаду. Вы памятаеце той час, калі закон прымалі? На што разлічвалі, спадзяваліся тады руплівыя беларушчыны?

— Гэта быў дзіўны час. Беларусы сталі адчуваць, якая гэта вялікая каштоўнасць — духоўная спадчына, бацькоўская мова. Адчулі сябе людзьмі высокай годнасці. Зразумелі, што “мова нашая нам Богам дадзеная”. Калі прынялі Закон “Аб мовах” і пазней, калі толькі беларуская мова стала дзяржаўнай, беларусы разлічвалі, што ўжо праз 10 гадоў змогуць перавесці шэраг дзяржаўных устаноў, школ, дзіцячых садкоў на родную мову. Спадзеў быў вялікі. Але ажыццявіцца яму так і не пашчасціла. Нават калі расійская мова стала другой дзяржаўнай, усё яшчэ была надзея на адраджэнне сваёй, беларускай. Але закон, на жаль, не працуе. І наша родная мова ў заняпадзе.

— Што робіць Таварыства беларускай мовы, каб пераадолець гэтую сітуацыю?

— Рэспубліканская рада Таварыства беларускай мовы накіравала ў Нацыянальны Сход новы праект развіцця беларускай мовы. Але пакуль што ён нават не разглядаўся. Асноўная мэта праекту — пашырэнне сферы ўжывання беларускай мовы. Гэта тое, што датычыцца палітыкі. Самі ж мы больш імкнемся збірацца разам, размаўляць на сваёй мове, спяваць свае песні. Спрабавалі сябе і ў грамадскай дзейнасці: на леташніх выбарах ад слонімскай суполкі ТБМ 20 чалавек працавалі назіральнікамі. Але ўсё ж такі больш мы робім у галіне культуры. Шмат публікуем артыкулаў пра творчасць нашых знакамітых сучаснікаў. Ладзілі семінар для настаўнікаў беларускай мовы, запрашалі на яго выкладчыкаў Брэсцкага універсітэта. Арганізавалі разам з дзіцячай бібліятэкай свята сям'і “Мае карані”.

— Тацяна Уладзіміраўна, колькі сяброў налічвае сёння слонімская суполка ТБМ? Ці шмат сярод іх моладзі?

— Сёння нас 24 чалавекі. Пераважна гэта людзі сталага ўзросту: Марыя Скок, Надзея Харытончык, Мікалай Ракевіч і іншыя. Але ёсць сярод нас і моладзь: мая дачка Лена падтрымлівае мяне ў гэтай справе. Яе сяброўка Марына Пратасавіцкая прымкнула да нас. Мая калега Тацяна Ігнатовіч — таксама маладая сяброўка ТБМ.

— У чым, на вашу думку, прычына заняпаду нашай мовы? Чаму да яе так ставяцца самі беларусы? Чаму не толькі моладзь, але і людзі старэйшага пакалення цураюцца яе?

— Справа ў тым, што нашая мова не мае аніякай дзяржаўнай падтрымкі. Калі мова — гэта нацыянальная

каштоўнасць, то на ўтрыманне гэтай каштоўнасці трэба сродкі, якіх дзяржава не дае. На жаль, беларуская мова стала часткай вялікай палітыкі. Таму нам, абывацелям, не проста заняць актыўную пазіцыю ў дачыненні да роднай мовы. Прыемна, што гэта робяць іншыя. Напрыклад, паводле рашэння Папы Рымскага Яна Паўла II працоўнымі мовамі касцёла ў Беларусі сталі польская і беларуская. У Беларусі ж адрадзілася рэлігія, якая мае толькі адну мову, — уніяцтва. Уніяцкія цэрквы ёсць ў Мінску, Гродне, Баранавічах і іншых гарадах. У іх людзі звяртаюцца да Бога па-беларуску.

— Але ці пойдзе такая пасіўная пазіцыя, якую вы цяпер прапагандуеце, на карысць беларускай мове? Якой тады будзе перс- пектыва яе існавання наогул?

— Ведаеце, я лічу, што за беларускай мовай — гістарычная праўда. За ёй — любоў, якая ніколі не памрэ, не знікне. Калі чытаю сваім вучням беларускія вершы, адчуваю, які яны нясуць зарад патрыятызму, любві да роднай спадчыны... Як напісана ў Бібліі, у наш час трэба хваліцца гэтай нямогласцю. Бо з нямогласці пачынаецца пакута, пакута нараджае цярпенне, якое, у сваю чаргу, вядзе да досведу і надзеі. Такім шляхам сёння ідзе нашая мова. Сёння беларуская мова перажывае вельмі важны перыяд, момант ісціны: мы бачым, хто падтрымлівае нацыянальную спадчыну, а хто ёй шкодзіць. Гэта вельмі важна.

— І ўсё ж такі дзе надзея? І ці ёсць яна наогул?

— Надзея — у кожным з нас паасобку. Ніхто не забараняе нам несці нашу любоў да бацькоўскай мовы. Проста трэба сеяць пазітыў, і тады людзі самі пацягнуцца да сваіх каранёў. Я не шукаю вінаватых. Лічу, што мы не страцілі — мы набылі! Калі табе 50 гадоў, то ўжо не звяртаеш увагі на тое, што цябе лічаць дзіваком толькі з-за таго, што размаўляеш па-беларуску. Калі ты абывацель і не хочаш быць белай варонай, а таму выбіраеш больш лёгкі шлях зносін з людзьмі, — гэта адзін узровень. А калі адчуваеш, што проста не можаш жыць па-іншаму, што мова дадзена табе ад Бога, — гэта іншае.

— Атрымліваецца, што да агульнанацыя- нальнага адраджэння беларускай мовы яшчэ вельмі далёка?

— Сёння важна заняць пазіцыю чалавека любячага, бесканфліктнага, каб не нашкодзіць, каб захаваць тое, што маем сёння. Праўда цяпер дорага каштуе...Дзеля гэтага, я лічу, мы павінны ісці на супрацоўніцтва з уладамі, на кампраміс, каб знайсці агульныя інтарэсы, каб дзяржаўныя кіраўнікі самі сталі на наш бок. ТБМ прайшло праз памылкі, былі часы, калі мы шмат крытыкавалі ўлады, цяпер — не. Цяпер улада кажа нам, што зацікаўлена, каб мы існавалі. Цяпер Галіна Шмялёва запрашае мяне на сход дырэктараў школ, каб вырашыць пытанне наконт адкрыцця першых беларускамоўных класаў. На жаль, у мінулым годзе гэтая справа не атрымалася, але, я веру, усё будзе. Інакш для чаго рабілася нацыянальнае адраджэнне ў 1990-х гадах, для чаго пісаўся закон, для чаго была створана ГА "Таварыства беларускай мовы"? Мы вучымся цывілізаваным шляхам адстойваць наша права на пашырэнне сферы выкарыстання беларускай мовы, культуры, на захаванне беларускіх традыцый.

**Яніна МЕЛЬНІКАВА**, Газэта Слонімская

## "Акт аб распаўсюджваньні дэмакратыі" будзе разгледжаны ў Кангрэсе ЗША

**Сяргей Абламейка**

У Сэнат і Палату прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША ўнесены законапраект па падтрымцы дэмакратычных рухаў у замежных краінах. Ён называецца "Акт аб распаўсюджваньні дэмакратыі".

Гэты дакумэнт прадугледжвае выдаткаваньне з фэдэральнага бюджэту ЗША на працягу найбліжэйшых чатырох гадоў 700 мільёнаў даляраў на праграмы падтрымкі дэмакратычных рухаў за мяжой і абавязвае адміністрацыю ЗША штогод выступаць з дакладам, у які будуць уключаныя "канкрэтныя пляны распаўсюджваньня дэмакратыі ў недэмакратычных краінах".

Пры гэтым дакумэнт агаворвае стварэньне ў структуры Дзяржпэпартамэнту ЗША новай управы дэмакратычных рухаў і пераходных працэсаў, а таксама адкрыцьцё пры амэрыканскіх пасольствах за мяжой рэгіянальных дэмакратычных цэнтраў. Мяркуецца, што такія структуры забясьпечаць для ЗША больш цеснае ўзаемадзеяньне з дэмакратычнымі сіламі ў канкрэтных краінах і зробяць амэрыканскую дапамогу такім рухам адраснай.

Як паведамляецца, згаданы законапраект, аўтарамі якога зьяўляюцца сэнатар-рэспубліканец Джон Макэйн і сэнатар-дэмакрат Джозэф Лібэрман, прадугледжвае выдаткаваньне з фэдэральнага бюджэту ЗША на працягу найбліжэйшых двух гадоў 250 мільёнаў даляраў на праграмы падтрымкі дэмакратычных рухаў за мяжой.

*************************************************

## Мова ў рэлігійным жыцьці

**Важнае значэньне ў будаваньні нацыянальнае тоеснасьці мае Царква. Дзеля выкананьня гэтай ролі мусіць яна аднак быць нацыянальнай і карыстацца роднай мовай** – уважаюць беларускія эміграцыйныя публіцысты.

Праўда, у апытаньні настаўнікаў і студэнтаў, праведзеным беларускім вучоным Сяргеем Яцкевічам, канфэсіянальны фактар, зьвязаны зь ігнараваньнем беларускае мовы ў цэрквах, касьцёлах, малітоўных дамах, заняў адно з апошніх месцаў. На яго спасылаліся 11,4% апытаных студэнтаў і 17% настаўнікаў. Меркаваньнем Яцкевіча, магчыма, гэтая адносна невысокая ступень уплыву канфэсіянальнага фактару на стан беларускае мовы абумоўленая высокім узроўнем атэізацыі насельніцтва заходняга рэгіёну Беларусі, дзе праводзілася апытаньне (Сяргей Яцкевіч, Мова і этнакультурная тоеснасць беларусаў на беларуска-польскім пагранічча, у: Język a tożsamość na pograniczu kultur, Białystok 2000, с. 25).

Значэньне роднае мовы для беларускага нацыянальнага руху заўсёды было вялікім – адзначае Эдуард Мазько (Эдуард Мазько, Мова рэлігіі як вызначальнік нацыянальнай свядомасці (у кантэксце дзейнасці Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі), у: Język a tożsamość na pograniczu kultur, Białystok 2000, с. 41-50).

Важнае месца мовы як вызначальніцы нацыянальнае самасьвядомасьці этнасу ўвёў у першай палове XX стагодзьдзя ксёндз Адам Станкевіч – ідэоляг Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі. У кнізе Родная мова ў сьвятынях ён абгрунтаваў тэалягічны бок справы й прыйшоў да адназначнай высновы, што найбольш важным і патрэбным зьяўляецца карыстаньне роднай мовай у сьвятынях, у дамах малітвы, дзе адбываецца **„гутарка душы чалавека з Богам"**. Адам Станкевіч родную мову называў **„злучывам і правадніком супольнасьці нацыянальнай кожнага народу"**. Ужываньне роднае мовы ў рэлігійным жыцьці зьяўляецца неад'емнай уласьцівасьцю хрысьціянства й натуральным правам кожнага народу. Гвалт над гэтым правам зьяўляецца злом, зь якім трэба змагацца (Тамсама, с. 41. ).

Увядзеньне хрысьціянскімі дэмакратамі беларускае мовы ў касьцёлы нароўні з польскай зьмяняла яе статус: з мовы „простай, сялянскай, грубай" яна пераўтваралася ў мову „высокую, панскую", на якой можна гутарыць ня толькі між сабою, але таксама зьвяртацца й да Бога. Пашырэньне аўтарытэту беларускае мовы вяло да паглыбленьня нацыянальнае сьвядомасьці вернікаў (Тамсама, с. 44).

**Родная мова ў рэлігійным жыцьці – гэта неадлучны элемэнт нацыянальнага жыцьця** – уважаюць беларускія эміграцыйныя публіцысты.

А. Бутрымовіч, закранаючы пытаньне беларусізацыі Царквы на старонках мюнхэнскай газэты „Бацькаўшчына", адзначае, што гэта вельмі актуальная справа для цэлага беларускага нацыянальнага жыцьця. У артыкуле У справе беларусізацыі нашых цэркваў (А. Бутрымовіч, У справе беларусізацыі нашых цэркваў, у: „Бацькаўшчына", № 19 (503), Мюнхэн, 8 траўня 1960, с. 3-4). Піша:

**„Ідэя царкоўнай і рэлігійнай незалежнасьці вяжацца непадзельна з нацыянальнай незалежнасьцяй кажнага народу, а паняволенага ў васабліваесьці. Змагацца толькі за палітычную й гаспадарчую незалежнасьць свайго народу, а аставацца ў царкоўнай, духовай залежнасьці ад сваіх палітычных і нацыянальных ворагаў – гэта ніякае змаганьне. (...) Незалежнасьць палітычная й нацыянальная мусіць вырастаць з душы народу, з духовай, псыхічнай, культурнай, моўнай, абрадавай, звычаёвай і г. д. незалежнасьці чалавека, зь ягонага маральнага складу, да якога ворагу дабрацца ня так лёгка. І вось царква, як запраўдная выхавальніца чалавека, мае вытварыць гэткі маральны склад чалавека пры дапамозе сваіх выхаваўчых сродкаў"** (Тамсама, с. 3).

Духовую незалежнасьць народу – паводле А. Бутрымовіча – выхоўваюць:

– рэлігійныя сьвятасьці,
– нацыянальная мова – усе казаньні сьвятары павінны гаварыць па-беларуску,
– нацыянальныя звычаі, абрады, традыцыі, нацыянальны стыль і нацыянальнае царкоўнае мастацтва,
– выхаваўчыя арганізацыі, школьніцтва, прапаганда і гэтак далей.

А. Бутрымовіч закранае справу царкоўнае прэсы ды царкоўных арганізацыяў.

**„За выключэньнем каталіцкай прэсы, якая мае прызнакі большага жыцьця, рэлігійная прэса так праваслаўная, як і пратэстанцкая не зусім адказвае вымогам нацыянальна-рэлігійнага выхаваньня. (...) Вельмі мала матарыялу, які тварыў-бы ў чытачу духовую незалежнасьць, мацаваў-бы яго рэлігійнае й маральнае самапачуцьцё, замацоўваў-бы нашыя традыцыі, разьвязваў-бы розныя праблемы ды дапамагаў у рэлігійных беларускіх патрэбах. Выдаваць часапіс толькі дзеля «пасланьняў» і агульнахрысьціянскіх пропаведзяў – мы за бедныя"**

На ўзаемасувязі паміж малітвай, розумам і роднай мовай зьвярнуў увагу Янка Запруднік у рэфэраце, прачытаным 5 чэрвеня 1988 году ў Гайлэнд Парку ў Нью-Джэрзі на ўрачыстасьці сьвяткаваньня тысячагодзьдзя хрысьціянства ў Беларусі. У якасьці асноўнай праблемы назваў адсутнасьць роднае мовы ў рэлігійным жыцьці беларусаў на Бацькаўшчыне.

**„У рэлігійным жыцьці Беларусаў на Бацькаўшчыне, праваслаўных і каталікоў, няма месца роднай мове. Што горш, у шмат каго няма разуменьня ненармальнасьці такога стану рэчаў, няма разуменьня патрэбы роднае мовы для лучнасьці з Богам, няма ўсьведамленьня, што русыфікацыя й палянізацыя рэлігійнага жыцьця Беларусаў – зьява ў існасьці антыхрысьціянская. Яна вымагае аналізу".**

Адваёўваць функцыянальнасьць роднай мове ва ўсіх сфэрах жыцьця, у тым ліку й рэлігійнай, трэба рацыянальнымі аргумэнтамі, лёгікай, спасылкамі на гісторыю й розум.

Я. Запруднік задумоўваецца, чаму ў беларускіх праваслаўных цэрквах у эміграцыі таксама ўсё яшчэ сьпяваюцца трапары па-царкоўнаславянску, чаму яшчэ не ўдалося поўнасьцю беларусізаваць багаслужбу? Пры гэтым адзначае аднак, што Эвангельле й некаторыя малітвы чытаюцца ўжо па-беларуску. Поўнасьцю па-беларуску служыцца набажэнства ў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве.

Несупадзеньне паміж мовай багаслужбаў у Беларускай Праваслаўнай Царкве ў эміграцыі ды жаданьнем беларусаў маліцца па-беларуску вынікае часткова з традыцыі, а часткова з адсутнасьці кваліфікаваных сілаў, якія маглі б перакласьці малітвы й цэлую багаслужбу ў сучасную беларускую мову. Я. Запруднік бачыць і той факт, што ня ўсе беларусы ў эміграцыі перакананыя ў неабходнасьці карыстацца роднай мовай у сваёй лучнасьці з Богам, хоць увесь заходні сьвет моліцца ўжо ў нацыянальных мовах. Аўтар прыводзіць выказваньне Апостала Паўла: **„Бо калі я малюся ў незнаёмай мне мове, дык дух мой моліцца, але розум мой застаецца бясплодным"**.

Значыць, дзеля спалучэньня духа з розумам трэба маліцца ў роднай мове. Згодна з навукаю Апостала Паўла паступалі сьвятыя Кірыла й Мятод, перакладаючы ў другой палове IX стагодзьдзя царкоўныя кнігі на жывую мову. Пра патрэбу разуменьня малітвы й багаслужбы нагадаў Францішак Скарына, калі ў 1517 годзе пачаў друкаваць пераклад Бібліі ў мове сваёй „люду паспалітага". Скарына ў прадмове да Псалтыра сказаў, што зрабіў гэта **„наиболей с тое причины, иже имя милостивый Бог з того языка на свет пустил"**. Значыць, у якой мове чалавек нарадзіўся, у гэткай і Богу павінен маліцца, таму што розум найпаўней функцыянуе ў роднай мове. Таксама Францішак Багушэвіч пісаў: **„Наша мова для нас сьвятая, бо яна нам ад Бога даная, як і другім добрым людцам"**.

У сувязі з гэтым Я. Запруднік піша:

**„Царква павінна асудзіць лёгацыд – словагубства, здушваньне Роднага Слова, безь якога чалавек ня можа мець поўнае лучнасьці з Богам. Гэта-ж у Евангельлі сказана: «На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова». (...) Лёгацыд павінен быць абвешчаны сьмяротным грэхам"**

Той, хто пазбаўляе душу беларуса роднае мовы, выступае супраць хрысьціянскае традыцыі.

Ніна Баршчэўская, Варшава

*************************************************

## «Беларускае ніколі з такой хуткасцю не вымірала»

Дактары кажуць не хваляваца, бо ніякія лекі не дапамагаюць, калі баліць душа.

Чакала перадачу 30 снежня 2004 года "Песня года Беларусі". Вось дык беларускае! Адзіная песня на роднай мове. Мае любімыя Алеся, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч! Ніколі не падумала б, што і вы адракліся ад беларускіх песень. Сорамна перад суседзямі, тымі ж літоўцамі, якія так высока шануюць усё сваё нацыянальнае.

Сэрца маё балела і калі слухала перадачу Ніны Чайка "Па сутнасці". Колькі я ні званіла на гэтую перадачу, не дапусцілі ніяк, як ні прасілася. А хацела я задаць адно пытанне: "Чаму вы так бэсціце Васіля Быкава? Чаму так не любіце ўсё беларускае?"

Пасля хацелася дазваніцца да перадачы "Пяе душа народная" і прасіляваць хоць адзіную беларускую песню, бо былі такія перадачы, дзе не было ніводнай

песні на беларускай мове. Але і тут не пашанцавала.

Каб перада мною была якая-небудзь кніга скаргаў і прапаноў, то напісала бы толькі адну прапанову: "Ратуйце нашу мову, культуру і наогул усё беларускае, бо яно ніколі не вымірала с такой хуткасцю, як цяпер".

Яўгенія ФАДЗЕЕВА.

*********************************************************************

# "Барыс Рагуля, дзе ні быў, меў харызму страшную"

У першы дзень новага году споўнілася 85 гадоў Барысу Рагулю з Канады. Зараз унівэрсытэт у Манрэалі рыхтуе да выданьня ягоную біяграфію. Ён стаўся вядомым канадыйскім мэдыкам. Але на Бацькаўшчыне ён быў адным з самых актыўных беларускіх дзеячаў, якія пад час вайны спрабавалі адрадзіць беларускую справу і дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Барыс Рагуля належыць да той знакамітай плеяды беларускіх дзеячаў, якія былі выхаваныя ў беларускіх школах і гімназіях у міжваенны час у Заходняй Беларусі.



Барыс Рагуля нарадзіўся ў навагрудзкай вёсцы Турэц, але вырас ён у старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. З Навагрудкам было зьвязанае амаль усё ягонае жыцьцё на Бацькаўшчыне.

Перад вайною Барыс Рагуля паехаў разам са сваім сябрам Язэпам Сажычам у Львоў, каб вучыцца ва ўнівэрсытэце. Ён зь дзяцінства марыў стаць лекарам, мэдыкамі былі абодва ягоныя бацькі. Выхоўвала яго адна маці, бацька памёр, калі хлопчыку было толькі два гады.

Калі не атрымалася паступіць на мэдыцыну, Барыс Рагуля вярнуўся ў Наваградак, і гэтае вяртаньне каштавала яму надта дорага. Пасьля так званага вызваленьня Заходняй Беларусі ён быў арыштаваны, як быццам бы польскі шпіён, і перанёс шмат пакутаў у савецкіх турмах.

Вызваліла яго зь вязьніцы вайна, якая пачалася ў чэрвені 1941 году.

Вось як успамінае пра гэта Язэп Сажыч. "Ён цудам уцёк з савецкай турмы і вярнуўся ў Навагрдак. У Налібоцкай пушчы Клімовіч Яўген, які быў лесьнікам, яго адкарміў. Ён прыйшоў у Навагрдак да маці, а маці бомба забіла".

У Навагрудку Барыс Рагуля далучыўся да тых беларускіх дзеячаў, якія стараліся пад час акупацыі скарыстаць сытуацыю дзеля адраджэньня беларускага жыцьця, якое нішчылася пад савецкаю ўладаю з надзеяй, што гэта будзе дазволена пад немцамі. Вядома, што гэтыя ілюзіі хутка разьвеяліся.

Але рэальнасьць была такой, што нехта мусіў займацца тады беларускім справамі, бо пад акупацыяй апынулася насельніцтва, якое не здолела абараніць савецкая армія і жыцьцёвымі інтарэсамі якога, вядома ж, не зьбіраліся займацца новыя акупанты.

Рагуля займаўся адміністратыўнымі і вайсковымі справамі. Тады беларускія дзеячы спадзяваліся, што немцы дазволяць арганізаваць ім сваё войска, якое потым можа стаць узброенай сілай у абарону незалежнасьці Беларусі, калі гэтаму паспрые ваенная сытуацыя.

Паслухаем ізноў успамін Сажыча пра той час, калі ён вярнуўся ўвосень 1941 году са Львова ў акупаваны немцамі Наваградак.

"Сталася так, што не было сваіх людзей і Наваградак занялі палякі ў адміністрацыі, Рагуля настойваў, каб паліцыю ўзяць у свае рукі. Але я казаў, што пайду толькі ў войска, калі нам дадуць зброю і войска, то я пайду.

Я пайшоў дадому. "Не хачу нічога ведаць – кажу – я немцаў ненавіджу".

І вось аднойчы ўночы Рагуля прылятае зь Менску, цэлую папку папераў кінуў мне: "На табе – тваё войска. Чытай!".

Гляджу, а там нейкі генэрал дае загад, што дазваляецца беларусам арганізаваць самаахову – войска. І тады гавораць, што ў кожным раёне будзе стаяць батальён беларускай самаахавы.

У Навагрдку будзе цэнтраль. Будзе закладзена школа падафіцэраў. І Рагуля даў мне загад, каб я быў камандзірам падафіцэрскай школы ў Навагрдку. Я вярнуўся і сарганізаваў гэту школу. Тады быў вялікі вайсковы пад'ём. І немцы спалохаліся, закрылі і не дазволілі самаахову".

"Адзін з тых навагрудзкіх хлопцаў, хто тады служыў у беларускім войску спадар Шышэя, які, на жаль, нядаўна памёр у Вільні, так успамінаў у адной з нашых перадачаў пра тое, зь якім энтузіязмам узяліся тады беларусы будаваць сваё войска.

"Тут Рагуля да мяне падыходзіць, гляджу на беларускай мове нейкі чалавек пытае ў мяне: "Слухай, можа ты пойдзеш у беларускае войска?". Я кажу: "Якое войска, дзе яно?". Ён сказаў, што яны арганізуюць беларускае войска. Я адказаў: "Давай, пішы мяне".

Я пайшоў у Навагрдак, яшчэ амаль тады нікога не было, некалькі такіх хлопцаў, як я. Рагуля сеў з намі і гаворыць:"Я вам дам кніжкі, вывучце тэрміналёгію беларускую, вайсковыя каманды". І так мы навучыліся па-беларуску камандаваць.

Выдалі нам зброю і так у нас стала як бы армія. Наша задача была такая: калі якой-небудзь вёсцы пагражае небясьпека, трэба было хутка туды ехаць і зрабіць там парадак".

"Як вядома, лёс Беларусі далей склаўся ня так, як меркавалі тыя, хто марыў пра незалежную пасьляваенную Бацькаўшчыну. Беларускія дзеячы ваеннага часу мусілі выехаць у эміграцыю. Барыс Рагуля і на чужыне заставаўся такім жа актыўным працаўнікам у беларускай справе. Ён лічыў самай актуальнай задачай для беларускай моладзі на чужыне – здабыць асьвету, каб потым адукаванымі вярнуцца на Бацькаўшчыну і будаваць новую дзяржаву. Ніхто зь іх ня верыў тады, што вярнуцца дадому ўжо не давядзецца.

У тыя пасьляваенныя гады са сп. Рагулем пазнаёміўся Янка Запруднік, які разам зь іншымі беларускімі студэнтамі вучыўся потым у Лювэнскім унівэрсытэце дзякуючы таму, што стыпэндыі на навучаньне былі дабытыя зь непасрэдным удзелам Барыса Рагулі, які для гэтага нават езьдзіў з візытам да Папы Рымскага.

Успамін Янкі Запрудніка:

"Я зь ім пазнаёміўся недзе ў 1949 годзе ў Англіі, ён прыяжджаў туды да нас. Ён прыяжджаў зь Лювэну як прадстаўнік студэнцкай групы ў Лювэне.

Ён дапамагаў, быў у поўным сэнсе ня толькі фармальным старшынём цэнтралі беларускіх студэнцкіх арганізацыяў, але такім лідэрам, духовым лідэрам і інтэлектуальным, арганізатарам і душою ўсёй студэнцкай грамады.

Ён недзе ў 1951 годзе скончыў мэдыцыну, пачаў лекарскую практыку, але ўвесь час ад канца 40-х да сярэдзіны 50-х ён быў заняты таксама арганізацыйнай працаю, палітычнай, дыпляматычнай працаю.

Барыс Рагуля быў такім лідэрам высокай якасьці й шырокага маштабу, быў выдатным арганізатарам, добра разумеў беларускую справу ў такім шырокім кантэксьце, разумеў патрэбу інтэлектуальных культурных лідэраў для беларускага руху. Увесь час думаў пра будучыню Бацькаўшчыні і аргумэнтаваў пры сваіх сустрэчах ва ўрадавых колах у Брусэлі, у Ватыкане патрэбамі будучай Беларусі, патрэбамі на той час, калі яна будзе вызваленая ад камуністычнай улады і калі ёй будуць патрэбныя культурныя працаўнікі, як лідэры нацыі.

Безумоўная рэч, калі б былі належныя абставіны ён мог бы быць лідэрам нацыі, мог бы".

"Беларусь у той час страціла шмат сваіх выбітных дзеячаў, якія вымушаныя былі выехаць ў эміграцыю. Рагуля, напрыклад, на Бацькаўшчыне яшчэ шмат мог зрабіць?"

"Я думаю, што шкадаваць ня трэба. Трэба цешыцца, бо калі б яны не былі на чужыне, яны згінулі б. Яму пагражала пагібель пад савецкаю ўладаю. А дзякуючы таму, што ён апынуўся на чужыне, ён рэалізаваўся, як лекар, доктар мэдыцыны і як беларускі палітычны і культурны лідэр.

Безумоўна, шкадаваць трэба толькі, што Беларусь ня мела дэмакратычнага ладу жыцьця, каб ён мог рэалізавацца ў сябе на Бацькаўшчыне".

"Але варта належна ацаніць і тое, што было зроблена, бо беларускія дзеячы ваеннага часу і спадар Рагуля непасрэдна прыклалі шмат высілкаў дзеля адраджэньня беларускай справы ў драматычных абставінах вайны і з вялікай рызыкаю для ўласных жыцьцяў".

"Бясспрэчна, ён зрабіў вялікі ўклад. Тая слава ягоная, як маладога энэргічнага вайсковага лідэра, яна пацягнула за сабою і іншых маладых беларусаў у той час.

Як натура энэргічная і здольная, ён выявіў сябе ў тых канкрэтных гістарычных абставінах, у якіх яму давялося жыць. Калі б ён жыў ва ўмовах міру, спакою, свабоды і дэмакратыі, ён сябе рэалізаваў бы, напэўна, у іншым фармаце. Ён зрабіў максымальна і дзякаваць Богу, што ён быў тады, калі ён быў патрэбен".

"Язэп Сажыч, які пазьней цягам 15 гадоў быў на эміграцыі прэзыдэнтам Рады БНР, таксама высока ацэньвае здольнасьці Барыса Рагулі, як аднаго з нацыянальных лідэраў".

"Бачыце, Рагуля дзе ні быў, а я зь ім быў побач многа, ён меў харызму страшную. Ягоны дзядзька Васіль Рагуля быў польскім сэнатарам. Ён мог быць нашым прэзыдэнтам і правадыром".

Драматычна тое, што сваю Бацькаўшчыну Барысу Рагулю ў адрозьненьне ад іншых паваенных эмігрантаў так і не давялося пабачыць да сёньняшняга дня.

Спадар Янка Запруднік на завяршэньне сказаў, што Барыс Рагуля заслугоўвае да ягонага юбілею добрыя словы пашаны.

"Ён заслугоўвае на гэта, ён заслугоўвае поўнасьцю. Ён быў бы на самым высокім узроўні лідэрства, калі б Беларусь была незалежнай ён рэалізаваўся б на самым высокім узроўні лідэрства, як дзяржаўны дзеяч".

"Але Барыс Рагуля, як ужо адзначалася, рэалізаваўся ў сваім жыцьці найбольш, як лекар. І ў гэтай якасьці ён пасьпеў таксама шмат зрабіць дзеля Бацькаўшчыны. Паслухаем цяпер самога юбіляра.

Барыс Рагуля распавядае пра тое, што ён дапамагаў пабудаваць у Менску стаматалягічную паліклініку для дзяцей і разам з прэзыдэнтам Рады БНР Івонкай Сурвілай яны арганізоўвалі ў Канадзе дапамогу беларускім дзецям, пацярпелым ад Чарнобылю".

"Мы спрычыніліся да гэтага, урад таксама даў сродкі, мы сабралі 60 тысяч даляраў. Нашыя лекары туды езьдзілі і дапамагалі арганізаваць працу паліклінікі.

Калі здарыўся Чарнобыль, да нас прыйшла прэзыдэнт Івонка Сурвіла і сказала, што трэба сабраць грошы і пасла́ць у Беларусь. Потым пачалі прывозіць дзяцей, мы зрабілі вялікую прапаганду ў Канадзе. Спадарыня Івонка арганізавала дабрачынную арганізацыю. Я думаю, што праз нашу арганізацыю недзе дзьве тысячы дзяцей прайшло праз Канаду".

Барыс Рагуля апісаў свой жыцьцёвы лёс на эміграцыі і жыцьцё беларускай студэнцкай моладзі ў сваёй кнізе "Беларускае студэнцтва на чужыне", якая выйшла ў 1996 годзе ў Нью-Ёрку.

"Спадар Барыс, як Вы самі ацэньваеце свой лёс, ці ўсім зробленым у жыцьці Вы задаволеныя?"

"Так, я задаволены. Я маю ўражаньне, што я зрабіў усё, што можна было зрабіць.

Хацелася б больш ўдзел браць у жыцьці Беларусі. Надзея ёсьць, што пасьля падзеяў ва Ўкраіне магчыма гэта неяк пазытыўна паўплывае і на Беларусь.

Маё пакаленьне жыве ўспамінамі і надзеяю што тое, што было зроблена не змарнуецца і дасьць пазытыўныя вынікі. Праўда, надзея не вялікая, але, я думаю, што ў Беларусі беларускае жыцьцё ня будзе зусім зьліквідаванае. Я маю надзею, што маладыя людзі глядзяць з надзеяю на будучыню".

"Вы верылі ў маладосьці, што можна было тады ў тых ваенных абставінах здабыць незалежнасьць. Ці верыце ў гэта цяпер?"

"Так, веры. Гэтая вера цяпер не такая моцная. Ня ведаю, якая цяпер сытуацыя ў Беларусі, ці дух беларускі жыве яшчэ ці не. Тыя, што прыехалі зь Беларусі, шмат хто зь іх добрыя патрыёты, і працягваюць нашу працу тут на чужыне".

Барыс Рагуля разам з жонкай Людмілай вырасьцілі чатырох дзяцей – дачку і трох сыноў. Лёс іхнай сям'і таксама адметны, яны ідуць разам амаль усё жыцьцё. Людміла ўспамінае пра іхняе першае знаёмства:

"Я мела трох братоў і сястру. Барыс нас усіх ведаў, дзякуючы майму брату. Барыс быў добрым сябрам майго брата і ён з Навагрудку прыяжджаў да нас на вёску. Мне было 5 гадоў, а яму – 10. А пазьней мы пазналіся, калі я пайшла ў пачатковую школу, а ён быў у гімназіі. Калі я пайшла ў гімназію, то яны ўжо заканчвалі – брат і Барыс. І так мы пазналіся. У 1944 годзе мы ажаніліся, узялі шлюб у Варшаве, калі ўжо эміґравалі. Потым былі разам праз увесь час – ужо 60 гадоў".

"Так што Вы ўвесь час былі побач з мужам?"

"Увесь час была зь ім. У яго было вельмі цікавае жыцьцё, вельмі цяжкае. Кожны раз, што Барыс рабіў і я была побач зь ім, добра арыентавалася ў беларускіх справах і цяпер у курсе, але, на жаль, мы ўжо ня можам шмат ад сябе даць. Мы пражылі на эміграцыі, давалі сабе рады як маглі і дапамагалі сваім беларусам. І Чарнобылем цяпер займаліся тут. Прымалі зь Беларусі дзяцей. Барыс, як мэдык, арганізоўваў ім мэдычны агляд. Цяпер мы атрымалі прыгожы падарунак ад чарнобыльскіх дзяцей. Так што ніколі нам не давялося доўга без занятку сядзець".

Гутарыла **Ганна Сурмач**, Радыё "Свабода".

*********************************************************************



# Вачыма географа

**_Размова з Віталем Куплевічам, настаўнікам геаграфіі з Даўляляў каля Воранава_**

*Як выглядае Ваша настаўніцкае жыццё?*

– З вучнямі і сябрамі настаўнікамі стараюся гаварыць па-беларуску. З іх вуснаў аднак чую амаль выключна расейшчыну. У гэтым годзе, пачынаючы працу з новым класам, як заўсёды я прадстаўляўся: „Мяне завуць Віталь Куплевіч, можаце звяртацца да мяне – спадар Віталь". А тут у адказ чую ад 15-гадовай дзяўчыны з IX-га класа (прадукт лукашэнкаўскага выхавання): „Пусть убьют меня, но на белорусском языке разговаривать не буду. Если бы мой парень стал разговаривать по-белорусски, тоже его убила б!". Так паўплывлі на моладзь заняткі з ідэалогіі. Гэты прадмет увялі ў мінулым годзе – адзін раз у тыдзень вучням распавядаецца пра палітыку Аляксандра Лукашэнкі.

У маёй школе настаўнікі і дырэктары выраслі ў эпосе Брэжнева. Тады ў матэрыяльным сэнсе жылося ім лепш чым цяпер, таму у іх настальгія па тых часах. Яны усё, што не па-руску, успрымаюць як нешта несур'ёзнае, другараднае, не асноўнае. Ім надалей сама блізкая імперская ідэя з цэнтрам у расійскай сталіцы. Часта, скажам, калі трэба штосьці складанае аформіць, можна пачуць ад іх: „А едзь хоць у Маскву, і так табе гэтага не дадуць".

*Беларусі не ўспрымаюць як сваё дзяржавы? Расія ж перастала лічыць Беларусь як сваю частку.*

– Тыя людзі, аднак, і чуць пра гэта не хочуць. Мы – таксама рускія, – кажуць. Нават калі аглядаюць расійскія тэлеканалы (пераважна толькі тыя), то ўсё, што там паказваюць, напрыклад падзеі ў Маскве, успрымаюць як сваё.

*А моладзь?*

– У моладзі, праўда, светапогляд ужо не камуністычны, але вядзе яна чыста спажывецкі (кансуменцкі) спосаб жыцця. Ёй няважныя беларускія нацыянальныя вартасці, якіх, дарэчы, і не ведае. А да таго, што паказваюць на дзяржаўным Беларускім тэлебачанні, адносяцца цалкам абыякава.

*А як моладзь успрымае беларускую мову?*

– У мястэчку, дзе жыву, беларуская мова ўспрымаецца ўжо ляпей чым у камуністычны час. Няма татальнага выкарэньвання гэтай мовы з жыцця, хаця здараюцца прыкрыя эпізоды. Дзіўна і парадаксальна, што вясковыя дзеці больш варожа адносяцца да беларускай культуры чым гарадскія – выхаваныя ж у расейскай этнакультуры. Гэта ў горадзе дарастаючая моладзь у пераходным узросце, шукаючы альтэрнатывы, часта знаходзіць яе менавіта ў беларускай ідэі.

*На вашу думку, у якім накірунку пойдзе гэты працэс?*

– Усё вельмі складана. Наяўнасць сваё дзяржавы тут найважнейшая. Але сама назва Беларусь людзей прыводзіць у абман. У іх свядомасці Беларусь – гэта ўсё такі Русь, а „русский язык" для іх не толькі жа „российский, но тоже белорусский". Мы рускія – кажуць яны – толькі белыя, па геаграфіі.

*Як народ успрымае Лукашэнку?*

– Адукаваныя маладыя людзі з горада яму не давераюць. Старэйшыя і менш адукаваныя падтрымоўваюць. Для іх Лукашэнка – харызматычны чалавек, падабаецца беларускім жанчынам. А калгаснікі гатовы за Аляксандра Рыгоравіча жыццё аддаць.

*А як вачыма жыхара Рэспублікі Беларусь выглядае Польшча?*

–Першы раз пабываў у Польшчы у 1996 г. Як географ адразу звярнуў увагу на меншыя ўсяго маштабы, чым у нас. Вузкія дарогі і вуліцы, палеткі, мала прастору... Ну і ў Польшчы намнога большая шчыльнасць насельніцтва. У нас на Беларусі людзі велізарнейшую ўвагу надаюць вопратцы. З-за недахопу грошай сярэдні беларус мае дом-кватэру абы-якія. Не мае выгодаў, камп'ютэраў, сціральнай машыны, лічбавай камэры... Але нават у буднія дні, калі выходзяць з дому, выглядаюць неяк афіцыйна. Матэрыяльна ў Беларусі сярэдняму жыхару жывецца горш чым у Польшчы. У нас людзі зарабляюць ад 120 да 250 долараў. Прычым цэны маем такія ж і вышэйшыя. З прадуктаў у Польшчы мабыць толькі хлеб даражэйшы чым у нас. Але ў Беларусі цалкам іншая структура даходаў і расходаў насельніцтва. Скажам, за электраэнергію плоцім мы 2-5 долараў у месяц, калі ў Польшчы 60-100 зл. У вас даражэйшы таксама транспарт, праезд аўтобусам ці цягніком.

Яшчэ ў Польшчы кідаецца ў вочы вельмі шмат усякай рэкламы. Ёсць гіпермаркеты, да чаго мы яшчэ не прызвычаены.

Гутарыў
**Юрка Хмялеўскі**

---

**Цімафей Ліякумовіч,** Chicago

# Даверлівае слова дабрыні

**(Да 85-годдзя Міколы Аўрамчыка)**

Мікола Аўрамчык прайшоў хрышчэнне ўсімі злыбедамі свайго пакалення, але цяжкія выпрабаванні не зламалі прагу да жыцця і веру ў людзей, а толькі ўмацавалі ягоную чалавечнасць, добразычлівасць, закалілі і як чалавека, і як творцу.

Здавалася, што перад удумлівым сельскім хлапчуком з вёскі на Бабруйшчыне раскрываліся шырокія дарогі ў свет. Ужо на школьнай лаўцы прабудзілася ў яго любоў да паэтычнага радка. Гэтаму спрыялі многія акалічнасці. Пашанцавала на настаўніцу, якая змагла перадаць сваё захапленне літаратурай цікаўнаму вучню. Зачаравалі жыццёвасцю і мілагучнасцю творы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ды і хрысцілі і прычашчалі будучага паэта ў царкве, а вучыцца давялося ў школе, пабудаваных па ініцыятыве і на сродкі ўнучкі А.С.Пушкіна, у маёнтку якой даводзілася не аднойчы бываць ягонай маці, якая працавала наймічкай у суседняга пана.

Цяга да літаратуры прывяла М.Аўрамчыка на філалагічны факультэт Мінскага педінстытута. Не толькі ў бабруйскай газеце, але і на старонках часопіса "Полымя рэвалюцыі", у "Літаратуры і мастацтве" і "Звяздзе" сталі з'яўляцца ягоныя вершы. Мала таго, яны былі прыхільна заўважаны Янкам Купалам і Якубам Коласам, якія блаславілі юнака на творчую працу.

Але, як і мільёнам ягоным аднагодкам, вайна перакрэсліла Аўрамчыку ўсе планы і прымусіла ўзяцца за зброю, каб абараніць свабоду і незалежнасць Радзімы. Цудам удалося выбрацца з ахопленага полымем Мінска і пешшу дабрацца да Мсціслава. Ваяваць давялося на Паўночна-Заходнім і Волхаўскім франтах. Улетку 1942 года трапіў у палон. Прымушаны быў працаваць на каменнавугальнай шахце ў Руры, дзе пазнаў сапраўднае пекла. Пазней у аўтабіяграфіі з болем успамінаў: "У лагеры лупцавалі кіямі паліцаі, па дарозе да шахты штурхалі прыкладамі канваіры, а ў падзямеллі кайлом білі штайгеры і іх памочнікі. Ад стандартнага рацыёну – невялічкай пайкі хлеба-сурагату і двух літраў незапраўленай баланды са шпінату або сушанай бручкі – мы ледзьве перастаўлялі ногі. Кожны месяц з лагера вывозілі трыццаць – сорак хворых на туберкулёз. Калі б не малады, юнацкі арганізм ды не падтрымка і дапамога аднаго нямецкага шахцёра, дык я, напэўна, не выжыў у гэтым пекле". Пакуты, праз якія давялося прайсці, "яшчэ з юнацкага ўзросту пакрылі скроні серабром" паэту.

Пісьменніку да гэтага часу тыя страшэнныя амаль тры гады палону, калі ўспłываюць у памяці, здаюцца "жахлівым сном". Пакутлівыя перажыванні ў няволі і на катаржнай працы знайшлі горкае адлюстраванне ў вершах "Глюкаўф!", "Ключы жураўліныя", "Сустрэча былых канагонаў", "Хлеб твой" і іншых, у рамане "У падзямеллі" (1986) і ў аповесці "Палон" (1989).

*Я той, хто жыў між мёртвых.*
*Двойчы*
*Памінкі справілі па кім:*
*Без вестак я прапаў аднойчы*
*І пахаван быў раз жывым.*

Вырваны "з абдымкаў смерці", знясілены, хворы на малярыю, пасля таго, як апрытомнеў, М.Аўрамчык працаваў на шахтах Данбаса. Потым была вучоба ў БДУ адначасова з працай у рэдакцыях газет "Чырвоная змена" і "Літаратура і мастацтва", у часопісе "Полымя".

Суровыя выпрабаванні не азлобілі паэта. Ён працягваў ставіцца да людзей з адкрытай душой. Амаль 30 гадоў загадваў аддзелам паэзіі ў рэдакцыі часопіса "Маладосць". З-пад ягонай лёгкае рукі ўзняліся ў вырай многія вядомыя сучасныя беларускія паэты. М.Аўрамчык прызнаецца, што і для яго час, праведзены ў цеснай сувязі з паэтычнай моладдзю, аказаўся плённым: "Разам з ёй і сам я вучыўся, з ёй перажываў яе расчараванні, радаваўся яе поспехам. Таму часамі здаецца, што я на дваццаць гадоў маладзей свайго ўзросту".

Значнае месца ў творчасці М.Аўрамчыка займаюць тэмы змагання беларусаў з фашысцкай навалай, услаўленне перамогі над ворагам, стваральная праца людзей сярпа і молата, паразуменне паміж народамі, услаўленне высокіх чалавечых памкненняў, дружбы, узаемадапамогі. Усё напісанае прапушчана праз сэрца паэта, таму і набывае лірычнае гучанне, узнёслы рамантычны характар і выпраменьвае свет глыбокіх пачуццяў. Да таго ж ён аддае перавагу сюжэтнаму вершу, што таксама ўзмацняе эмацыянальнае ўздзеянне на чытачоў.

Самыя ўзнёслыя радкі М.Аўрамчык прысвяціў роднаму краю, "кутку з маленства дарагому", дзе "шугае бэз ліловым полымем ля хат, ад якога сполахі мільгаюць ў шыбах вокан і ў вачах дзяўчат", дзе салаўі "хорам, захлынаючыся ад красы, прапалосквають, бы лудзяць, горлы, срэбнымі крупінкамі расы" -- дзе ўвогуле ўсё "у ружовых фарбах паўстае". ("Вось яны, прывольныя прасторы…", "Плёсы", "Ад Глуска да Краснага Берага", "Знаёмства", "Мая Бабруйшчына зялёная…" і інш.) Невыпадкова паэт абраны ганаровым грамадзянінам Бабруйска.

Своеасаблівай візітнай карткай Аўрамчыкавай паэзіі наканавана было стаць вершу "Беларуская сасна", пра які П.Панчанка з захапленнем пісаў: "У многіх паэтаў ёсць адзін верш, у якім нібыта сканцэнтравана ўся сутнасць і асаблівасць іх паэзіі. У М.Святлова гэта "Гранада", у Я.Смелякова – "Калі я захварэю…", у С.Арлова -- "Яго зарылі ў шар зямны" і г.д. У М.Аўрамчыка такім вершам я назваў бы "Беларускую сасну". Тут усё хораша: і думка, і сюжэт, і вобразнасць. Адразу адчуваеш і гордасць за сваю працу лірычнага героя, і любоў да роднай Беларусі з баравымі смалістымі соснамі. Але галоўнае – верыш даверліваму голасу паэта. У гэтым увесь Аўрамчык з яго яснай паэзіяй, з любоўю да радзімы, да людзей працы, з вернасцю франтавому сяброўству, з яго добразычлівасцю да ўсіх народаў…"

Для паэзіі М.Аўрамчыка характэрна ўвага да канкрэтнага факта, да трапнай дэталі, да кампазіцыйнай зграбнасці твора. Паэт прызнаўся: "Вельмі люблю, каб форма верша была дасканалая, абсалютна закончаная, і, абавязкова, каб быў сэнс, думка, дэталь, пачуццё". Як у вершаваных, так і празаічных творах ён выказаў свой боль і сваю любоў, сваё абурэнне і свае захапленні.

Многае зроблена паэтам дзеля абагачэння беларускай паэзіі творчымі дасягненнямі іншамоўных паэтаў. Яму належаць пераклады Д.Байрана, А.Міцкевіча, А.Твардоўскага, І.Франка і Л.Украінкі, П.Тычыны і М.Бажана, М.Джаліля, Р.Гамзатава, А.Платнера, М.Хонінава і інш.

У сваю чаргу творы М.Аўрамчыка атрымалі другое жыццё на англійскай, іспанскай, нямецкай, рускай, украінскай, французскай і іншых мовах свету.

З імем М.Аўрамчыка таксама звязана адна з займальных старонак беларускай літаратуры. Маем на ўвазе нашумелую паэму "Сказ пра Лысую гару" (1971) Францішка Вядзьмака-Лісагорскага, пад іменем якога, як стала вядома праз 32 гады, затаіліся М.Аўрамчык і Н.Гілевіч. Гэты ананімны твор пра тое, як пісьменнікі абсталёўваліся на кавалках зямлі, якія адвялі ім пад дачы, выклікаў сапраўдную сенсацыю. Паэму перапісвалі, перадрукоўвалі, тайна распаўсюджвалі. Яна стала першым творам беларускага самавыдавецтва. Нарабіла шмат шуму не таму, што ў смешным выглядзе прадстаўляла пісьменнікаў, якія адначасова ператвараліся ў дачнікаў, а па сутнасці сваёй, хацелі аўтары гэтага ці не, выкрывала так званыя дасягненні "развітога сацыялізму", калі нават гной, кусок дроту, цвік і любую іншую дробязь, не гаворачы ўжо пра цэглу, цэмент і іншыя будаўнічыя матэрыялы, нельга было набыць звычайным парадкам, а ўсё даставалася "па блату", па знаёмству, з задняга ганку, чым і выклікана горкакамічнае пісьменніцкае дачнае

уладкаванне. Невыпадкова адзін з сучасных журналістаў параўноўвау яе з'яўленне з тым, што "па шэрсці беларусаў правялі запалкай". Сапраўды, чытач меў магчымасць меркаваць аб непадробленым стане рэчаў у краіне, калі нават пісьменнікі – самая інтэлектуальная частка грамадства – трапілі ў такое абсурднае становішча, што вымушаны дзеля абсталявання дачнага ўчастка выкручвацца ўсімі праўдамі і няпраўдамі, то што можна ўжо гаварыць пра звычайных смяротных. Здзекаваліся аўтары з тых парадкаў з'едліва і дасціпна. Вось адзін з прыкладаў:

*І кожны Кучару зайздросціў*
*І дэталёва ўспамінаў,*
*Як той у цырку па знаёмству*
*Браў угнаенне з-пад слана.*
*Як чуўся крытык він авата*
*І ў цыркача сярод двара*
*Пытаў: "Скажы, а ці багата*
*Ён валіць гэтага дабра?"*
*Цыркач скрывіўся, цыркнуў слінай*
*І даў блатмайстру адказ:*
*"Ты і за плечы не закінеш,*
*Што ён нахляпае за раз!.."*

Бадай, гэта самы сатырычны твор беларускай паэзіі другой паловы XX стагоддзя. У пэўным сэнсе слова ён ускалыхнуў грамадства. Ні па шрыфту друкарскай машынкі, ні па пісьменніцкіх стылёвых асаблівасцях дзесяцігоддзямі не ўдавалася выявіць аўтарства паэмы. У 1988 годзе твор упершыню з'явіўся ў друку у Бібліятэцы "Вожыка" і маланкава разышоўся. Давялося выдаўцам тут жа паўторна яе друкаваць. У 1991 годзе паэма выйшла 100 000 тыражом -- унікальнай з'ява для беларускай літаратуры. На жаль, выяўленне аўтарства гэтай паэмы аказалася скандальным, так што спрэчкі вакол яе не заціхаюць і ў нашы дні.

Заслугі М.Аўрамчыка перад беларускай пісьменнасцю знайшлі грамадскае прызнанне. За зборнік "Сустрэча былых канагонаў" ён стаў лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы. У 1980 годзе паэту нададзена званне заслужанага работніка культуры Беларусі.

У 2004 годзе ўбачыла свет кніга ўспамінаў М.Аўрамчыка "Знаёмыя постаці". Паэт, які амаль 70 гадоў правёў у пісьменніцкім асяроддзі, набыў шмат унікальных уражанняў, тым больш, што ён заўжды ўважліва ставіўся да людзей, якія яго акружалі, а яны ў сваю чаргу даверліва адносіліся да яго. Са старонак ягоных успамінаў як жывыя паўстаюць Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Максім Танк, А.Куляшоў, М.Лынькоў, І.Мележ. Хвалюючыя старонкі прысвечаны равеснікам А.Коршаку, М. Сурначову і іншым, што не вярнуліся з франтоў вайны, чый талент быў загублены на ўзлёце. Без перабольшання ўспаміны паэта можна назваць летапісам беларускай літараўры 30-90-х гадоў мінулага стагоддзя, таму што мемуарыст піша пра тых, з кім сябраваў, каго добра ведаў, хто пакінуў значны след ў ягоным жыцці. Праз паводзіны і ўчынкі вядомых людзей узнаўляецца і складаны час, у якім ім выпала жыць. Аўрамчыкава кніга дапаўнне новымі штрыхамі партрэты праслаўленых творцаў беларускага прыгожага пісьменства. У той жа час гэта кніга мастака і аб'ектыўнага суддзі працы сваіх паплечнікаў па пяры. Вось, да прыкладу, ён успамінае, якое ўражанне пакінулі вершы М.Танка ў канцы 30-х гадоў, калі голас заходнебеларускага паэта далучыўся да хору савецкіх паэтаў: "На фоне нашай здратаванай паэзіі, у якой, нібы пустазелле, пачалі бесперашкодна ўзыходзіць прымітыўная спрошчанасць і сацыялагічная аголенасць, ягоныя вершы ашаламілі пранізлівым лірызмам..."

Адметнасць паэзіі П.Панчанкі мемуарысту бачыцца ў дзёрзкім праўдалюбстве: "У ёй выразна акрэсліліся такія адметныя якасці, як уменне спалучаць іронію з гіпербалічнай эмацыянальнасцю і змякчаць пафас добрай усмешкай". Панчанкава паэзія ўспрымаецца ўзорам "паэзіі суровай мужнасці і святой справядлівасці".

Шчырыя радкі М.Аўрамчыка прывучаюць чытачоў даражыць жыццём, захапляцца зямнымі радасцямі, заставацца вернымі роднаму краю, каханню, сяброўству, "усёй істотаю адчуць, што ёсць у самай цяжкай працы свая паэзія і прыгажосць". Паэт упэўнены, што чалавечыя сэрцы маюць бязмежны запас дабраты і людзям патрэбна штодзённа і паўсюдна выяўляць больш душэўных пачуццяў. У адным са сваіх апошніх інтэрв'ю М.Аўрамчык заявіў: "Я шмат чаго бачыў у жыцці. І пераўжыў шмат. Але застаюся аптымістам – веру, што будзе, будзе наперадзе нешта вельмі светлае. Не можа быць, каб не было!"

Ягонае слова, чыстае і светлае, дапамагае людзям назіраць узыход жаданага бязвоблачнага дня над Беларуссю.

**У верасьні 1991-га году**
**бел-чырвона-белы сьцяг і герб**
**Пагоня**
**ізноў сталі дзяржаўнымі сымбалямі**
**Беларусі. Шануйма іх!!!**

# "Я зароксяя цябе не забыць анідзе, аніколі..."

Той, хто напісаў гэтыя словы, цяпер, на схіле жыцця, з поўным правам можа сказаць пра сябе: клятву сваю спраўдзіў. Даўным-даўно, напрыканцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя, у свае чатырнаццаць падлетак Мацей Смаршчок з заходнебеларускай вёскі Падлессе на Ляхаўшчыне ў першых жа сваіх вершах прызнаўся: радзіма, любая Беларусь у яго сэрцы назаўжды. Яна і засталася там назаўжды - з яе нязводнай, пяшчотнай і шчымлівай красой, з яе геранічнай гісторыяй і памяццю пра "славу бацькоў і дзядоў", з роднай хатай у "краю палеткаў ільняных у ранні светлага дня, ў васількове сіні узорах"...



Ішоў час. Сталеў, наліваўся новай сілай дар паэта, які ўзяў сабе літаратурнае імя Анатоль БЯРОЗКА. Яго вершы, што друкаваліся ў 30-я гады ў розных тагачасных выданнях, вабілі глыбінёй і шчырасцю пачуцця, лірычнай спеўнасцю і ўзрушанасцю выказвання, культурай паэтычнага слова. І - нязменным матывам любові да Бацькаўшчыны.

Між тым аўтар гэтых твораў "на паэта" ніколі не вучыўся. Ён абраў для сябе не менш высакародны занятак: скончыў медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта і займаўся лекарскай справай у Івацэвічах, Пінску і Баранавічах, потым - у Познані, не расстаючыся, зразумела, з пяром і паэтычным сшыткам.

Ён і не здагадваўся тады, якія выпрабаванні рыхтуе мірнаму доктару-творцу непрадказальны лёс. Грымнула вайна, і Мацей Смаршчок быў арыштаваны і кінуты гестапаўцамі ў канцлагер "Нордхаўзен" разам з бацькам, які там і загінуў. Пасля вызвалення з гітлераўскай катоўні, каб не патрапіць ужо ў другі, савецкі, лагер, ён рашаецца на пераезд у ЗША. З тае пары і жыве ў штаце Мінесота.

Там, за акіянам, наш зямляк здолеў заслужыць такі аўтарытэт, павагу і прызнанне сваімі высокімі прафесійнымі і чалавечымі якасцямі, што яшчэ пры жыцці яго імем названы шпіталь, а сам ён пэўны час таму быў абраны жыхарамі горада Мантысела Чалавекам года. Добрага і надзвычай спрактыкаванага доктара, які асабліва апякуецца над старымі людзьмі, актыўна займаецца дабрачыннай дзейнасцю, у тым ліку дапамогай нашым чарнобыльскім дзеткам, вельмі палюбілі тамтэйшыя жыхары. Маленькая дробязь: мясцовыя ўлады, насуперак "жалезным" правілам, выдзелілі для шаноўнага доктара Смаршчка - спецыяльна для яго асабіста і ні для кога іншага - імянную аўтастаянку для асабістага транспарту. У Мантыселе выйшла кніжачка Анатоля Бярозкі "Адзінаццаць" - вершы ў арыгінале па-беларуску і ў аўтарскім перакладзе на англійскую мову.

Хутка, вельмі хутка, Анатолю Бярозку споўніцца 90. Вялікае жыццё за плячыма. Здавалася б, яно даўно ўладкаванае, забяспечанае, спакойнае. Але ў сэрцы старога беларуса няма спакою: на чужыне, хай сабе і прыветнай, амаль штодня змоўкла яго муза, а дума-трывога адна: пра "дарагую матулю-зямлю", якую яму ўжо не ўбачыць, не вярнуцца "з дарогаў далёкіх а горкіх". Нязбыўным, хоць і прасветленым трагізмам вее ад аднаго з апошніх вершаў:

Пад глухім, чужым дзірваном,
што бярэмем ляжа на грудзі,
Сьніцца будзе мне вецер
той сьвежы з-пад Нёмана, Лані...
І адна толькі скарга ў мяне -
што мяне там ня будзе...

Ды дзівосы ўсё ж здараюцца - для тых, хто іх заслужыў, выпакутаваў, здабыў! Невядомы дагэтуль на Бацькаўшчыне Анатоль Бярозка вяртаецца да нас - сваімі творамі, сваёй вялікай і светлай душой. Вяртаецца і глыбокімі даследаваннямі нашых навукоўцаў, якія, з набыццём Беларуссю незалежнасці, нарэшце атрымалі магчымасць упершыню адкрыць для шырокай грамадскасці незнаёмы кантынент беларускай літаратуры, што створана землякамі, якія воляй лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, ды не забыліся на яе. Гэта - неаддзельная частка нашай агульнанацыянальнай культуры, якую сёння немагчыма ўжо ўявіць без такіх, да прыкладу, яркіх постацяў, як Наталля Арсеннева ці Анатоль Бярозка.

Зусім нядаўна, нарэшце, і на Радзіме з'явілася яго кніга - "Выбранае". Густоўна выдадзеная мінскім УП "Тэхнапрынт", яна акрамя вершаў, паэтычных перакладаў і ўспамінаў самога паэта, шматлікіх фотадакументаў змяшчае артыкулы і эсэ пра яго жыццё і творчасць і ўяўляе несумненную цікавасць для шырокага чытача. Укладальнік кнігі - старшыня Мінскага культурна-асветніцкага клуба "Спадчына" Анатоль Белы - ліставецца з заакіянскім паэтам-земляком і грунтоўна прычыніўся да папулярызацыі яго імя на Радзіме. У прыватным Музеі выяўленчага мастацтва (Фонд А.Белага) у Старых Дарогах ягоным клопатам сабраны датычныя паэта матэрыялы, экспануюцца яго партрэты, створаныя сучаснымі мастакамі, усталяваны бюст работы скульптара Уладзіміра Летуна.

А напрыканцы года клуб "Спадчына" ў чытальнай зале Дома літаратараў ладзіў прэзентацыю "Выбранага" Анатоля Бярозкі. Томікі кнігі атрымалі ў дарунак удзельнікі імпрэзы, якая была надзвычай насычанай і хвалюючай.

Глыбокае і сардэчнае слова пра таленавітага творцу сказалі знаныя навукоўцы - даследчык заходнебеларускай літаратуры доктар філалогіі Арсень Ліс і адкрывальніца раней закрытых ад нас літаратурных імёнаў беларускага замежжа Лідзія Савік, паэт Міхась Скобла, мастакі Алесь Цыркуноў і Алесь Шатэрнік. Гаварылі з удзячнасцю аб закінутых далёка ад дому сынах беларускай зямлі, што, нават вырваныя з каранямі з роднай глебы, не страцілі з ёю духоўную повязь і як самае дарагое пранеслі праз усе пуцявіны незабыўны вобраз любай Бацькаўшчыны, зычаць ёй дабра і шчасця. Яны захавалі ў чысціні і адметнасці, не кранутым? гвалтам "наркаманізацыі" багацце і сакавітасць беларускай мовы, павагу да нашай гісторыі і культуры, народных традыцый. І пры любых часах, любым надвор'і нясуць па свеце беларускасць, сцвярджаючы Беларусь як краіну годных, дабрадзейных, таленавітых людзей.

Такі і Анатоль Бярозка, успамінамі пра сям'ю якога падзяліліся сваячкі паэта. Адна з іх - выкладчыца беларускай мовы Смалявіцкай гімназіі №1 Ніна Іванаўна Шахмуць прыехала на вечарыну разам з вучнямі, улюбёнымі ў роднае слова і спеўную паэзію творцы, дзеля ўшанавання якога ў той вечар і сабраліся аматары паэзіі. Яны чыталі вершы і спявалі песні на словы, якія самі кладуцца на музыку. З жывым, пранікнёным пачуццём даносілі да слухачоў глыбокі сэнс і мелодыку паэтычнага радка Анатоля Бярозкі гадаванцы вядомага майстра сцэны Валерыя Мазынскага. І хаця самога "вінаўніка ўрачыстасці" не было ў зале, здавалася, што ён недзе тут, сярод нас, і толькі з-за сваёй прыроджанай беларускай сціпласці саромеецца быць навідавоку, не выходзіць на сярэдзіну залы, бянтэжыцца ад пачутых слоў удзячнасці і прызнання.

Хай жа гэтая вечарына будзе шчырым прывітаннем і віншаваннем выдатнаму беларусу ад суайчыннікаў напярэдадні юбілею. Прыйшла пара, і ўсё ж зведалі і ацанілі яго тут, у Беларусі. І далучылі да свайго духоўнага свету, да скарбніцы нацыянальнай культуры, пабагацеўшай на сказанае даўно, ды не страчанае ў віхурах часу самабытнае, настоенае на любові слова. Бо яно - як малітва аб свабодзе Беларусі.

І вось яшчэ што. Вялікую, сапраўды патрыятычную справу робіць цягам ужо дваццаці гадоў клуб "Спадчына" на чале з яго стваральнікам і кіраўніком, нястомным руплійцам на ніве нацыянальнай культуры Анатолем Яфімавічам Белым. Яны з сябрамі-паплечнікамі шчыруюць дзеля таго, каб грамадскім прызнаннем уганараваць тых, хто жыве і працуе дзеля Бацькаўшчыны, яе будучыні. Таму цалкам арганічна і натуральна ўспрымалася, што на той вечарыне ўзнагародамі клуба - ганаровымі граматамі і памятнымі медалямі - былі адзначаны не толькі знаныя дзеячы сучаснага Адраджэння нашай духоўнай і культурнай спадчыны Арсень Ліс, Валерый Мазынскі, музыказнаўца Вольга Дадзіёмава, а і людзі высокага грамадзянскага гарту, змагары за незалежную, дэмакратычную Беларусь - генерал Валерый Фралоў і праваабаронца Валерый Шчукін...

Святлана КЛІМЕНЦЕНКА. /Народная Воля/



Ванкарэм Нікіфаровіч (Чыкага)

# Ён думаў пра Беларусь

Сьветлай памяці Стэфана Паптонева

Гэтая сумная вестка прыйшла запозьнена: у самым канцы мінулага году ў Сафіі памёр пісьменьнік Стэфан Паптонеў. Ён быў незвычайным чалавекам, які апантана любіў сваю родную Балгарыю і ня меньш апантана нашу Беларусь.



У свой час лёс зьвёў мяне з ім даволі блізка. Пазнаёміліся мы недзе на пачатку шасьцідзесятых мінулага стагодьдзя падчас аднаго з першых маіх прыездаў у Балгарыю; адразу ж пасябравалі. Потым Стэфан Паптонеў прыехаў да нас у Беларусь: у яго было апантанае жаданьне напісаць кнігу пра наш народ і пра нашу краіну, у той час адну з рэспублік вялікай савецкай імпэрыі. Я суправаджаў яго паўсюль. Ён хацеў пабываць нават у самых глухіх мясьцінах; я неаднаразова быў сьведкам таго, як ён з педантычнай настойлівасьцю і дапытлівасьцю імкнуўся дазнацца як мага падрабязьней пра факты, падзеі і з'явы сучаснага і мінулага Беларусі. У яго пытаньнях адчувалася і шчырая зацікаўленасьць пачуць і ўбачыць больш, і адначасова непасрэдная ўсхваляванасьць тым, што ён пачуў і ўбачыў, пра што даведаўся. У яго не было спецыяльнай праграмы з узгадненым з уладамі маршрутам, як тады было завядзёна для іншаземных журналістаў і тым болей пісьменьнікаў, і мы ездзілі па ўсёй Беларусі куды хацелі і сустракаліся з кім хацелі. У выніку Стэфан Паптонеў напісаў сваю славутую кнігу, якую назваў "Беларусь – белая балада". У 1971 годзе яна выйшла ў Сафіі.

Неўзабаве ён прыслаў мне гэту кнігу. Не магу забыцца на свае першыя ўражаньні ад таго, пра што і як пісаў Стэфан: гэта была споведзь чалавека, які ўбачыў Беларусь зусім ня так, як было прынята тады і як патрабавала афіцыйная савецкая ідэалёгія. І яшчэ адна якасьць вылучала гэтую ягоную новую кнігу: падкрэсьлены падыход Стэфана Паптонева да беларусаў як да народу, роўнага з іншымі ў сьвеце, які зрабіў і свой значны ўнёсак у сусьветную духоўную спадчыну. Да таго ж аўтар горача і са шкадаваньнем гаварыў аб тым, што пра Беларусь, пра яе адметную старадаўнюю і самую новую гісторыю яшчэ, на жаль, у сьвеце ведаюць зусім мала. Сакавітая вобразная мова, спалучэньне яскравых канкрэтных замалёвак і ўражаньняў, роспавяду пра лёсы людзей, напружаны роздум над тым, што людзі перажылі і як яны жывуць цяпер, – усё гэта адметна вылучала напісанае Паптоневым сярод многіх кніжак нарысаў і падарожных нататкаў.

Тады, прыгадваецца, я адразу ж засеў за пераклад кнігі Стэфана Паптонева на беларускую мову. Зрабіўшы праз пэўны час гэтую працу, я занёс рукапіс у выдавецтва "Мастацкая літаратура". Некалькі месяцаў чакаў, ніхто не званіў, адказу не было. Нарэшце, паехаў у выдавецтва сам. Адзін з тагачасных рэдактараў (ня буду прыгадваць яго прозьвішча) выцягнуў рукапіс перакладу з ніжняй шуфляды стала, працягнуў мне і сказаў: "Ведаеш, браце, даволі сумная гэтая кніга. І мы ня будзем уключаць яе ў выдавецкі плян выпуску на наступны год".

Забраўшы рукапіс, я пайшоў і стаў думаць, што рабіць. Праз некаторы час, набраўшыся сьмеласьці, вырашыў аднесьці кнігу Стэфана Паптонева непасрэдна дырэктару выдавецтва пісьменьніку Міколу Ткачову і папрасіць яго асабіста яе прачытаць. Гэта было даволі дзёрзка ў той час, дырэктар мог проста адразу адмовіць мне і нават адмовіцца ад сустрэчы. Тым ня меней Мікола Ткачоў згадзіўся "пpaглeдзeць, калі будзе вольная хвіліна", як ён сказаў, гэты рукапіс. Я падрыхтаваўся чакаць. Але літаральна праз два дні, помніцца, даволі позна ўвечары зазваніў у маёй кватэры тэлефон, і Мікола Ткачоў, які лічыўся чалавекам вельмі асьцярожным, сказаў: "Я толькі што скончыў чытаць тое, што ты прынёс. Віншую! Адарвацца ня мог. Цудоўную кнігу напісаў Стэфан Паптонеў. Будзем выдаваць адразу без спецыяльнага ўключэньня ў выдавецкі плян." І сапраўды праз некалькі месяцаў кніга "Беларусь – белая балада" ўбачыла сьвет на беларускай мове.

Да таго часу Стэфан Паптонеў быў ужо даволі вядомым пісьменьнікам у сваёй краіне. Нарадзіўся ён у гарадку Ляскавец Вялікатырнаўскай акругі, скончыў Сафійскі ўнівэрсітэт. Добра былі сустрэты чытачамі яго першыя кнігі паэзіі "Трыста метраў", "Адзіны месяц сакавік", зборнікі апавяданьняў "Сваякі", "Дабруджанскія апавяданьні", аповесьць "Цуд", раман "Апошні стрэл". Забягаючы наперад, трэба адзначыць, што і пасьля выдатных твораў пра Беларусь Стэфан Паптонеў напісаў цікавыя мастацкія кнігі ў розных жанрах: раманы "Самая паўночная поўнач", "Захавайце гэту тайну", "Афера", зборнікі апавяданьняў "Строгая любоў", "Сіні бэз", "Ліст да патомкаў", "Замах", паэтычныя зборнікі "Палеміка", "Пасьля ўрачыстасьцей" і іншыя. Але найвышэйшую ацэнку балгарскай крытыкі атрымала ягоная кніга "Беларусь – белая балада", а пазьней і іншыя яго паэтычныя і публіцыстычныя творы, прысьвечаныя Беларусі.

Кніга "Беларусь – белая балада" – ня проста запісы падарожніка. Гэта – своеасаблівы жанр роздуму, жанр, што ўзьнікае на сумежжы паэзіі і прозы. Стэфан Паптонеў расказвае пра лёсы самых розных людзей, з якімі яму давялося сустрэцца ў Беларусі. Сёньня, перачытваючы гэтую кнігу, асабліва ўражвае яе антываеннае гучаньне, аўтарскае прынцыповае адмаўленьне вайны. Пазіцыя аўтара бачыцца сугучнай думкам амэрыканца Эрнэста Хемінгуэя і беларуса Алеся Адамовіча. Напрыклад, у час наведваньня Хатынскага мемарыялу на шашы Менск – Віцебск Стэфан Паптонеў успамінае пра свае паездкі ў былы лагер сьмерці Асьвенцым, а таксама на паўвостраў Вэстэрплатэ, дзе грымнулі першыя стрэлы Другой сусьветнай вайны. І чытач, уражаны разам з аўтарам тым, што адбылося ў Хатыні, чуе вельмі цікавую і павучальную гісторыю. Аказваецца, першы забіты чалавек у Другой сусьветнай вайне быў не вайсковец, а звычайны чыгуначнік на Вэстэрплатэ, і забіў яго чаргой са свайго аўтамата не кадравы вайсковец, а чалавек, які да мабілізацыі працаваў настаўнікам у школе. Калі яго спыталі, чаму ён зрабіў гэта, можа ён не бачыў, што забіты паляк не быў у вайсковай форме, былы настаўнік адказаў, што ён усё добра бачыў, што ўсё роўна забіў бы яго, нават калі б ён быў у царкоўным адзеньні, бо так трэба было, бо адна справа страляць у мішэнь, а другая – паспрабаваць дакладнасьць свайго аўтамата, страляючы ў жывога чалавека. Настаўнік нават пахваліўся, што ён чаргой з аўтамата адарваў галаву ў Войцэха Насарэка (так звалі чыгуначніка), так удала ён уцэліў, а раней адной чаргой ён нават палову "твару" ніяк не мог адарваць у мішэні.

Чаму так адбылося? Чаму настаўнік забіў чыгуначніка? Што прывяло да гэтага? Чаму па беларускай зямлі, дзе жыве такі мірны і працалюбівы народ, пракацілася самая жудасная навала вайны? А што будзе надалей, што чакае гэты народ у будучыні? На ўсе гэтыя пытаньні Стэфан Паптонеў імкнецца адказаць пасвойму, даць свае тлумачэньні таму, што яго непакоіць.

І яшчэ адзін матыў гэтай кнігі Паптонева неяк асабліва кранае сёньня, калі перачытваеш яе вачыма ўжо не колішняга перакладчыка, а цяперашняга эмігранта. Расказваючы пра Беларусь, аўтар часта зьвяртаецца ў думках і разважаньнях да сваёй роднай Балгарыі. Напрыклад, у тых мясьцінах, дзе нарадзіліся Янка Купала і Якуб Колас, ён пачуў, як часта ўсе паўтараюць славутыя коласаўскія радкі: "Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы…" І адразу ж Стэфан Паптонеў прыгадвае, што на яго радзіме, у Балгарыі, кожны, хто нарадзіўся бліз Балканскага хрыбта, гэтак жа часта ўспамінае незабыўныя радкі класіка балгарскай літаратуры Івана Вазава: "Питат ли ме де зората ме й огряла първи път" ("Спытаюць мяне, дзе сьвітаньне азарыла мяне ўпершыню" – літаральны пераклад). І гэты ўспамін для Стэфана Паптонева не проста літаратурная рэмінісцэнцыя, а нешта значна большае, глыбейшае. Такія непаўторныя куткі на роднай зямлі па думцы аўтара кнігі "Беларусь – белая балада" ёсьць сапраўдныя крыніцы натхненьня, яны ўспрымаюцца як выток мастацкага адлюстраваньня жыцьця, мараў і спадзяваньняў, а потым і зьдзяйсьненьняў сваёй нацыі, свайго народу. Думаючы пра Балгарыю, застаючыся верным сынам сваёй радзімы, пісаў Стэфан Паптонеў сваю ўсхваляваную і шчырую кнігу пра Беларусь. "Пабялела ты ад сьнягоў мудрасьці і пакут – ты з вечнасьцю заручона, – піша аўтар у вершаваным уступе да гэтай кнігі. – Пабялела ты ад туманоў і ад пуху таполяў, што блакітнай даверылі волі срэбра сваіх вяpxoў… Пабялела ад маладых гарадоў і ад касьцей чужакоў… Беларусь – зрэнка ясная, Беларусь – белая балада". У гэтым прызнаньні – вытлумачэньне вобраза, што даў назву ўсёй кнізе.

А неўзабаве пасьля выхаду гэтай кнігі ў сьвет, амаль праз год з'явілася новая кніга Стэфана Паптонева пра Беларусь. На гэты раз кніга вершаў, якая называлася "Бярозы, я ў палоне ў вас!" Менск і Хатынь, Брэст і Орша, Сож і Неман, Горкі і Вушачы, многія іншыя гарады і вёскі – такая "паэтычная" геаграфія аўтара гэтага зборніка. І ў кожным вершы, нават у чыста пейзажных замалёўках – "Палоннік", "Холад", "Пяшчота", "Дождж у Бярэсьце" – мы адчуваем шчырую ўсхваляванасьць паэта, якая не пакідала яго да апошніх дзён знаходжаньня на беларускай зямлі. У апошнім творы зборніка аўтар гаворыць пра "дзіўную балгарскую рысу" – быць душою і сэрцам разам са сваімі сапраўднымі сябрамі і ў дні гора, і ў дні радасьці. Ад'язджаючы, Стэфан Паптонеў прызнаецца, што сэрца яго застаецца тут, на Беларусі, "дзе сьпявае рачулка і салавей і дзе не астыў яшчэ попел".

І ў наступныя гады Стэфан Паптонеў як пісьменьнік і публіцыст працягваў увесь час вяртацца да беларускай тэмы, асэнсоўваць многае, расказваць і пра свае эмацыянальныя ўражаньні, і пра свае бесперапынныя роздумы. У 1982 годзе выходзіць яго паэма "Беларуская восень". Ён напісаў вялікае цікавае дасьледваньне "Маладосьць стагадовых", прысьвечанае 100-годьдзю з дня нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа. У балгарскіх часопісах друкуюцца ягоныя гутаркі з беларускімі пісьменьнікамі Васілём Быкавым, Максімам Лужаніным, Нілам Гілевічам, Васілём Зуёнкам, з балетмайстрам Валерыем Елізар'евым і іншымі. За апошнія дваццаць пяць гадоў кніга "Беларусь – белая балада" Стэфана Паптонева перавыдавалася ў Балгарыі – чатыры разы, у Менску – тры.

Даводзіцца толькі зьдзіўляцца таму, як моцна і аб'ёмна ўвайшла наша Беларусь ў ягоную сьвядомасьць, у душу і сэрца гэтага чалавека. Ён жыў думкамі і клопатам пра яе, ён хацеў і рабіў усё, каб пра яе ведалі як мага болей людзей ва ўсім сьвеце. Даволі актыўна ён перакладаў і беларускую паэзію на балгарскую мову; у яго перакладах друкаваліся творы Францішака Скарыны, Максіма Танка, Максіма Лужаніна, Петруся Броўкі, Аляксея Коршака, Анатоля Вялюгіна, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Петруся Макаля, Сяргея Законьнікава, Навума Гальпяровіча, Алеся Пісьмянкова. Стэфан Паптонеў склаў і выдаў унікальнейшы, адзіны ў сьвеце такога роду зборнік – кнігу вершаў балгарскіх паэтаў, прысьвечаных Беларусі. Названы гэты зборнік "Званы сумленьня" ("Камбаните на съвестта"), у яго ўвайшлі 63 вершы 31 аўтара! Апошнія дзесяць гадоў Стэфан Паптонеў узначальваў грамадска-культуровае таварыства "Балгарыя – Беларусь", арганізоўваў вельмі многа розных мерапрыемстваў, канцэртаў, сустрэч, выданьне ў перакладах на балгарскую мову асобных кніжак беларускіх аўтараў.

Дазволю сабе прывесьці яшчэ адзін урывак з паэзіі Стэфана Паптонева – некалькі строфаў з яго паэмы "Беларуская восень" у перакладзе Рыгора Барадуліна.

Восень у акрасе.
Цеплыні стае,
сонца бачыць ясень
праз лісты свае…

Восень Беларусі,
як кароткі сон.
Я здаюся скрусе,
сам іду ў палон.

Позьняя вясёлка
радасьцю дрыжыць.
Нехта мне вясёла
хоча варажыць.

Голле ліній долі
поўдню гнуць гады,
ды адна міжволі
рвецца ў халады, –

каб з чужой вясёлкай
зліцца назаўжды.
Нейкай цёплай зёлкай
пахнуць халады.

Ён пайшоў ад нас на 77-м годзе свайго жыцьця. Вясёлка жыцьця і лёсу Стэфана Паптонева навек злілася з вясёлкамі нашых лёсаў, лёсаў тых, што нарадзіліся на Беларусі. І дзе б мы сёньня ні жылі, мы схіляем галовы і аддаем павагу перад памяцьцю гэтага незвычайнага чалавека з Балгарыі. Ён – адзіны, непаўторны. Яго творчая спадчына заслугоўвае пільнай увагі ўсіх беларусазнаўцаў, усіх, хто займаецца вывучэньнем міжнацыянальных сувязяў і кантактаў. Ня толькі свайму балгарскаму народу, але і ўсяму сьвету нёс Стэфан Паптонеў праўдзівае слова пра Беларусь. Вечная яму памяць!

*На здымку: Стэфан Паптонеў.*

*************************************************



# Рыгору Барадуліну – 70 гадоў

24 лютага споўнілася 70 гадоў выдатнаму беларускаму паэту Рыгору Барадуліну. Ягоная натхнёная творчасць – гэта высокія ўзоры сапраўднай паэзіі, глыбіня філасофскага роздуму, невычэрпныя пласты багацьцяў роднай мовы, палымяная самаадданая любоў да роднай Беларусі, нязломная вера ў яе сьветлую будучыню, у яе адраджэньне.

"Беларускі дайджэст" шчыра віншуе Рыгора Барадуліна з гэтым слаўным юбілеем ды жадае яму добрага здароўя і далейшых творчых посьпехаў!



Спецыяльна да 70-годзьдзя Рыгора Барадуліна Ванкарэм Нікіфаровіч з Чыкага даслаў нам зроблены ім прыблізна ў 1975 годзе здымак, на якім Рыгор Барадулін зняты разам з вядомым беларускім пісьменьнікам Міхасём Стральцовым. Сябры стаяць каля матчынай хаты Рыгора ва Ўшачах на Віцебшчыне. Здымак гэты друкуецца ўпершыню.

Рыгор Барадулін

Колькі год Беларусі?
Колькі дочкам, сынам,
Колькі радасьці, скрусе,
Колькі снам, курганам;

Колькі зорцы дасьвецьця,
Што ўзышла для вякоў,
Колькі шумнаму вецьцю
Баравых бальшакоў;

Колькі кроўнаму слову,
Што вяшчуе сьвятло,
Небу, што крутаброва
Маладзік узьняло?

Твар крынічнаю вымый
Прыдарожнай журбой.
Ты спрадвечны Радзімай,
І Радзіма – табой.

Сьпёкай ці халадзінай
Чуцен голас яе.
Ты адзін без адзінай,
Ёй цябе не стае!

************************

# Рыгору Барадуліну - 70!

**Рыгор Барадулін – на шляху ад традыцыі да мадэрнізму (да 70-годзьдзя з дня народзінаў)**

Вядучы сучасны беларускі паэт Рыгор Барадулін нарадзіўся 24 лютага 1935 году. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, вучыўся на філялягічным факультэце Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, які скончыў у 1959 годзе. Пакінуўшы сьцены Alma Mater, працаваў у многіх рэдакцыях газэтаў і выдавецтваў. Як чалец беларускай дэлегацыі, прымаў удзел у працах 39 сэсіі Генэральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. У 1989 годзе быў абраны прэзыдэнтам Беларускага ПЭН-Цэнтру. У Саюзе Пісьменьнікаў з 1959 году.

Паэтычнае прызваньне адазвалася ў душы Рыгора Барадуліна ў 1953 годзе. У хуткім часе пачалі выходзіць адзін за адным ягоныя паэтычныя зборнікі: „Маладзік над стэпам" (1959), „Рунець, красаваць, налівацца" (1961), „Нагбом" (1963). Вершы з гэтых зборнікаў былі ўтрыманыя ў стылі патрабаваньняў сацыялістычнага рэалізму. Праявілася ў іх радасьць жыцьця савецкай моладзі, яе ахвярнасьць і працавітасьць, актыўны ўдзел у рэалізацыі высокіх ідэалаў і задач, стаўленых перад народам партыяй і камсамолам. Радаснае існаваньне савецкага чалавека, за якога думаюць, пра якога дбаюць, якому гарантуюць шчасьлівае жыцьцё мудрыя дзяржаўныя правадыры – гэта сэнс большасьці раньніх вершаў Рыгора Барадуліна.

Аднак ужо ў гэты пэрыяд назіраецца ў творчасьці Барадуліна перакананьне аб тым, што жыцьцё гэта зьява складаная, часта неадгадная, таемная й фатальная. Новае разуменьне людзкога побыту ўсё глыбей праяўляецца ў такіх ягоных зборніках, як: „Неруш" (1966), „Адам і Ева" (1968), „Лінія перамены дат" (1969), „Вяртанне ў першы снег" (1962), „Рум" (1964), „Свята пчалы" (1975), „Абсяг" (1978), „Алімпіяда смеласці" (1983), „Маўчанне перуна" (1986), „Самота паломніцтва" (1990).

Апрача гэтага паэт выдаў каля 20 гумарыстычных кніжак і зборнікаў для дзяцей. Зьяўляецца ён таксама аўтарам тому літаратурна-крытычных артыкулаў пад назовам „Парастак радка, галінка верша" (1987).

Вядомы Рыгор Барадулін таксама як перакладчык на беларсукую мову шматлікіх вершаў зь летувіскай, расейскай, гішпанскай, француская, ангельскай, польскай ды іншых замежных моваў.

Вялікай увагі заслугоўваюць вершы, напісаныя Рыгорам Барадулінам пад уплывам дружбы з Васілём Быкавам, асабліва тады, калі хворы Быкаў шукаў паратунку ў Фінляндыі й Нямеччыне.

Увесь творчы шлях Рыгора Барадуліна – гэта шлях стромкага маршу паэта да горных вяршыняў, гэта марш ад простага да складанага, ад адназначнага да шматзначнага. Паэт Рыгор Барадулін кіруецца пастаянным прынцыпам, які праяўляецца ў тэзе: **„Не баяцца жыцьця, змагацца з маною, крывадушлівасьцю й дэмагогіяй"**. Паэт атакуе, высьмейвае й асуджае крывадушлівасьць тых, хто прэтэндуе да валоданьня, панаваньня й дамінацыі над іншымі людзьмі.

Рыгор Барадулін сэрцам, душою й словам успрыняў, падтрымаў і адобрыў дзяржаўную незалежнасьць Беларусі, якая вырасла на развалінах Савецкага Саюзу. Паэт выразна смуткуе з тае прычыны, што яго народ усё яшчэ не разумее, што дзяржаўны сувэрэнітэт і незалежнасьць зьяўляюцца найбольшай з магчымых радасьцяў, найбольшым шчасьцем і найбольшай каштоўнасьцю.

Уся паэзія Рыгора Барадуліна зьяўляецца праявай веры ў тое, што чалавек, які згубіў родную мову, становіцца нямы, што чалавек, які чужое кахае болей, чым сваё роднае, пераўтвараецца ў камічную істоту, якая заслугоўвае не пашаны, але пагарды. Гэтыя горкія ісьціны леглі ў аснову сьпелай паэзіі Рыгора Барадуліна, які ўсё больш упэўнена замацоўваецца на верхавіне беларускага паэтычнага Алімпу.

Алесь Барскі /Варшава/

************************************************

# Беларусы ў вачох іншых народаў

Вячаслаў Ракіцкі, і філёзаф Валянцін Акудовіч
/радыё Свабода/

(Ракіцкі:) "Што асобны чалавек, што нацыя фармуюць свой вобраз знутры сябе. Натуральна, гэты вобраз значна розьніцца ад таго, якімі мы выяўляемся іншым. Тое, што ў нас вызначаюць знадворку, можа нам не падабацца і нават лічыцца за аблуду, але не павінна ня ўлічвацца намі. Бо ў сучаснай цывілізацыі, дзе ўсе ўшчыльную павязаныя з усімі, ад таго, як цябе ўспрымаюць у сьвеце, залежыць вельмі шмат. Будзеш мець адметны і станоўчы вобраз – да цябе прыгарнуцца і з далёкага замежжа, а прыдбаеш адмоўны – адвернуцца і суседзі... Але што ўплывае на фармаваньне іміджу пэўнай нацыі ці пэўнага народу?"

Семдзесят гадоў за камуністамі беларусы былі схаваныя ў такую абстракцыю, як "савецкі народ".(Акудовіч: ) "Найперш, гэта актыўны ўдзел у значных гістарычных падзеях. Але паколькі ў кожнай гістарычнай падзеі сутыкаюцца сілы дабра і зла, дык тут істотна апынуцца на тым баку, які супрацьстаіць злу. Беларусы не займелі нічога дадатнага да свайго іміджу ад хаўрусу зь "імпэрыяй зла" (як некалі назваў Савецкі Саюз Рональд Рэйган). А вось удзел беларусаў у змаганьні з фашызмам шмат дадаў да фармаваньня станоўчага вобразу нацыі."

(Ракіцкі.) "Ці можна казаць пра нейкі ўстойлівы імідж беларусаў сярод іншых народаў?"

(Акудовіч:) "Наш гістарычны лёс складваўся такім чынам, што ў розныя эпохі мы выступалі пад рознымі найменьнямі – крывічы, ліцьвіны, беларусы... З гэтага атрымлівалася, што мы раз-пораз як бы зьнікалі ў нікуды і пасьля кожнага такога зьнікненьня нам трэба было нанова даводзіць міжнароднай супольнасьці, што мы ёсьць насамрэч. Адсюль і паходзіць асноўная праблема з нашай пазнавальнасьцю. Далучым сюды і тое, што семдзесят гадоў за камуністамі беларусы былі схаваныя ў такую абстракцыю, як "савецкі народ".

У сьвеце, на жаль, беларусаў ведалі як людзей савецкіх ці як рускіх.(Ракіцкі: ) "Тады давайце пакуль абмяжуем прастору нашай гаворкі блізкай гісторыяй, вынікі якой разьвіваюць ці пераадольваюць сучасныя беларусы. СССР, 20-е стагодзьдзе. У сьвеце, на жаль, беларусаў ведалі як людзей савецкіх ці як рускіх. Рускімі называлі нават грузінаў ці казахаў. Але ў межах СССР беларусаў адрозьнівалі ня толькі ад казахаў ці кіргізаў, але і ад рускіх, украінцаў, літоўцаў, латышоў. Дык як успрымалі беларусаў іншыя народы былога СССР?"

(Акудовіч:) "Тады, калі існавала камуністычная імпэрыя, беларусы мелі свой устойлівы імідж. І гэта быў досыць станоўчы імідж. Амаль ва ўсім Савецкім Саюзе беларусы ўспрымаліся як спакойныя, працавітыя, памяркоўныя і разам з тым даволі адказныя людзі. Не выпадкова ў савецкім войску яны лічыліся сярод лепшых і бязь іх не абыходзілася ні адна збройная авантура камуністычных уладаў. Праўда, мянушка ў беларусаў была ня вельмі паважнай – "бульбашы". Але зьніжанасьць, іронія, скептыцызм – гэта, так бы мовіць, родавая прыкмета хоць якой мянушкі. Гэткім чынам, праз прыніжэньне другога, кожны народ спрабуе давесьці сваю вершнасьць над іншымі. Таму калі пасьля Другой усясьветнай вайны беларусы прыдбалі сабе яшчэ адну, ужо гераічную мянушку – "партызаны", дык і яна звычайна вымаўлялася з прысьмехам."

У розныя эпохі мы выступалі пад рознымі найменьнямі – крывічы, ліцьвіны, беларусы. З гэтага атрымлівалася, што мы раз-пораз як бы зьнікалі ў нікуды.

(Ракіцкі:) "У чым была прычына даволі прыязнага вобразу беларусаў у Савецкім Саюзе? Наколькі ён адпавядаў сапраўднасьці? А можа, гэты станоўчы імідж быў зманіпуляваны маскоўскімі ідэолягамі ў кампэнсацыю за нашу прыхільнасьць да русіфікацыі і камунізацыі? Так бы мовіць, у прыклад іншым: ідзіце сьлядамі беларусаў, і вас усе будуць паважаць..."

(Акудовіч:) "У нейкай ступені нешта такое магло быць. Але карэнны вобраз народу праз піяр-тэхналёгіі не зманіпулюеш. Ідэалягічныя высілкі ў гэтым напрамку мелі хутчэй адваротны вынік. З асабістага досьведу ведаю, што прыбалты досыць нэгатыўна ацэньвалі беларусаў як нацыю менавіта за нашу схільнасьць да русыфікацыі. Як і заходнія ўкраінцы. У васьмідзесятыя гады (ужо прамінулага стагодзьдзя) я лазіў шмат вандровак у Карпаты і, пачуўшы нашу расейскую гамонку, жыхары горных вёсак літаральна ашчэрваліся. Праўда, даведаўшыся, што мы не з Расеі, а зь Беларусі, іхнія твары лагоднелі, але стоеная варожасьць да нашай расейскасьці і нашай савецкасьці заставалася."

Пасьля Другой усясьветнай вайны беларусы прыдбалі сабе яшчэ адну, ужо гераічную мянушку – "партызаны"

(Ракіцкі:) "Зрэшты, было б нават і дзіўна, каб у вялізнай імпэрыі з мноствам розных нацыяў, народаў і народнасьцяў хоць да каго б там ні было ўсе ставіліся аднолькава. Але тое, што ў Савецкім Саюзе Беларусь і беларусаў добра ведалі і вылучалі сярод іншых – дык гэта напэўна."

(Акудовіч:) "Бачыце, беларусы, калі заўгодна, былі адной з галоўных нацыяў імпэрыі, на што ўскосна паказвала і пэрсанальнае сяброўства ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. Да таго ж, мы лічыліся хоць і малодшым, але родным братам валадара гэтай імпэрыі – расейскага чалавека. І ў адрозьненьні ад сярэдняга брата, украінца, мы былі любімым братам, бо ня мелі ні вялікіх амбіцыяў, ні прэтэнзіяў да Расеі. Але рэч, зразумела, ня толькі ў гэтым. Беларусь сталася самай індустрыялізаванай часткай імпэрыі. Нашы аўтамабілі, лядоўні, тэлевізары і шмат чаго яшчэ можна было сустрэць паўсюдна – ад Брэста да Камчаткі, а трактар "Беларус" працаваў ці ня ў кожным калгасе неабсяжнай дзяржавы. З усяго гэтага нас у Саюзе ведалі, бадай, лепей, чым мы самі ведалі сябе ды й думалі пра нас, як мне падаецца, лепей, чым мы самі думалі пра сябе."

(Ракіцкі:) "Але ў 1991 годзе камуністычны саюз раструшчыўся ўшчэнт, і беларусы засталіся сам-насам з усім тым вялікім сьветам, які пра іх, замураваных у імпэрыі, раней нічога ня ведаў. Бо дагэтуль, як ужо казалася, для вялікага сьвету ўсе беларускія навукоўцы, спартоўцы, майстры культуры і палітычныя дзеячы былі "рускімі" ці "савецкімі". А тут аднекуль зьнянацку зьявіліся нейкія беларусы... Дык давайце далей пагаворым, як сёньня беларусаў успрымаюць там, дзе раней іх ніколі не было."

Беларусы былі адной з галоўных нацыяў імпэрыі, на што ўскосна паказвала і пэрсанальнае сяброўства ў ААН

(Акудовіч:) "У 1991 годзе незалежная Беларусь нагадвала мне чалавека, які ня мае свайго цэню. Усё ў яго быццам як у людзей, але цэню няма, і яму ад гэтага ніякавата. Тут пад ценем я маю на ўвазе нацыянальны міт, праз які мы перадусім і адрозьніваем для сябе той ці іншы народ. Зрэшты, у гэтым сэнсе сытуацыя і сёньня ня лішне зьмянілася. Таму для бальшыні людзтва беларусаў па-ранейшаму няма – няма нават там, дзе з намі сустракаюцца наўпрост. Рэч тут вось у чым... Гэта суцэльная аблуда, быццам па асобным чалавеку вызнаюць народ ці краіну. За камуністамі, калі чалавека выпраўлялі ў замежжа, дык адпаведныя органы абавязкова нагадвалі: глядзі, трымайся годна, па табе будуць меркаваць аб усім савецкім народзе... Глупства. Усё адбываецца цалкам наадварот. Праз нацыянальную міталёгію мы ўжо наперад ведаем, якімі мусяць быць, скажам, італьянцы ці французы. Вось чаму вельмі часта можна пачуць зьдзіўленае: дык ён зусім не падобны да ангельца, гішпанца ці каго там яшчэ. Гэта значыць, той замежнік не адпавядае нашаму ўяўленьню пра ягоны народ..."

(Ракіцкі:) "Вашую тэзу я зразумеў. Дык, зыходзячы з гэткай тэзы, якім будзе ваш адказ на ўжо пастаўленае мною пытаньне: як беларусаў сёньня ўспрымаюць у сьвеце?"

(Акудовіч:) "Мой адказ будзе кароткім і катэгарычным – аніяк. І якраз таму, што чалавека нельга ўспрымаць беларусам, пакуль беларусы не прыдбаюць сабе больш-менш выразны нацыянальны міт, які будзе хоць трохі вядомы ў сьвеце."

Беларусь сталася самай індустрыялізаванай часткай імпэрыі.

(Ракіцкі:) "Гэта значыць, што за мяжой беларусаў

пакуль пераважна ўспрымаюць не як беларусаў, а як проста людзей, якія жывуць у нейкай загадкавай краіне пад назвай Беларусь. Так?"

(Акудовіч:) "Менавіта так. І таму кожны раз гэта іншая ацэнка, якая залежыць ад канкрэтных грамадзянаў Беларусі, што сутыкаюцца з замежнікамі – як і ад самой сытуацыі, у якой адбываецца гэтае сутыкненьне. Вось толькі адзін прыклад. На пачатку дзевяностых, калі былым савецкім грамадзянам дазволілі масава выяжджаць за мяжу, у Польшчы атабарылася ладная сьціжма бандыцкіх груповак зь Беларусі, якія займаліся рэкетам паяжджанаў у Эўропу. Тады ў палякаў склалася трывалае ўражаньне, што беларусы – гэта спрэс агрэсіўныя і бязьлітасныя рабаўнікі. Шчыра кажучы, калі я ўпершыню пачуў гэткае меркаваньне, то, хіба, і міжволі, але нават як бы ўзрадаваўся, бо так апрыкла ацэнка беларусаў, як нягеглых гаротнікаў, ня здатных да хоць якіх рашучых учынкаў… Але зь цягам часу польскія ўлады справіліся з тымі бандамі, і палякі пакрысе забыліся на беларусаў, як на адважных злодзеяў. Цяпер яны нас ужо зноў шкадуюць – няшчасных ахвяраў палітычнага гвалту. Дарэчы, цяпер нас шкадуюць ня толькі ў Польшчы, а ўсюды, дзе хоць трохі ведаюць пра Лукашэнку і зацугляны ягонай прагай улады беларускі народ."

У 1991 годзе незалежная Беларусь нагадвала чалавека, які ня мае свайго ценю.

(Ракіцкі:) "Разам з тым, шмат хто лічыць, што якраз дзякуючы палітыцы Лукашэнкі, якая не характэрная для сучаснай Эўропы, Беларусь сталася досыць вядомай у сьвеце, прынамсі – эўрапейскім.."

(Акудовіч:) "Натуральна, усім нам хацелася б, каб вядомасьць беларусаў шырылася праз розныя станоўчыя "брэнды", а не праз адмоўныя. Асабіста мне непрыемна, што куды б беларусы ў замежжы не прыяжджалі, усюды іх шкадуюць, як ахвяраў "апошняй дыктатуры Эўропы". Няма гонару ў тваёй вядомасьці, калі праз яе цябе не паважаюць, а шкадуюць…"

(Ракіцкі:) "Станаўленьне нацыянальнага міту ўсё ж залежыць ад самога народу. Міт, напэўна, распачнецца тады, калі беларусы нарэшце схамянуцца, узрушацца... Глядзіце, як "аранжавая рэвалюцыя" ва Ўкраіне палепшыла імідж украінцаў і пашырыла іхнюю вядомасьць у сьвеце".

У палякаў склалася ўражаньне, што беларусы – гэта спрэс агрэсіўныя і бязьлітасныя рабаўнікі(Акудовіч: ) "Хацелася б верыць, што нешта падобнае некалі здарыцца і ў Беларусі. Аднак, на маё разуменьне фармаваньне нацыянальнага міту адбываецца незалежна ад нашых жаданьняў. Ніколі наперад нельга ведаць, якога кшталту падзея ці палітычная фігура будзе прэзэнтаваць твой народ перад усім людзтвам. Хто б з сучасьнікаў мог сабе уявіць, што князь Дракула (насамрэч -- Улад Цепэш), адзін з найвялікшых садыстаў сьвету, які пасадзіў на кол тысячы няшчасных – некалі станецца загалоўным чыньнікам румынскага нацыянальнага міту.

А возьмем міт нямецкай нацыі. Ён жорсткі і нават страхалюдны, але гэта вялікі міт... Ня трэба блытаць нацыянальны міт з каляднай казкай для дарослых. Міт зусім не абавязкова мусіць падабацца тым, каго ён прэзэнтуе. Істотна тут толькі тое, каб ён быў, і быў менавіта як міт, а не як анэкдот. А пакуль яго няма, мы застаёмся падобнымі да чалавека без уласнага ценю."

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Ці ў Беларусі будзе рэвалюцыя?

**Ці пратэсты прадпрымальнікаў могуць давесьці да „аранжавай рэвалюцыі" ў Беларусі? З гэтым пытаньнем мы зьвярнуліся да віцэ-старшыні Эўрапейскага Парляманту Януша Анышкевіча.**

**Анышкевіч:** „ Я спадзяюся, што так станецца, хаця я ня думаю, што гэты пратэст так лёгка пашырыцца на іншыя групы беларускага грамадзтва ды ўстрасяне рэжымам. Я думаю аднак, што кожная такая ініцыятыва будзе заахвочваць людзей да чарговых дзеяньняў. Калі б гэты пратэст, дай Божа, завершыўся нават частковым посьпехам, то можа сапраўды прычыніўся б да разбуджэньня людзей і давёў бы да падобнай сытуацыі, за якой мы назіралі ва Ўкраіне."

**Перад нядаўняй сустрэчай у вярхох Буш-Пуцін, якая адбылася ў славацкай Братыславе, сарганізаваная была міжнародная канфэрэнцыя, прысьвечаная патрэбе дэмакратызацыі некаторых краінаў, якія знаходзяцца ў Эўропе. У тым ліку закраналася таксама пытаньне Беларусі. Нядаўна амаль такой самой тэме прысьвечаная была канфэрэнцыя Рады Эўропы ў Варшаве перад заплянаваным на чэрвень самітам у Варшаве. Захад усё больш цікавіцца Беларусяй. Якім чынам Вы можаце ахарактарызаваць ролю Польшчы ў гэтым кантэксьце?**

**Анышкевіч:** „Польшча спадзяецца, што зможа адыграць падобную ролю, як гэта было ў выпадку Ўкраіны. Нам удалося зрабіць больш уражлівымі нашых зьвязаўскіх партнэраў на значэньне украінскай справы. Я спадзяюся, што нам гэта таксама ўдасца зрабіць у выпадку Беларусі, хаця гэта будзе больш складана. Шчыра кажучы – значэньне Беларусі для Эўропы пэўна ня будзе так вялікае, як Украіны. Ва Ўкраіне пункт выхаду для працэсу зьменаў быў зусім іншы. Аднак слова Беларусь усё часьцей паяўляецца ў размовах. Таксама згадваецца Малдова. Я спадзяюся, што ўрэшце і эўарпейская грамадзкая думка, і эўрапейскія палітыкі займуцца гэтымі справамі.

**Эўрапейскі Парлямэнт на мінулым тыдні прыняў дакумэнт, прысьвечаны спосабам падтрымкі й дапамогі дэмакратыі ў Беларусі. Над праектам гэтага дакумэнту працавалі польскія эўрадэпутаты, між іншым, і Вы. Скажыце, калі ласка, якія, на Вашую думку, найважнейшыя запісы?**

**Анышкевіч:** „Ёсьць шэраг дзеяньняў, якія Эўрапейскі Парлямэнт прапануе Эўрапейскай Камісіі й Радзе Эўропы – адказным за рэалізацыю замежнай палітыкі Эўразьвязу. Аднак нас чакае яшчэ дыскусія, прысьвечаная сродкам, якія будуць прызначаныя на рэалізацыю прапановаў гэтага дакумэнту. Я раблю цяпер пэўныя захады на карысьць зьмены вялікага фонду Эўразьвязу, прызначанага на прамоцыю правоў чалавека й дэмакратыі ў сьвеце. Гадавы бюджэт гэтага фонду складае 140 мільёнаў эўра. Па сёньняшні дзень у Беларусь з гэтых грошай быў перададзены дакладна нуль. Хаця трэба сказаць, што фонд і падтрымка абапіраюцца на двухбаковыя пагадненьні й дамовы паміж Эўразьвязам і дадзенай краінай. У Беларусі ня можам нават думаць аб такой дамове. Я спадзяюся, што нам удасца вырашыць гэтае пытаньне іншым чынам. Мы хочам сарганізаваць у траўні бягучага году слуханьні, прысьвечаныя спосабам выкарыстоўваньня фінансавых сродкаў з гэтага фонду й спосабам падтрымкі краінаў-суседак Эўразьвязу, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на Беларусь. У выніку гэтых слуханьняў мы паспрабуем стварыць іншы спосаб выкарыстоўваньня гэтых сродкаў, больш пасьпяховы спосаб, які адпавядаў бы ня толькі ўжо ўведзеным у Беларусі абвастрэньням, зьвязаным з атрымоўваньнем замежнай фінансавай падтрымкі, але таксама з законамі, якія яшчэ могуць быць ажыцьцёўленыя ў Беларусі.

**Ва Ўкраіне былі знойдзеныя, праўдападобна, забойцы Георгія Гангадзэ. Тым часам ужо звыш 5 гадоў нявысьветленымі застаюцца зьнікненьні вядомых асобаў зь беларускага грамадзка-палітычнага жыцьця. Ці пасьля аранжавай рэвалюцыі ва Ўкраіне, заангажаванасьць Эўразьвязу ў дасьледаваньне пытаньня зьнікненьняў у Беларусі павялічыцца?**

**Анышкевіч:** „Я лічу, што магчымасьці дзейнічаць у гэтай справе Эўразьвяз мае невялікія. Маральны ціск, аказаны Лукашэнку, зусім не дае чаканых вынікаў. Эўразьвяз ня думае пра санкцыі ў дачыненьні да Беларусі, таму што гэта адмоўна адбілася б на беларускім грамадзтве. Аднак той факт, што былі знойдзеныя, верагодна, забойцы журналіста Гангадзэ, мае вялікае значэньне, таму што пакажа падобным людзям у Беларусі, што канчаткова перамагае справядлівасьць і такія справы не адтэрміноўваюцца назаўсёды. ТамашСаевіч /Warszawa/

*************************************************

# Дні Васіля Быкава ў Варшаве

„Дні Васіля Быкава" - гэтак называецца сэмінар, прысьвечаны памяці выдатнага беларускага пісьменьніка, які ладзіцца ў Нацыянальнай Бібліятэцы ў Варшаве.

На сустрэчы з дакладамі выступілі госьці зь Беларусі – блізкія сябры Васіля Быкава – паэты Генадзь Бураўкін і Сяргей Законнікаў, якія распавядалі пра малавядомыя эпізоды з жыцьця выдатнага пісьменьніка. Быкава ўспаміналі таксама праф. Аляксандар Баршчэўскі з Катэдры Беларускай Філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту й перакладчык твораў Быкава на польскую мову Часлаў Сэнюх.

Удзельнікі сэмінара атрымалі магчымасьць паслухаць арыгінальны голас Васіля Быкава з архіву Беларускай Службы Радыё Палёнія.

У фае Нацыянальнай Бібліятэкі адчынілася таксама сьціплая выстава, прысьвечаная Васілю Быкаву. Наведвальнікі Бібліятэкі змогуць пабачыць кнігі наміната да літаратурнай Нобелеўскай прэміі, выдадзеныя на беларускай мове і ў перакладзе на польскую. На выстаўцы зьмешчаныя таксама здымкі пісьменьніка.

Выставу можна глядзець да канца сакавіка. Сэмінар папоўніў паказ дакумэнтальнага фільму „ Вяртаньне дадому" з пахованьня Быкава й сустрэча з рэжысэрам стужкі Віктарам Корзунам. Сустрэчу завершыў канцэрт Касі Камоцкай.

Арганізатарам мерапрыемства „Дні Васіля Быкава" ў Варшаве зьяўляюцца Катэдра Беларускай Філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту, Міжфакультэтнае Навуковае Кола „Albaruthenica" й Грамадзка-Культурнае Кола "Тамтэйшыя". Інфармацыйную падтрымку абясьпечыла Радыё Палёнія.

Яланта Сьмялоўская, БС РП, Варшава

*************************************************

# Жанчына —прэзідэнт Беларусі

Беларусь патрэбна ратаваць ад мужчыны-дыктатара, і яе выратуе жанчына-дэмакрат. Мы, беларусы, павінны мець сваю Жану д'Арк. Беларусь — гэта матрыярхальная краіна, што з даўніны вядзецца, і сляды матрыярхату даходзяць і да нашых дзён.

Мова, рэлігія, краіна, сям'я, дэмакратыя, незалежнасць, культура, прырода, песня, асвета, будучыня, нацыя, жанчына, мама, Беларусь — усе гэтыя словы жаночага роду.

Дзяржава ВКЛ ствараліся беларускімі жанчынамі, якія рабілі вялікі ўплыў на ўнутраную і знешнюю палітыку. Лірычныя народныя песні складаліся нашымі жанчынамі, якія іх спявалі ўсюды (ля калыскі дзіцяці, у полі, за сталом і г.д.). Матчына мова ўсюды чулася і шанавалася. А асветніца і рэлігійная дзячка Еўфрасіння Полацкая — наша абаронца і цяпер.

Мужчыны кідаюцца ў розныя бакі: адны на ўсход, другія на захад. А жанчына робіць тое, што выгадна для сям'і. А сям'я — гэта ячэйка грамадства.

Народ павінен ведаць, за каго ім галасаваць, каго выбраць прэзідэнтам незалежнай Беларусі, каб захаваць гэтую незалежнасць, дэмакратыю і мову, рэлігію і сям'ю.

Нашы беларускія жанчыны найпрыгажэйшыя ў свеце, і прыгажосць павінна выратаваць нашу краіну.

Досыць народу галасаваць за аднаго і таго ж мужчыну-дыктатара, які, на мой погляд, не толькі не паважае родную мову, культуру. Хто павінен быць прэзідэнтам нашай краіны? Адказ адзін. Кіраўніком Беларусі на дадзеным этапе павінна быць ЖАНЧЫНА, беларусачка. У нас шмат адукаваных прыгожых жанчын, як у самой Беларусі, так і за яе межамі. Бяда толькі ў тым, што людзі пра іх не ведаюць, бо сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца ў руках мужчыны-дыктатара.

Трэба думаць, што маю прапанову падтрымае большасць людзей Беларусі, а калі гэта так, то мы пераможам, перамога дэмакратыя, і гэта будзе наш беларускі варыянт дэмакратычнай рэвалюцыі пад бел-чырвона-белым сцягам і гербам "Пагоня". Жыве Беларусь!

Юрый ГІЛЬ,
старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны "Віленскага краю"

*************************************************

# «На сучасную Расею разьлічваць небясьпечна»

Напярэдадні ў Маскве у прэсавым цэнтры Расейскага інфармацыйнага агенцтва "Новости" прайшоў круглы стол, прысьвечаны праблеме парушэньня правоў чалавека ў Беларусі. Грамадзкія і палітычныя дзеячы, а таксама праваабаронцы з дзьвюх краінаў аналізавалі цяперашнюю сытуацыю ў Беларусі, а таксама абмяркоўвалі магчымыя варыянты разьвіцьця падзеяў у краіне.

Ад Беларусі ў Маскву выправілася цэлая дэлегацыя: ад Беларускага Хэльсынскага камітэту Тацяна Процька і старшыня фонду "Разам" пры БХК Уладзімер Някляеў; супрацоўніца праваабарончага цэнтру "Вясна" Тацяна Равяка, кіраўнік грамадзкага руху "За справядлівыя выбары" Аляксандар Вайтовіч, адзін з кіраўнікоў Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў Аляксандар Сасноў, старшыня аналітычнага цэнтру "Стратэгія" Леанід Заіка. Ад расейскага боку "першай скрыпкай" быў старшыня Савету ў зьнешняй і абароннай палітыцы Сяргей Караганаў.

Узьдымаліся найбольш праблемныя для Беларусі тэмы – перасьлед апазыцыйных дзеячаў, абмежаваньне свабоды слова, фактычная забарона на правядзеньне сходаў і мітынгаў. У гэтым зьвязку ўзгадвалася, што летась Эўразьвяз унёс на разгляд ААН распрацаваны пры падтрымцы ЗША праект рэзалюцый, у якіх была выказаная заклапочанасьць пашырэньнем практыкі крымінальнага перасьледу лідэраў апазыцыі і праваабаронцаў, а таксама тое, што Беларусь ня выканала міжнародных абавязацельстваў – правесьці свабодныя выбары і рэфэрэндум. Тады на прапанову Расеі разгляд рэзалюцыі быў спынены "з працэдурных меркаваньняў".

Менавіта роля Расеі ў палітычным лёсе Беларусі застаецца найбольш "далікатнай": было сказана, што пакуль расейскае кіраўніцтва ня спыніць лабіраваць беларускі рэжым, рэальных крокаў да дэмакратыі чакаць цяжка. Падчас адной з папярэдніх падобных сустрэчаў старшыня расейскага Фонду абароны галоснасьці Аляксей Сіманаў наўпрост казаў, што сучасная Расея калі што і нясе суседзям, то збольшага небясьпеку: "На сёньняшнюю Расею разьлічваць небясьпечна, яна ненадзейная і зусім ня ведае саму сябе. Яна ня здольная праграмаваць сваю будучыню".

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Плян дзеяньняў Зьвязу ў дачыненьні да Беларусі

У час апошняга паседжаньня Эўрапейскага Парлямэнту ў Страсбурзе дэлегацыя парлямэнту па пытаньнях кантактаў зь Беларусяй прыняла плян дзеяньняў Зьвязу ў дачыненьні да Беларусі. Наш суразмоўца - чалец дэлегацыі, польскі дэпутат Богдан Кліх. Скажыце, чым зьяўляецца згаданы дакумэнт?

**Кліх:** "Адбылося паседжаньне дэлегацыі Эўрапейскага Парлямэнту па справах кантактаў зь Беларусяй. Гэтая дэлегацыя была першай, якая прыняла вельмі цікавы дакумэнт, гэтак званы «плян дзеяньняў» Эўрапейскага Зьвязу ў дачыненьні да Беларусі. Гэта дакумэнт разьвівае тэзісы, якія запісаны ў рэзалюцыях Эўрапейскага Парлямэнту ў дачыненьні да Беларусі. Я маю на ўвазе рэзалюцыю, прынятую перад выбарамі, а таксама пасьля фальсыфікаваных парлямэнцкіх выбараў і рэфэрэндуму. Дакумэнт мае сваё значэньне, таму што ён будзе прадстаўлены Эўрапейскай Камісіі й Радзе, каб гэтыя два выканаўчыя органы Эўразьвязу прынялі адпаведныя крокі."

Ці гэта азначае, што на рэалізцыю запісаў дакумэнту, прысьвечанага дзеяньням Эўразьвязу на карысьць Беларусі, трэба будзе яшчэ пачакаць?

**Кліх:** "Так. За рэалізацыю замежнай палітыкі Эўразьвязу на практыцы адказваюць Камісія й Рада. У сувязі з гэтым могуць яны ўзяць пад увагу рэкамэндацыі, але гэта не абавязкова. Такая структура Эўразьвязу. Мы, як чальцы дэлегацыі, спадзяемся, што Камісія сур'ёзна ўспрыме гэтыя рэкамэндацыі, таму што яны даюць інфармацыю, што могуць зрабіць гэтыя органы, каб памяняць палітыку ў адносінах да Беларусі. Зьмена палітыкі Зьвязу ў адносінах да Беларусі неабходная."

У гэтым дакумэнце знаходзіцца таксама запіс, на аснове якога беларуская ўлада называецца "рэжымам", а Аляксандар Лукашэнка - "дыктатарам".

**Кліх:** "Так, той запіс быў уведзены ў згаданы дакумэнт. Аднак трэба паясьніць пэўныя тэрміналягічныя пытаньні. У ангельскай мове, на якой напісаны дакумэнт, гаворыцца пра рэжым як пра недэмакратычную сыстэму, сыстэму дыктатуры ў Беларусі. Гэта не зьдзіўляе. Вядома таксама, што Аляксандар Лукашэнка зьяўляецца недэмакратычным прэзыдэнтам, і мы прапануем толькі паставіць кропку над «і». На маю думку, гэта адзін з найменш важных запісаў, таму што на яго аснове ня будуць прынятыя ніякія дзеяньні. Усе астатнія 33 запісы гэтага дакумэнту намнога больш важныя, таму што гэта прапановы вельмі канкрэтных крокаў, якія трэба прыняць, каб памяняць палітыку ў дачыненьні да Беларусі."

На Вашую думку, ці энэргія, якую пасьля аранжавай рэвалюцыі ва Ўкраіне Захад укладвае ў прадэмакратычныя дзеяньні на карысьць Беларусі, хопіць да выбараў у 2006 годзе? Беларускія апазыцыйныя палітыкі не сумняюцца ў тым, што самі беларусы павінны цяпер зрабіць першы крок.

**Кліх:**" Я таксама не сумняюся ў гэтым. Па сутнасьці, усё залежыць ад саміх беларусаў, і таго, ці ім удасца мабілізавацца, беручы пад увагу тэрмін прэзыдэнцкіх выбараў і посьпех украінскага народу. Гэтыя два фактары яны вымушаныя ўзяць пад увагу, калі хочуць памяняць нешта ў Беларусі. Мы можам ім толькі дапамагаць распачаць дэмакратычныя зьмены, што, дарэчы, і робім. Несумненна, тэмпэратура размоваў, прысьвечаных Беларусі, значна панізілася апошнім часам. Са шкодай для Беларусі, тэма аранжавай рэвалюцыі дамінавала на першых старонках штодзёнак. З другога боку, трэба аднак памятаць, што беларусы маюць сваіх сяброў. Гэта група палітыкаў з Польшчы, Летувы й іншых краінаў, якія памятаюць пра ўласны досьвед і ведаюць, што азначае атрымаць свабоду і ўступіць на шлях дэмакратыі. У сувязі з гэтым мы надалей будзем падтрымліваць беларусаў. Я прачытаў пасьля сустрэчы ў Братыславе камунікат, падпісаны, між іншым, Жаннай Літвіной, дзе істотны адзін сказ - "Беларусь гатовая да дэмакратыі". Я маю пачуцьцё, што гэта шчырыя словы. Цяпер трэба толькі дапамагчы беларусам, каб правесьці дэмакратычныя зьмены. У сваю чаргу мы гатовыя аказаць такую дапамогу."

-сказаў польскі эўрадэпутат ад Грамадзянскай Плятформы Богдан Кліх, зь якім размаўляў Тамаш Саевіч.

Нагадаем, што сярод 33-х рэкамэндацыяў згадваецца таксама пра стварэньне незалежнай радыёстанцыі й тэлебачаньня. **Богдан Кліх заявіў Беларускай Службе Радыё Палёнія, што працы над гэтай часткай праекту зьвязаўскай падтрымкі "моцна прасунуліся напярэд".**

**Тамаш Саевіч**



СІМВАЛІЧНЫЯ ПАДЗЕІ

# Крыж, свастыка, серп-молат...

Мне падаецца, што ў перспектыве прыкладам для нас мусяць стаць такія краіны старой Еўропы, як Францыя, Італія, Грэцыя, дзе камуністы ды іншыя "левыя" маюць сваю палітычную нішу, але пазбаўлены магчымасці рэалізаваць экстрэмісцкі патэнцыял марксізма і асабліва ленінізма. Наяўнасць у палітычнай сістэме памяркоўных "левых", адаптаваных да дэмакратыі, можа быць для краіны нават карыснай. Серп-молат ды чырвоная пяцікутная зорка не раздражняюць, калі не пагражаюць. Тое ж датычыцца і свастыкі.

Дарэчы, і свастыку, і серп-молат, і пяцікутную зорку (у розных гербах яна мае розны колер — акрамя чырвонай, бывае зялёнай, залатой, белай, сіняй, блакітнай) прыдумалі не камуністы і не фашысты. Пяцікутная зорка (яна ж пентаграма, зорка Саламона, "ранішняя зорка" ці зорка Люцыфера) здаўна вядомая як сімвал рэлігійны, сакральны. Свастыка, сонечны знак — таксама. Ці не кожны з індаеўрапейскіх народаў мае сваю версію гэтага "рухомага крыжа". Нават на першым гербе Савецкай Расіі вянок жытнёвых каласоў атачаў свастыку, унутры якой была абрэвіятура "РСФСР". А першая эмблема Чырвонай Арміі— чырвоная пяцікутная зорка са свастыкай у цэнтры. Паколькі такое спалучэнне было для неадукаваных чырвонармейцаў занадта мудрагелістым, свастыку праз пэўны час замянілі на плуг і молат, а ўжо гэтая эмблема неўзабаве трансфармавалася ў серп і молат. Але задоўга да бальшавікоў эмблемы сярпа і молата скарыстоўвалі масоны, запазычыўшы іх ва ўсходніх рэлігійных культах і еўрапейскім сярэдневяковым фальклоры.

Свастыка ў спалучэнні з двухгаловым арлом была на грашовых знаках Часовага ўрада, на баявых сцягах латышскіх нацыянальных фарміраванняў Расійскай імператарскай арміі (славутыя Латышскія стралкі). Свастыку шанавалі як нацыянальны сімвал у незалежнай Латвійскай Рэспубліцы яшчэ да таго, як гэты знак прысвоіў Гітлер. Свастыка, закампанаваная ў крыж, і сёння ёсць на вышэйшым ордэне Фінляндыі і на прэзідэнцкім сцягу гэтай краіны. На свастыку моляцца ў Індыі.

А вось серп і молат на гербе дэмакратычнай Аўстрыі з'явіўся раней, чым на эмблеме бальшавіцкай Расіі. І дагэтуль аўстрыйскі чорны арол з "гарадской" каронай на галаве трымае ў лапах гэтыя атрыбуты працы. Былі, праўда, спробы пазбавіць арла нібыта камуністычных сімвалаў, але шырокай падтрымкі ў аўстрыйскім грамадстве гэтыя рэвізіяніцкія памкненні не маюць.

У краінах, якія пацярпелі ад нацысцкай агрэсіі, свастыка яшчэ доўга будзе раздражняць людзей і правакаваць балючыя ўспаміны. А потым прыйдзе ў жыццё пакаленне, якое будзе чэрпаць веды пра Другую сусветную вайну ўжо не з аповядаў бацькоў ды дзядоў, а толькі са школьнага падручніка. Тады і адбудзецца рэабілітацыя старажытнага сонечнага знака.

Адзін з маіх сяброў па вяртанні з вайсковай службы распавядаў пра свайго старшыну, які вялікае раздражненне на падначаленых выяўляў у арыгінальным выслоўі: "Вы фашисты! Вы хуже. Вы антифашисты!" Відаць, гэты савецкі унтэр блытаў "анты" з "супер" ці "гіпер", а побач не было каго разумнага, каб патлумачыў. Я згадаў гэтую гісторыю ў сувязі з інфармацыяй, якая днямі з'явілася ў СМІ. Паведамлялася, што група дэпутатаў ад былых камуністычных краін ў Еўрапарламенце прапанавала ставіцца да камуністычных сімвалаў гэтаксама, як і да нацысцкіх.

Дэпутатаў падштурхнула да гэтага паведамленне пра разгляд камісарам Еўрасаюза ў справах юстыцыі Франка Фраціні пытання аб забароне ў краінах ЕС нацысцкіх сімвалаў і найперш — свастыкі. Кампанію за тое, каб забараніць і камуністычныя сімвалы — серп з молатам і чырвоную зорку — узначаліў дэпутат ад Венгрыі Ёжэф Шаер. Разам з ім бярэ ўдзел у кампаніі былы прэзідэнт Літвы Ландзбергіс і яшчэ чатыры дэпутаты. Шаер патлумачыў, што гаворка ідзе не пра агульную забарону камуністычных сімвалаў, а толькі на тэрыторыі Еўрасаюза. Венгрыя ў сябе ўжо забараніла сімвалы абедзвюх ідэалогій.

Нашу краіну гэтая палітычная кампанія ніякім чынам не закранае, але для Беларусі яна цікавая як прэцэдэнт. Бо набліжаецца час, калі і ў нас адбудзецца рэвізія афіцыйнай ідэалогіі і, адпаведна, сімволікі, якая яе ўвасабляе і абслугоўвае. У гэтым святле досвед краін Еўрасаюза, з якімі мы некалькі дзесяцігоддзяў былі "братьями по классу", можа быць для нас карысным.

Я не прыхільнік камуністычнай ідэі, асабліва ў бальшавіцкім выкананні. Але трымаюся думкі, што вяртанне Беларусі ў Еўропу і вяртанне гербу Пагоня і бел-чырвона-беламу сцягу дзяржаўнага статусу не павінна суправаджацца татальнай забаронай камуністычнай ідэалогіі і сімволікі, якую сёння атаясамліваюць з камунізмам.

Але ўжо сёння можна паразважаць пра тое, ці не замнога гонару мы робім нацыстам, аддаючы ім у манапольнае валоданне сімвал, якому не адна тысяча год і які насамрэч належыць усяму чалавецтву? Дарэчы, свастыка належыць да шэрагу самых эстэтычна выразных сімвалаў за ўсю гісторыю цывілізацыі.

Калі-небудзь суцішацца жарсці і вакол сярпа і молата, чырвонай зоркі. Ніхто ж сёння не патрабуе забараніць хрысціянскі крыж на той, скажам, падставе, што інквізіцыя паліла жывцом іншадумцаў і ладзіла захопніцкія "крыжовыя паходы".

Вядома, што і д'ябал іншым разам можа спаслацца на Святое пісанне. Прысвоенне камуністамі і фашыстамі, чый гістарычны час мінуў, вечных сімвалаў, якія належаць апрыёры ўсяму чалавецтву, з'ява якраз з таго шэрагу. Ні крыж, ні свастыка, ні пяцікутная зорка не вінаватыя ў злачынствах, якія адбываліся нібыта пад іхняй эгідай. Лічыць інакш, гэта быць падобнымі на бальшавіцкіх артадоксаў, якія шальмавалі Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг за тое, што легітымізацыя гэтых сімвалаў прыйшлася на гады фашысцкай акупацыі Беларусі.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.

****************************************************

# НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ

**Вольнага праўдзівага слова яшчэ ніхто ніколі не перамог.**

Як ужо паведамлялася, Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў абмеркавала чарговае патрабаванне Кіраўніцтва справамі Адміністрацыі прэзідэнта — вызваліць у Доме літаратара плошчу, якую СП дагэтуль займаў, і заключыць новую дамову на арэнду 58 кв.м., куды, апрача офісу, трэба "пасяліць" і велізарны архіў асабовых спраў, і на 20 тысяч тамоў бібліятэку, і ўсё іншае (карціны, партрэты, падарункі-сувеніры і г.д.). Гэта, падобна, апошні этап пачатага колькі гадоў таму курса на ліквідацыю Саюза беларускіх пісьменнікаў. Іншымі словамі, кіраўніцтва краіны наважылася паралізаваць развіццё нацыянальнай беларускай літаратуры.

Якімі спосабамі гэты неверагодны, звышпатрыятычны курс гаспадары жыцця здзяйсняюць? А самымі рознымі. Напачатку адабралі ў Саюза пісьменнікаў Дом літаратара, збудаваны за сродкі Літфонда, г.зн. за грошы пісьменнікаў. Заадно — загрэблі і паліклініку Літфонда — невялічкі двухпавярховы асабняк. У рынкавых умовах ДЛ выручаў бы пісьменнікаў: здавалі б палову будынка ў арэнду і мелі б грошы на выданне кніг, часопісаў, газет і на падтрыманне жыццядзейнасці і пісьменніцкага Дома творчасці "Іслач", які ўжо шмат гадоў пустуе і без дагляду патроху ператвараецца ў руіны. Адабраўшы ў пісьменнікаў маёмасць, дзяржава не здаволілася і адабрала ў СП і яго літаратурныя выданні — часопісы "Полымя", "Маладосць", "Нёман", газету "Літаратура і мастацтва". Разам з Саюзам пісьменнікаў з Дома літаратара выганяецца і Літфонд — арганізацыя, створаная амаль паўтараста гадоў таму для аказання матэрыяльнай дапамогі пісьменнікам (хворым, састарэлым, удовам і інш.).

Чаму і навошта кіраўніцтва дзяржавы вырашыла ажыццявіць гэту нечуваную ў гісторыі цывілізаваных краін задачу? Ну, зусім ясна — чаму: лічыць, што народу, якім яно кіруе, літаратура не патрэбна; больш таго — яна прыносіць дзяржаве шкоду, бо адкрывае людзям вочы і прымушае думаць. А гэта — небяспечна. Не трэба, каб людзі добра, ясна бачылі свет, што наўкола, і сур'ёзна, глыбока задумваліся аб сваім жыццібыцці, аб сваім поўным драматызму лёсе.

За 70 гадоў існавання Саюза беларускіх пісьменнікаў яго членамі былі, бадай, каля тысячы паэтаў, празаікаў, драматургаў, эсэістаў, крытыкаў і літаратуразнаўцаў... Была створана вялікая літаратура, якая дапамагла выхаваць грамадзянамі-патрыётамі мільёны і мільёны людзей, якая пайшла па ўсім свеце і адкрыла свету Беларусь і Беларуса, літаратура, якой па праве можа ганарыцца народ. Таленавіта, годна, плённа працуюць і тыя пісьменнікі, якія аб'яднаны ў СП сёння, а гэта — на тры чвэрці моладзь, якой патрэбна падтрымка ў роднай хаце. Дом літаратара і быў для пісьменнікаў такой роднай хатай. Быў... Але вялікія патрыёты, з павагі і любові да літаратуры, да кнігі, да мастацтва, прысабечылі яго. Ну, на тое ж і патрыёты, дбаюць пра будучыню Беларусі, пра духоўныя багацці народа...

Якая сумная, горкая ява!

І якая катастрафічная памылка пана начальніка дзяржавы і яго чыноўных слуг! Літаратуру, вольнае, праўдзівае мастацкае слова, спадары, яшчэ ніхто ніколі не перамог. Мудрыя мужы гэта ведаюць і такой ганебнай мэты перад сабой не ставяць.

Ніл ГІЛЕВІЧ. /Н. Воля/

****************************************************

# Эўропа стварае беларускую FM-радыёстанцыю "Пагоня"

Заходнія палітычныя і грамадзкія арганізацыі шукаюць магчымасьці фінансаваньня праектаў інфармацыйнага тэле– і радыёвяшчаньня на Беларусь. Намер наладзіць тэлетрансьляцыю з тэрыторыі Эўразьвязу яшчэ раз пацьвердзіў Эўрапарлямэнт. У хуткім часе з Польшчы на сумежныя беларускія рэгіёны пры фінансавай падтрымцы таго ж Эўразьвязу пачне вяшчаньне FM-радыёстанцыя "Пагоня". Пра неабходнасьць беларускамоўных праграмаў на "Нямецкай хвалі" абвясьціў фонд Адэнаўэра.

Яшчэ летась дэпутаты Эўрапарлямэнту ад Літвы заявілі пра неабходнасьць незалежнага тэлерадыёвяшчаньня на Беларусь з сумежных краінаў. Аргумэнтам "за" — сытуацыя з правам на распаўсюд і атрыманьне інфармацыі ў Беларусі: уціск на незалежную прэсу, перасьлед журналістаў, татальны кантроль за электроннымі СМІ.

Цяпер адпаведны запыт накіраваны ў Эўракамісію, дзе праект праходзіць фінансавае абгрунтаваньне. Адказным за "беларускую ідэю" у Эўрапарлямэнце — літоўскі дэпутат Юстас Паляцкіс. Кіраўніца бюро спадара Паляцкіса ў Вільні Гіедрэ Пурванэцкене лічыць, што ідэя мае шанцы на рэалізацыю. Аднак што да канкрэтных тэрмінаў — адказаць пакуль не бярэцца.

"Пакуль спадар Паляцкіс нас не інфармаваў, як пытаньне разьвіваецца. Нам, прынамсі, ніякіх заданьняў рабіць пакуль не даручалі".

Паралельна з гэтым абвешчана пра хуткі намер наладзіць вяшчаньне з Польшчы FM-радыёстанцыі "Пагоня", таксама фінансаванай Эўразьвязам. А напярэдадні нямецкі Фонд Адэнаўэра выказаўся на карысьць таго, каб распачаць радыёвяшчаньне на нацыянальных мовах у найбольш праблемных краінах, уключна зь Беларусьсю. А гэта значыць, цалкам верагодны пачатак трансьляцыяў па-беларуску радыёстанцыі "Нямецкая хваля".

На тле размоваў пра магчымасьць замежнага тэле– і радыёвяшчаньня актывізуецца афіцыйная прапаганда ў Беларусі. У пачатку лютага пачалося вяшчаньне спадарожнікавага каналу "Беларусь-ТБ". Міністар інфармацыі Ўладзімер Русакевіч у інтэрвію агенцтву "Інтэрфакс" заявіў, што яму ўсё вядома пра спробы Захаду пачаць "інфармацыйную вайну супраць Беларусі", а таму ўлады гатовыя да контрадзеяньняў. На гэтую ж тэму выказаўся Аляксандар Лукашэнка, які падчас сустрэчы з кіраўнікамі нацыянальных тэлеканалаў наўпрост заявіў: імкненьне Захаду наладзіць свае крыніцы інфармаваньня беларусаў вяртае ў час халоднай вайны. Былы кіраўнік Беларускага тэлебачаньня Генадзь Бураўкін лічыць, што барацьба за ўплыў на інфармацыйнай прасторы будзе толькі ўзмацняцца. Характарыстыку ж цяперашняму тэлебачаньню, якое, дзякуючы "Беларусь-ТБ", выйшла на міжнародную прастору, дае такую:

"Бачна адно толькі жаданьне — яно скіраванае на нейкія асабістыя інтарэсы і зацікаўленьні ўладаў, бо дзеяньні Лукашэнкі Расея, Украіна, я ўжо не кажу пра Захад, вельмі часта, жорстка і, на мой погляд, справядліва крытыкуюць".

У дэмакратычным лягеры ідэю неангажаванага інфармаваньня беларусаў вітаюць, але досыць асьцярожна ставяцца да тэхнічнага моманту ў ажыцьцяўленьні такіх маштабных праектаў. Перадусім зьвяртаюць увагу на абмежаваную колькасьць уладальнікаў спадарожнікавых антэнаў, на лякальны характар тэрыторыяў, якія ахопліваюцца FM-вяшчаньнем, і на ня вельмі якасны прыём на кароткіх і сярэдніх хвалях.

*************************************************

# Фонд Адэнаўэра лічыць неабходным пачаць беларускае вяшчаньне на "Deutsche Welle"

Нямецкі фонд імя Конрада Адэнаўэра ў сваёй справаздачы пра мэдыйную сытуацыю ў найбольш праблемных рэгіёнах сьвету назваў Беларусь краінай, дзе сыстэмна перасьледуюцца незалежныя мэдыі і дэмакратычныя журналісты. Справаздача, якая ахоплівае пэрыяд ад 2000 да 2004, была прадстаўленая ў часе міжнароднай канфэрэнцыі ў Пэтэрсбэргу пад Бонам. Разам зь вядомай палітычнай фундацыяй у імпрэзе ўзялі ўдзел прадстаўнікі такіх арганізацыяў як "Freedom House", "Transparency International" і аўстрыйскай філіі "Рэпартэры бязь межаў".

Аб'ектам дасьледаваньня экспэртаў сталі 15 краінаў з Усходняй Эўропы, Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амэрыкі. У той час як прадстаўнікі "Freedom House" канстатавалі, што за апошнія пяць год узровень дэмакратычнасьці СМІ татальна зьнізіўся ва ўсіх гэтых краінах, аналітыкі фундацыі імя Конрада Адэнаўэра адзначылі пазытыўныя зрухі ў чатырох краінах: Індanэзіі, Мэксыцы, Паўдзённай Афрыцы і Эгіпце. Усе экспэрты аднадушныя ў ацэнцы сытуацыі са свабодай СМІ ў Расеі – яна аднамічна пагаршаецца.

Што да Беларусі, то, паводле выступоўцаў, гэта адзіная з 15 дасьледаваных краінаў, дзе ўвесь апошні час ўстойліва, сыстэмна і супрацьзаконна вядзецца перасьлед незалежных мэдыяў і дэмакратычных журналістаў.

Як лічыць Пэтэр Айген, кіраўнік антыкарупцыйнай групы "Transparency International", нягледзячы на тое, што працаваць ва ўмовах рэжыму для незалежных журналістаў усё больш небясьпечна, дэмакратычных СМІ ў Беларусі ёсьць галоўным фактарам у барацьбе супраць карупцыі і адзінай надзеяй на тое, што дыктатура можа быць зрынутая.

Улічваючы цяперашнюю сытуацыю са свабодай прэсы ў Беларусі, экспэрты фундацыі імя Адэнаўэра бачаць неабходнасьць ў стварэньні адмысловага беларускага вяшчаньня на нямецкім радыё "Deutsche Welle". Як паведамляе нямецкая "Frankfurter Allgemeine", адпаведны праект ужо падрыхтаваны, аднак на разгляд будзе вынесены гэтым летам.

Тым часам, аўстрыйскія назіральнікі, указваючы на ўзмацненьне цэнзуры ў беларускіх СМІ, робяць выснову, што для Лукашэнкі нават крамлёўская цэнзура выглядае недастаткова жорсткай. Ня выключана, што пад кантроль беларускіх цэнзараў падпадуць і некаторыя праграмы тых расейскіх каналаў, якія вяшчаюць на Беларусь.

Як піша газэта "OberOsttereichische Nachrichten", чым больш настойліва чапляецца "апошні дыктатар Эўропы" за ўладу, тым больш абсурднымі выглядаюць ягоныя загады. Паводле аўстрыйскага выданьня Лукашэнка, праўдападобна, марыць пра новую жалезную заслону вакол Беларусі. Аднак тым сам ён, магчыма, капае магілу і сабе самому. Дагэтуль краіну штогод пакідалі тысячы беларусаў. Калі яны больш ня змогуць бегчы ад лукашызму, то ім не застанецца нічога іншага, як пачаць барацьбу супраць яго, піша журналіст "Ober-Osttereichische Nachrichten".

*************************************************

*************************************************

### *Прадаўжэньне Лісты ахвярадаўцаў на "Беларускі Дайджэст" у 2005 годзе*

| | |
|---|---|
| Славік Шабовіч | $200.oo |
| ЗБВБ / Англія/ | $200.oo |
| Пётра Касаты | $150.oo |
| Др. Язэп Сажыч | $100.oo |
| Моніка Банькоўскі /Швайцарыя/ | $100.oo |
| Сыльвэстар Будкевіч /Англія/ | $100.oo |
| Мікола Грэбень | $60.oo |
| Георг Касьцюкевіч | $50.oo |
| Лявон Салавей | $50.oo |
| Паўло Бурдзь /Канада/ | $50.oo |
| Марыя Гаўрылюк /Канада/ | $50.oo |
| Др. Вітаўт Рамук | $50.oo |
| Уладзімір Ракуць | $50.oo |
| Уладзімір Русак | $50.oo |
| Васіль Шчэцька | $40.oo |
| Юрка Рэпэцкі /Канада/ | $35.oo |
| Еленора Норык | $30.oo |
| Віталі Церпіцкі | $30.oo |
| Др. Алекс Андрэйчук | $30.oo |
| Вольга Грыцук /Канада/ | $20.oo |

**Усім Шчырае ДЗЯКУЙ!!!**

*************************************************

# З'езд беларусаў свету! Падмуркі кансалідацыі.

**Згуртаванне "Бацькаўшчына" склікае беларусаў свету на чарговы Чацвёрты з'езд.**

Блізу 4-х мільёнаў беларусаў стала жывуць па-за межамі Беларусі. Беларуская дыяспара жыве актыўным грамадскім жыццём, назапашвае культурныя і навуковыя здабыткі, адкрывае школы, тэатры, цэрквы і музеі, выдае газеты і часопісы, арганізоўвае ўласны бізнес. Беларусы замежжа – неад'емная частка нацыі, здольная вельмі актыўна ўплываць на жыццё Радзімы. Аднак з-за штучных перашкодаў дзве вялікія часткі беларускай нацыі – беларусы ў Беларусі і беларусы ў свеце – моцна адарваныя і амаль не маюць узаемадзеяння. Вялізарны мастацкі, навуковы, палітычны і эканамічны патэнцыял беларускай дыяспары застаецца для грамадства Беларусі недасягальным. У такіх абставінах беларуская дыяспара не здольная стаць дзейсным фактарам развіцця Беларусі, нават маючы для гэтага і магчымасці, і жаданне.

Сучасная беларуская дзяржава прынцыпова не здольная адэкватна рэагаваць на глабальныя праблемы беларускай гісторыі. Больш за тое, беларускія ўлады паступова, але няўхільна, страчваюць нават знешнія рысы беларускасці. На дзяржаўным узроўні ў Беларусі беларуская мова фактычна выкінутая з дзяржаўнага ўжытку і сродкаў масавай камунікацыі (радыё, тэлебачанне, СМІ). У той жа час у Беларусі дэнацыяналізаваная частка беларускай інтэлігенцыі ўжо сур'ёзна сцвярджае аб немагчымасці і няздольнасці існавання беларускай мовы ў рэальным жыццёвым побыце. Гэтае становішча, як і шмат разоў у гісторыі, нараджае адпаведныя часу грамадскія ініцыятывы, якія ажыццяўляе найбольш свядомая частка беларускай супольнасці.

У Беларусі за годнае месца сваёй культуры змагаюцца многія адданыя беларусы, якія ў беларускім грамадстве стварылі асаблівы культурны пласт. Яны – найактыўная частка нацыі, здольная ствараць беларускую гісторыю ў нацыянальным рэчышчы. Ім і патрэбна маральная і арганізацыйная падтрымка беларусаў замежжа. Яны складаюць 13% грамадства, і, на першы погляд, здаецца, што іх мала. Але гэта не так. Калі звярнуцца да гісторыі, убачым, што беларуская шляхта, самы актыўны пласт беларускага грамадства мінулага, рухала гісторыю нашай краіны, складаючы ўсяго 10%.

Прыходзіць час стварэння новай беларускай эліты, апантанай трыма жыццевызначальнымі пачуццямі: любоў да Айчыны, пачуццё доўга перад ёй і адказнасць за лёс свайго народа. Дыяспара, як актыўная частка нацыі, здольная рашуча ўключыцца ў гэтыя працэсы, тым больш, што яны непасрэдным чынам адбіваюцца і на самой дыяспары. Пры гэтым беларусы замежжа валодаюць унікальнай магчымасцю ствараць імідж беларускай нацыі ў вачах сусветнай супольнасці і магчымасцю абапірацца на цывілізацыйны вопыт народаў свету.

Своечасовае і паспяховае вырашэнне ўсіх гэтых праблем дазволіць беларускай нацыі захаваць сваю культурную і дзяржаўную прысутнасць у новым тысячагоддзі. І мы маем усе магчымасці і сілы дасягнуць поспеху. Не маем толькі самага складанага – сусветнай беларускай кансалідаванасці. Але годна выстаяць перад глабалізацыяй, сацыяльнымі і прыроднымі катаклізмамі сучаснасці змогуць толькі кансалідаваныя нацыі. Вера, мова, культура, гістарычныя традыцыі, дзяржаўнасць, нацыянальная самасвядомасць – шляхі і падмуркі такой кансалідацыі.

У адказ на гэты глабальны выклік сучаснасці і дзеля распрацоўкі дзейснага механізму нацыянальнай кансалідацыі Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" склікае Чацвёрты з'езд беларусаў свету. Ён адбудзецца 16-17 ліпеня 2005 г. у Мінску. Тэма З'езду – "Беларусь для дыяспары – дыяспара для Беларусі. Шляхі да кансалідацыі і развіцця нацыі."

Згуртаванне "Бацькаўшчына" ужо склікала з'езды беларусаў свету ў 1993, 1997 і 2001 гг. У чым карэнная розніца гэтага форуму ад папярэдніх? У змене знешніх і ўнутраных абставінаў і ўмоваў. Новы свет, новыя глабальныя працэсы, новая беларуская супольнасць узброеная новымі тэхнічнымі магчымасцямі, і, разам з тым, – нясмелыя і раз'яднаныя спробы беларускага адказу на праблемы.

Ужо з лістапада 2004 года ідзе актыўная праца па падрыхтоўцы З'езду. Сфарміраваны і пачаў працу Аргкамітэт, у які ўвайшлі дзеячы беларускай дыяспары і выбітныя асобы Беларусі, разам – 105 чалавек.

Старшынёй Аргкамітэту абраны кіраўнік Згуртавання "Бацькаўшчына" прафесар Анатоль Грыцкевіч, сустаршыні – Янка Запруднік (ЗША), Алена Макоўская, Радзім Гарэцкі, Валеры Герасімаў, Барыс Стук (Беларусь). Апэратыўныя пытанні падрыхтоўкі З'езду вырашае Рабочая група Аргкамітэту на чале са старшынёй Рады "Бацькаўшчыны" Аленай Макоўскай.

На З'езд збяруцца прадстаўнікі беларускіх арганізацый і грамадскія дзеячы з 25 краінаў свету. Агульная колькасць дэлегатаў і гасцей З'езду складзе каля 400 асобаў.

Ва ўмовах поўнай адсутнасці дзяржаўнай падтрымкі і напаўпадпольнай дзейнасці беларускага бізнесу актуальнай праблемай становіцца фінансавае забеспячэнне З'езду. Галоўным яго ініцыятарам і арганізатарам застаецца Згуртаванне "Бацькаўшчына", але адзіная фінансавая крыніца дзейнасці "Бацькаўшчыны" на працягу многіх гадоў – дабрачынныя ахвяраванні яе сяброў.

Управа Згуртавання беларусаў свету і Аргкамітэт па падрыхтоўцы З'езду звяртаюцца да ўсіх беларускіх арганізацыяў і суайчыннікаў з просьбай аказаць фінансавую дапамогу і стаць фундатарамі Чацвёртага з'езду беларусаў свету.

Па рашэнні Аргкамітэту фундатары З'езду атрымаюць спецыяльныя ўзнагароды. Прозвішчы фундатараў (па іх жаданні) будуць размешчаны ў спецыяльны раздзел зборніка "Матэрыялы Чацвёртага з'езду беларусаў свету". Зборнік будзе надрукаваны па выніках З'езду і разасланы па асяродках беларускай дыяспары ў свеце…

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

 

Сьв. Памяці

## Пётра Шыркоўскі

4 верасьня 1925 — 23 сьнежня 2004



Нарадзіўся 4-га верасьня 1925 года ў Новым Сьвержані, Стаўбцоўскага павету, вучыўся ў Нясьвіжскай сэмінарыі, у часе другой сусьветнай вайны трапіў у Нямеччыну, служыў у польскім войску пад брытанскай камандай.

Пасьля вайны прыбыў у Англію і жыў у горадзе Манчэстэр, дзе ад самага пачатку быў чынным сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі і Згуртаваньня беларускіх камбантантаў, належыў да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Памёр неспадзявана 23-га сьнежня 2004 года, пакінуўшы ў смутку жонку Анну і на Беларусі братоў і сясьцёр.

Пахаваны 5-га студзеня 2005 года на могілках Судэрн у Манчэстэры.

Няхай будзе яму лёгкай ангельская зямелька і сьніцца Беларусь, якую ён так моцна любіў.

*Галоўная Ўправа ЗБВБ*

 

Сьв. Памяці

### Юзэфа Найдзюк

01.02. 1927 — 19. 11. 2004

Нарадзілася ў Мазурках Ляхавіцкага павету ў Беларусі. Памерла ў Каліфорніі, ЗША.

Пахаваная нябожчыца на магільніку Forest Lawn Cemetery, Hollywood Hills, Pasadena, California

Вечная Памяць!

Сьв. Памяці

### Ганна (Нюра) Русак

18. 07. 1919 — 27. 11. 2004

Нарадзілася ў Баранавічах у Беларусі, памерла ў Ню Ёрку, ЗША.

Пахаваная нябожчыца на Беларускім могільніку ў Іст-Брансвіку, штат Ню- Джэрзі, ЗША.

Вечная Памяць!

Сьв. Памяці

### Людміла Колін

24. 06. 1934 — 18. 12. 2004

Нарадзілася ў засьценку Парэчча на Гомельшчыне, памерла ў Ню Ёрку, ЗША.

Вечная Памяць!

Сьв. Памяці

### Уладзімер Акавіты

20. 10. 1925 — 22. 01. 2005

Нарадзіўся ў мястэчку Косава, што ля Брэста, Беларусь, памёр у Адэлайдзе, Аўстралія.

Вечная Памяць!

## Памёр змагар за вольную Беларусь

На 79-м годзе жыцця перастала біцца сэрца ветэрана беларускага дэмакратычнага руху Кастуся Рамановіча.

Кастусь Рамановіч нарадзіўся 1 студзеня 1927 г. у вёсцы Лозкі на Навагрудчыне ў сялянскай сям'і. У час вайны скончыў настаўніцкую семінарыю, быў сябрам Саюза беларускай моладзі, курсантам беларускай афіцэрскай школы, за што ў снежні 1944 г. яго арыштавала НКУС. Пасля вяртання з канцлагера ў Варкуце ў верасні 1946 г. разам з сябрамі-франтавікамі ў Навагрудку заснаваў падпольную патрыятычную арганізацыю "Саюз вызвалення Беларусі". У 1947 г. сябры арганізацыі былі выдадзены правакатарам, арыштаваны і асуджаны. Свой другі тэрмін К. Рамановіч адбываў у Расіі і Казахстане, вызваліўся толькі ў 1956 г.

Рамановіч жыў у Пінску, меў спецыяльнасць інжынера-будаўніка. Пасля аднаўлення незалежнасці Беларусі браў актыўны ўдзел у грамадска-палітычным жыцці Піншчыны, у ветэранскім дэмакратычным руху. У 2003 годзе закончыў свае ўспаміны, якія надрукаваць не паспеў.

Са смерцю Кастуся Рамановіча Беларусь страціла вялікага патрыёта, нястомнага змагара за вольную і незалежную Беларусь. Светлая памяць!

## БЕЛАРУСАЎ СТАНОВІЦЦА МЕНШ

Колькасць насельніцтва Беларусі на 1 студзеня 2005 года склала 9,8 млн. чалавек, скараціўшыся за 2004 год на 49 тыс.

Паводле інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу, колькасць гарадскога насельніцтва ў 2004 годзе павялічылася на 10,5 тыс. чалавек і склала 7 млн. 56 тыс., сельскага насельніцтва — знізілася на 59,5 тыс. чалавек і склала 2 млн. 744,1 тыс.

Як і ў папярэднія гады, скарачэнне колькасці насельніцтва абумоўлена перавышэннем колькасці памерлых над народжанымі. Пры гэтым у 2004 годзе ў параўнанні з 2003-м колькасць памерлых у цэлым па краіне паменшылася на 2 працэнты.

Летась на 2,4 працэнта знізі-лася колькасць выпадкаў смерці ад хвароб сістэмы кровазвароту. На 4,8 працэнта павялічылася смяротнасць ад шэрагу інфекцыйных і паразітарных хвароб, на 2,4 працэнта — хвароб органаў дыхання, на 0,6 працэнта — новаўтварэнняў. Ад вышэйпералічаных прычын смерці памерлі 72,8 працэнта агульнай колькасці памерлых, у тым ліку ад хвароб сістэмы кровазвароту — 54,8 працэнта.

Колькасць выпадкаў смерці насельніцтва ад прычын, не звязаных з захворваннем, за 2004 год у параўнанні з 2003 годам знізілася на 0,4 працэнта, у тым ліку ад няшчасных выпадкаў, звязаных з транспартнымі сродкамі, — на 6,2 працэнта, ад выпадковага ўтаплення — на 5,5 працэнта. На 9,7 працэнта ўзрасла смяротнасць ад выпадковых атручванняў алкаголем (у працаздольным узросце — на 7,7).

У 2004 годзе адзначана зні-жэнне смяротнасці немаўлят. Калі ў 2003 годзе памерлі 685 дзяцей ва ўзросце да 1 года, то летась — 622. Паказчык дзіцячай смяротнасці склаў 7 памерлых дзяцей ва ўзросце да 1 года на адну тысячу народжаных супраць 7,7 за 2003 год. У структуры прычын смерці дзяцей першага года жыцця 61,9 працэнта складаюць станы, якія ўзнікаюць у перынатальным перыядзе, і прыроджаныя анамаліі.

Вольга АСІПЕНКА /Г. С./

## Упершыню ў Беларусі

распачаліся грамадзкія слуханьні **"Аб злачынствах сталінізму ў Беларусі"**. Ініцыятарамі акцыі выступілі Грамадзкая ініцыятыва "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты" й таварыства "Міжнародны Мэмарыял". Удзел узялі прадстаўнікі Партыі БНФ, грамадзкага аб'яднаньня "Дыярыюш", ахвяры рэпрэсіяў.

Тэма першага паседжаньня, якое вёў сябра Сойму Партыі БНФ Вацлаў Арэшка, – "Рэпрэсіі супраць беларускага сялянства". Зь інфармацыйным дакладам выступіў гісторык Ігар Кузьняцоў, які вызначыў колькасьць рэпрэсаваных у Беларусі сялянаў **у 1 мільён 350 тыс. чалавек.**

Затым прысутныя заслухалі сьведкаў злачынстваў – былых вязьняў ГУЛАГу і ссыльных, якія яшчэ дзецьмі трапілі пад рэпрэсіі, сталі "ворагамі народу". У словах прамоўцаў гучалі ня толькі крыўда й боль за былыя пакуты, але непакой за сёньняшнюю Беларусь, дзе яшчэ ня скончылася эпоха дзяржаўнага тэрору супраць свайго народу.

Арганізатары плянуюць працягваць слуханьні штомесяц да кастрычніка наступнага году. Наступныя слуханьні мяркуецца правесьці напрыканцы студзеня на тэму "Тэрор супраць нацыянальнасьцяў". Гэтая тэма, на думку арганізатараў, тычыцца ня толькі гэтак званых "меншасьцяў", але й непасрэдна тытульнай нацыі – беларусаў.

"Мы павінны ня толькі яшчэ раз прыцягнуць увагу да злачынстваў савецкага рэжыму, якія не былі ў належнай ступені асэнсаваныя ані беларускімі элітамі, ані народам. Мы спадзяемся, што зварот да тэмы рэпрэсіяў патрэбны й дзеля зьменаў у сёньняшняй Беларусі", – заявіў адзін з удзельнікаў паседжаньня.

## На роднай мове выхоўваецца чалавек

Не магу без душэўнага хвалявання, а то і без слёз чытаць у "Народнай волі" распаведы Леанарды Юргілевіч, якая кранае балючыя, надзённыя тэмы. Адна з іх — падзенне грамадскай і сямейнай маралі, што вядзе да шматлікіх трагедый, калецтва лёсаў мноства людзей.

Адной з прычын гэтай страшнай з'явы, калі непаразуменні і душэўная глухата ў адносінах бацькоў і дзяцей, мужоў і жонак цягнуць за сабой сапраўдную катастрофу, мне бачыцца страта глыбокай веры ў Бога, забыццё мудрых народных традыцый і культуры з закладзенымі ў іх падмурак высокімі духоўнымі каштоўнасцямі. І найгалоўнейшай з іх — роднай мовай, у якой, можна сказаць, закадзіраваны высокія чалавечыя вартасці: дабрыня і спагада, прыстойнасць і душэўная чысціня. У ёй няма брыдкаслоўя, занесенага да нас, як злое семя, разам з русіфікацыяй, і да святога слова "маці" ў беларускай свядомасці ніколі не ліпне нешта гнюснае, агіднае.

Страчваем мову — страчваем духоўнасць. Яшчэ дзве з паловай тысячы гадоў таму вялікі кітайскі філосаф Канфуцый так сфармуляваў гэтую залежнасць: "На роднай мове выхоўваецца чалавек, на чужой — драпежнік". Шанавалі нашы продкі сваё, роднае — і ў іх была свая магутная дзяржава з высокім па тым часе ўзроўнем асветы, культуры, мастацтва, з адвагай бараніць сваю зямлю ад чужынцаў.

Чалавек без нацыянальных каштоўнасцяў усё роўна, прабачце, што абчэсаны слуп, без уласнага "я", без карэнняў і кроны, без адметных колераў і пахаў. Ён сам сабе і іншым мала цікавы, замбіраваны чужымі "ўстаноўкамі", не паважае ні Бога, ні чалавечыя законы, ні сваіх блізкіх. Не дбае аб будучыні — сваёй і сваіх дзяцей. Таму і адбываецца тое, што мы з болем бачым на кожным кроку і аб чым так усхвалявана піша Леанарда Юргілевіч. Калі кожны з нас не будзе адраджаць у сабе, сваёй сям'і беларускасць, ствараць вакол сябе яе ауру, мы як народ папросту загінем.

Дзіўна, што гэта ніяк не хоча зразумець наша апазіцыя. Колькі ні шукай кошку ў пакоі, дзе яе няма, колькі ні тусуйся па прынцыпе хоць "пяцёрак", хоць "дзесятак", колькі ні прыдумляй мудрагелістых праграм — выніку не будзе без ясна ўсвядомленай пазіцыі: духоўнасць, нацыянальная мова — перадумова дэмакратычнай, свабоднай Беларусі, якая павінна быць толькі беларускай па сутнасці.

Няўжо не ясна, што ўкраінская "аранжавая" рэвалюцыя — гэта не столькі перамога палітычных "тэхналогій", хоць іх ролю нельга адмаўляць, а перш за ўсё — народнага духу, увасобленага ў матэрыяльную сілу праз памкненне большыні грамадзян жыць сапраўды незалежна. Іх выбар — свабодна ладзіць жыццё разам з Еўропай, але на сваім, украінскім, нацыянальным падмурку. Толькі ў такой краіне кожны зможа жыць па-людску, адчуваючы сябе чалавекам.

У такім разуменні — зерне перамогі. На жаль, не бачу ў нашай апазіцыі зруху ў гэты бок. Ніяк яна не стоміцца наступаць на адны і тыя ж граблі, а яе кіраўнікі — пазбавіцца неразумных амбіцый.

Мікола КАНАХОВІЧ, афіцэр у адстаўцы.

## МОВА — НАША КУЛЬТУРА

Чаму сёння ў гарадах Беларусі родную мову пачуць амаль немагчыма? Няўжо яна захавалася толькі ў вёсках і ў мястэчках? Часам нават у школе на ўроках беларускай мовы настаўнікі выкладаюць прадмет па-руску. У мяне выклікае шок тое, што некаторыя жыхары нашай рэспублікі саромеюцца беларускай мовы і нават ненавідзяць яе. Не кажучы ўжо пра рэакцыю ў грамадскіх месцах, напрыклад у краме. Я была сведкай таго, як прадаўшчыца адрэагавала на ветлівы зварот маладога чалавека па-беларуску. На яе твары ўзнікла нейкае незадавальненне, нягледзячы на тое, што ўчора гэтая самая прадаўшчыца бегала ў вясковую школу.

Мне здаецца, што ў Беларусі тэрмінова трэба праводзіць беларусізацыю, каб захаваць нашу мову і культуру. На Украіне, дарэчы, паспяхова вырашаецца гэтая праблема. Выкладанне ў школах — толькі на ўкраінскай мове. Большая частка насель- ніцтва карыстаецца ўкраінскай мовай.

Але вернемся да Беларусі. Нямала беларускіх школ закрылася пасля 1995 года (калі рускай мове надалі статус дзяржаўнай). Вельмі мала беларускіх газет выдаецца на беларускай мове. Калі ўсё так і будзе працягвацца, то ў хуткім часе беларуская мова застанецца ў кнігах Янкі Купалы і Якуба Коласа — нашых славутых песняроў. Мова — гэта культура, згубім мову — згубім культуру. Давайце задумаемся над гэтым.